

ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ

№ 6 (114) 2015

# АБАЖУР

ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS



# «Абажур»: зроблена з любоўю!

Гэты навагодні нумар нашага карпаратыўнага выдання падрыхтавалі маладыя бажаўцы, стварыўшы грамадскую рэдакцыю. Мы вельмі стараліся, каб часопіс атрымаўся цікавым. Некаторыя з нас цэлымі днямі не спалі, а начамі не елі :) Тут ёсць таксама матэрыялы нашых старэйшых калег, якія, як мы хутка даведаліся, сапраўды начамі не спалі, каб адрэдагаваць некаторыя нашы тэксты.

Творчы працэс падштурхнуў нас да высновы, што галоўнай перашкодай для беларускай журналістыкі з'яўляецца ўсё ж лянота...

Безумоўна, вельмі цяжка працаваць, калі:

- ты фрылансер і не маеш афіцыйнага статусу;
- чыноўнікі ўпарта адмаўляюць табе у інфармацыі;
- ты церпіш адміністрацыйны пераслед за прафесійную дзейнасць;
- сайт твайго выдання цяжка чытаць, бо ён патрабуе рэдызайну;
- рэдактар цямніць з ганарарам і не бярэ цябе ў штат;
- за суседнім сталом калега бубніць па тэлефоне і абмяркоўвае ўчарашнюю вечарынку і г. д.

Але ўсё гэта і блізка непараўнальнае з лянотай. Многія нашы паспяховыя калегі штодня сутыкаюцца з пералічанымі тут праблемамі, але... Але прымушаюць сябе ўстаць раней, падрыхтавацца да прэс-канферэнцыі, сабраць болей інфармацыі, каб чытач атрымаў сапраўды змястоўны матэрыял!

Мы лічым, што ў XXI стагоддзі немагчыма думаць штампамі. Пра што яскрава сведчыць інтэрнэт, дзе многія дзяржаўныя СМІ цураюцца нават самай «канструктыўнай» крытыкі, а шматлікія журналісцкія жанры ў некаторых з іх можна ахарактарызаваць адным словам — прапаганда. Для нас жа цэнзуры не існуе, толькі Кодэкс прафесійнай этыкі, а яшчэ мы вольныя ў выбары тэм, якія сапраўды хвалююць людзей. І гэта саграваe душу.

Мы таксама лічым, што ў XXI стагоддзі журналіст не мусіць займацца якой-кольвек палітычнай дзейнасцю. Бо палітычная заангажаванасць цалкам знішчае давер да любога СМІ. Журналісты павінны асвятляць як поспехі, так і праблемы: у інстытутах дзяржаўнага кіравання, на апазіцыйнай пляцоўцы, у сацыяльна-палітычнай, эканамічнай, культурнай ды духоўнай сферы.

Калі мы будзем замоўчваць праблемы, рана ці позна яны вернуцца цяжкім бумерангам. І прынясуць пакуты і нам, і нашым дзецям, і будучым пакаленням. Як гэта было з чарнобыльскай катастрофай.

Паводле Канстытуцыі, журналісты маюць права на ўласнае меркаванне і свабоднае іх выказванне, як і кожны грамадзянін Беларусі, як кожны чалавек, які жыве ў цывілізаваным грамадстве. Мы верым у перспектыву незалежнай, праўдзівай журналістыкі.

Мы рабілі гэты нумар, не хаваючы ні сваіх, ні чужых меркаванняў. Спадзяёмся, што думкі, якімі мы дзелімся, узнімуць ваш настрой.

*Маладзёжная рэдакцыя аўтараў «Абажура» і адказны за тэматычнае напаўненне ды збор публікацый Барыс Гарэцкі*

Абажур

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS

ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!




***Выдавец:*** ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
***Перыядычнасць:*** 1 раз у 3 месяцы
Выдаецца са снежня 2000 г.
№ 6 (114) 2015 г.

***Галоўны рэдактар***
Уладзімір Барысавіч Дзюба

***Фота на першай вокладцы —***
Журналістку Настассю Рэзнікаву маладзёжная рэдакцыя «Абажура» назвала тварам нумара.
Фота Forward Studio

Выданне зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэгістрацыйны № 833 ад 04.12.2009.

Падпісана да друку 10.12.2015.
Дата выхаду 28.12.2015.
Фармат 60x84/8.
Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк.
Наклад 500 асобнікаў.
Заказ № 2207/3
Распаўсюджваецца бясплатна.



***Адрас рэдакцыі:***
***220030, г. Мінск,***
***вул. Камсамольская, 7–32.***
***Тэл./факс: (017) 203-63-66,***
***(029) 126-70-98***
***E-mail: abajur@baj.by,***
***baj@baj.by***
***Сайт: www.baj.by***



Друкарня ТАА «МЕДЫСОНТ»
ЛП № 02330/0552782 ад 01.10.2010 г.
Адрас: 220004, г. Мінск, вул. Ціміразева, 9.
Тэл.: (017) 203-74-10, 203-53-41,
(029) 623-74-10
medisont@gmail.com
www.medisont.com



# Будьте

Нобелевскую речь Светлане Алексиевич пришлось обдумывать, как говорится, под вспышки софитов — наш брат журналист спешил услышать, расспросить, повторяясь в расспросах-вопросах. Уютную тишину небольшой писательской квартиры атаковали телефонные звонки. Случай позволил «Абажуру» вклиниться в этот ритм с парой своих специфических вопросов.

***— Светлана, вот любопытная деталь: известие о присуждении Вам Нобелевской премии журналисты встретили как победу своей корпорации: она — наша! Литераторы, с которыми репортеры разговаривают, иногда фыркают: мол, скорее, она ваша… Вас не обижает причисление к журналистскому цеху?***

— Да, решение жюри Шведской академии в определенной степени новаторское. Оно обрадовало многих журналистов, и меня в том числе, что они услышали время. Время требует новых форм, старые формы не вмещают того, что происходит. И у нас уже нет времени медленно и долго сидеть и осмысливать события.

Смотрите, сколько произошло только в этом году! И пока я писала Нобелевскую речь, мир менялся несколько раз. Все быстро меняется. И поэтому содержание взрывает все формы! Оно ломает их, меняет. Меняется живопись, меняется литература. Это только, может, сидя в провинции — «у моря», как говорил Бродский, — можно думать, что есть некая «чистая литература», которая живет по однажды созданным законам и канонам… Все движется, и литература в том числе. И документ выходит за пределы документа.

Есть как бы правда, которую принято считать правдой. Но это тоже вещь относительная. Одно принято считать правдой в России, другое — в Америке или Англии. С одной стороны, люди разделены, а с другой — есть некая правда времени. И есть правда человека, его личная правда, его маленькая история. А из всего этого появляется большая История.

Поэтому как заниматься журналистикой? Надо заниматься хорошей журналистикой. А хорошая журналистика — это тоже одна из разновидностей отражения изменяющейся реальности. И наиболее мобильная, наиболее близкая людям,

# хорошими журналистами!

наиболее реактивная. Она быстрее всех влияет на человека, быстрее всех передает информацию.

Только мне кажется, вот с этой передачей информации надо понимать процесс, не упрощая. Есть механическая передача информации, а есть, как я называю, информация и тайна. Под тайной я понимаю вообще человеческое существование, человеческую жизнь.

Чтобы постигать эту тайну, надо быть хорошим журналистом.

***— Сейчас появилось много всяких форм, которые журналистам приходится осваивать: видео-, аудио-, мультимедия. И всё стараемся успеть. Но соберемся иногда журналистским кругом и признаёмся: почитать нечего. На наших страницах почитать нечего! Как нам не растерять в себе способность осмысливать в погоне за тем, чтобы вовремя и разнообразно передать информацию?***

— Я думаю, что хороший журналист — это (первое!) очень образованный человек. Не чеховский герой «Крыжовника», а человек, находящийся в постоянном движении. Очень много журналистов передо мной проходит. И практически это малообразованные люди. У такого человека нет ауры личности, которая могла бы взять ауру реальности, понимаете? Потому что это все взаимосвязано. И конечно, техника тут не поможет. Техника никогда не заменит личность. Все дело в личности. Надо быть вот этим сложным человеком, чтобы ты был равен тому, что происходит — времени, современному пониманию вещей, человека. Все дело в самом человеке пишущем.

А жанр и форма… Когда я долго после факультета журналистики, который окончила, искала себя, я пробовала разные жанры. Но стало очевидным — для меня, во всяком случае, так устроен мой глаз, мое ухо, что для меня правда как бы не вмещается в одно сердце, в один ум. Я поняла, что правда — неуловимая, таинственная вещь, она рассыпана. В каждом человеке кусочек этой правды, кусочек этой истории. Жизнь наша очень ускорилась, и «роман голосов» мне показался той формой, которая может передать мир, окружающий нас.

Жанр, которым я занимаюсь, очень сложный. С одной стороны, я добываю, разыскиваю материал как журналист. Если Флобер говорил о себе, что он — «человек-перо», то я могу сказать, что я — «человек-ухо». Я все время слушаю. Не только тогда, когда записываю человека, разговаривая с ним, но и где-нибудь в кафе, в такси, когда иду по улице. То есть ухо всегда на улице, я все время слушаю. Тут я как журналист. Уже потом, работая над материалом, осмысливая, я — литератор. Жанр очень сложный, требует очень много разных качеств. А журналистская работа мне всегда нравилась.

***— Попрошу прощения за то, что мы, журналисты, Вас в это время сильно «достали». Обещаю, что мы еще не раз и не два будем так усиленно Вас атаковать. Дай Бог Вам удачи — в Нобелевской речи, в поездках, в творческих поисках. С наступающим Новым годом!***

*Записала Татьяна Мельничук,*
*Фото Андрея Шавлюго*



*Барыс ГАРЭЦКІ*

# Як «Гавары праўду!» перакруціла словы Алексіевіч

**Абурэнне журналістаў і некаторых карыстальнікаў сацсетак літаральна за некалькі дзён да выбараў выклікаў штаб Таццяны Караткевіч — з нагоды некарэктнага (надта мякка кажучы) выкарыстання ў Фэйсбуку слова і славы першага ў гісторыі Беларусі Нобелеўскага лаўрэата.**




На першай «нобелеўскай» прэс-канферэнцыі ў цесным пакойчыку «Нашай Нівы» шаноўная Святлана Алексіевіч, адказваючы на пытанні журналістаў, заявіла: ***«...Я не пайду на выбары таму, што мы ж з вамі ведаем, хто пераможа. Напэўна, у яго будзе 76 %... Калі б я пайшла, галасавала б за Караткевіч. З жаночай салідарнасці. З-за таго, што я бачу нармальны твар, чую нармальную лексіку, якой я абсалютна не чую ад мужчын-палітыкаў...»*** (Поўны тэкст прэс-канферэнцыі можна знайсці на сайце газеты «Наша Ніва».)

Пасля такога выказвання Таццяну Караткевіч варта было б павіншаваць. Павіншаваць з тым, што малады палітык змагла заваяваць давер безумоўнага інтэлігента і аўтарытэта для многіх беларусаў.

Але… Вельмі хутка у Фейсбуку Таццяны Караткевіч з'явіўся цэлы шэраг банераў з Нобелеўскай лаўрэаткай. З партрэтам пісьменніцы, калажам, зробленым на замову Нобелеўскага камітэта і абароненым аўтарскім правам...

«Светлана Алексиевич против байкота и за Караткевич» — напісана на банеры ў FB, што сабраў пад сабой вялікую колькасць лайкаў…

Ён і да гэтага часу вісіць на старонцы палітыка. Аднак літаральна адразу пад постам пачалі з'яўляцца і здзіўленыя каментары нашых калег-журналістаў.

«Светлана давала согласие на использование ее в предвыборной кампании?» — звяртаецца да адміністратараў старонкі фатограф **Юлія Дарашкевіч**.

«Я тоже хочу получить ответ на вопрос, было ли получено согласие Алексиевич на публикацию ее фотографии и данных слов (публично таких не звучало, цитата была другой)», — працягвае дамагацца праўды ад «Гавары праўду!» блогер **Дар'я Каткоўская**.

Але аператыўнага адказу ад штаба Таццяны Караткевіч не прагучала. Без адказу засталося такое пытанне і калі яно двойчы было зададзена апазіцыйнаму кандыдату падчас онлайн-канферэнцыі на інтэрнэт-сайце Naviny.by 9 кастрычніка.

Мала таго, штаб Караткевіч пайшоў на «разборкі». Кіраўнік «Гавары праўду!» **Андрэй Дзмітрыеў** наважыўся «наехаць» у Фейсбуку на **Таццяну Каравянкову** (БелаПАН) і выказаў

# і чаму ім за гэта нічога не будзе

ўпэўненасць у правамоцнасці і маральнасці прадэманстраваных штабам падыходаў.

«Мы процитировали Светлану Александровну про бойкот и ее отношение к Татьяне Короткевич. Она это сказала публично», — напісаў палітык.

Каб разабрацца, чаму палітыкі, што заяўляюць пра сваю дэмакратычнасць, падмянілі словы Нобелеўскага лаўрэата і так ўпарта сыходзяць ад любых пытанняў пра гэта, карэспандэнт «Абажура» звярнуўся да адказнага ў кампаніі за стасункі з прэсай **Аляксандра Уліцёнка**.

— Ніхто ў штабе кампаніі да гэтага рук не прыкладаў, можаце мне паверыць. Галаву даю на адсячэнне, — запэўніў Аляксандр.

Праз дваццаць хвілін высвятляецца, аднак, што старонка ў папулярнай сацсетцы ўсё ж належыць штабу Таццяны Караткевіч. І «начыннем» займаецца Андрэй Алферчык. Звяртаемся да яго.

— Акаунт Таццяны Караткевіч сапраўды наш. Лога была ўзята з сайта Нобелеўскай прэміі, словы Алексіевіч мы ўзялі з інтэрв'ю, фотаздымак пісьменніцы быў у інтэрнэце ў свабодным доступе. Наколькі я ведаю, каб выкарыстоўваць фотаздымкі, ніякага спецыяльнага дазволу не трэба, — патлумачыў **Андрэй Алферчык**.

Сітуацыя вельмі падобная на колішняе выкарыстанне Зянонам Пазьняком «фота са свабоднага інтэрнэта», калі фотаздымкамі беларускіх фатографаў была аздоблена кніга палітыка і дазволу ў аўтараў фота ніхто не пытаўся. Фатографы абураліся, але ў суд не пайшлі. Хоць, па словах юрыстаў, справа магла завершыцца досыць важкімі грашовымі спагнаннямі.

Юрыст ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» **Алег Агееў** гаворыць, што і ў сёлетнім гучным выпадку, хутчэй за ўсё, ніхто са штабу Караткевіч адказнасці за парушэнне аўтарскага права не панясе.

«У гэтай гісторыі я бачу два моманты, за якія актывісты штабу Таццяны Караткевіч маглі б панесці адказнасць. Па-першае, гэта скажэнне словаў Святланы Алексіевіч. Калі б пісьменніца ўбачыла ў трактоўцы «Алексиевич против бойкота» дыфамацыю, яна магла б звярнуцца з адпаведным пазовам у суд. Але амаль на сто адсоткаў упэўнены, што Алексіевіч такімі дробнымі разборкамі з палітыкамі займацца не будзе.

Другі момант, за які актывісты кампаніі «Гавары праўду!» маглі б панесці адказнасць, — гэта ўласна парушэнне аўтарскіх правоў на фотаздымак і калаж Нобелеўскага камітэта. Але для гэтага ізноў жа патрабуецца заява праваўладальнікаў выкарыстаных фота ці калажа.

Таму з амаль поўнай верагоднасцю можна сказаць, што ніхто ў дадзеным выпадку адказнасці не панясе. Хіба толькі калі з'явяцца аўтары фота, выкарыстанага ў банеры штаба Караткевіч, і прынцыпова запатрабуюць выканання ўласных аўтарскіх правоў», — тлумачыць сітуацыю Алег Агееў.

Ну а пакуль журналісцкая супольнасць яшчэ дыскутуе пра маральнасць і аўтаркія правы, у штабе Таццяны Караткевіч заяўляюць, што ўжо рыхтуюцца да новых, цяпер ужо парламенцкіх, выбараў. І банер са Святланай Алексіевіч з уласнай старонкі не здымаюць. :)



# Что делать, когда никто не виноват?

**Условием существования в политической системе является политическое участие. Кто не участвует, тот маргинализируется.**



*Сергей НИКОЛЮК*

Есть такая профессия — политолог. Белорусские политологи отличаются от белорусских неполитологов, во-первых, глубокими знаниями профессиональных терминов, количество которых колеблется в широком интервале от 10 до 15. Во-вторых, и это главное, умением составлять неограниченное количество предложений с использованием ограниченного словесного материала.

Судить столь категорично о белорусских политологах автору позволяет собственный опыт, который он приобрел за годы работы на ниве белорусской политологии.

Тема настоящей статьи — президентские выборы. На вкус и цвет товарищей нет. Для кого-то выборы — это цирк. Для кого-то — душераздирающее зрелище. Но были и те, кто, наблюдая за выборами, «гордились самими собой и гордились нашим народом». К последней категории граждан (группе?) принадлежит и глава нашего государства, о чем он торжественно заявил 6 ноября на церемонии принесения присяги.

Еще пять лет назад многочисленные соперники единственного белорусского политика победно растопыривали два пальца (указательный и средний), что должно было символизировать неизбежность электоральной победы. Однако восемь частных оппозиционных побед не слились в одну общенациональную. Количество не перешло в качество. Почему?

Ответ на этот вопрос был получен в ходе президентской кампании 2015 года: выборов в Беларуси нет.

## Да будет Свет! Да сгинет Тьма!

Отсутствие выборов оппозиция объясняет спецификой работы участковых избирательных комиссий. Эта специфика закладывается уже при формировании их персонального состава. Зайдем на официальный сайт ЦИК. Доля представителей политических партий в участковых комиссиях составила всего 4,4 %. Но из 2936 партийцев оппозиционеров оказалось только 30 человек. И это на 6080 комиссий!

Попытаюсь подвести под эту *арифметику* теоретическую базу. «Подлинный» авторитаризм не нуждается в выборах. Ни Каддафи, ни Франко, ни Хусейн не устраивали инсценировок смены власти или публичного одобрения политического курса. Но белорусский авторитарный режим до уровня «подлинного» не дотягивает. Он проходит по категории режимов электорального авторитаризма и потому регулярно проводит выборы, демонстрируя сам себе массовую поддержку населения.

Однако не следует путать божий дар с яичницей. В демократических странах на президентских выборах кандидаты от оппозиционных партий противостоят кандидату партии власти. **В Беларуси оппозиционные кандидаты противостоят ГОСУДАРСТВУ**. Почувствовали разницу?

В ноябре 2016 года в США пройдут президентские выборы. На чьей стороне будет Федеральное бюро расследований, армия и судебная система? На стороне кандидата от демократической партии, чей представитель сегодня занимает Белый дом, или на стороне кандидата от республиканской партии? Если задать подобный вопрос рядовому американцу, он вас просто не поймет.

Президентские выборы в Беларуси — это серьезный экзамен для властной «вертикали» и прежде всего для правоохранительных органов. Тот, кто в этом сомневается, может зайти на президентский сайт и ознакомиться с пресс-релизом посещения Лукашенко войсковой части специального назначения внутренних войск МВД 5 марта 2015 г.

Какая свадьба без баяна! А какие выборы без спецназа! Далее цитирую по пресс-релизу: «…есть в нашей стране небольшая кучка людей, кто-то их называет “оппозицией”, или они так себя

называют, которые не только извращают историю, превознося фашистских пособников кровавых дел, но и всеми силами пытаются дестабилизировать обстановку в обществе. Агрессивные формы политической борьбы они демонстрируют и в ходе разного рода политических кампаний. Поэтому существует определенная вероятность провокационных действий, которые должны быть в соответствии с законодательством пресечены на начальной стадии».

Обратите внимание на дату. Президентские выборы запланированы на октябрь, но превентивные меры по предотвращению провокационных действий со стороны *небольшой кучки людей* разрабатываются уже в марте.

Главная особенность белорусских выборов всех уровней заключается в предложении избирателям только двух опций. Чтобы далеко не ходить за примером, обратимся к предвыборной программе Лукашенко образца 2015 года: «Ведь, по сути, сегодня перед страной всего два пути.

Один путь вперед — к сохранению стабильности и порядка, свободы и независимости. Это путь единства и согласия, развития и прогресса. Это путь мира и созидания.

Другой путь назад — к смуте и хаосу «девяностых», бандитскому капитализму и дележу собственности, к ослаблению государства и потере независимости. Это путь революции, крови и войны».

Я полагаю, читатели догадались, какой путь олицетворяет нынешний президент, а какой — его оппоненты.

Перед нами образец черно-белого восприятия мира. На языке культурологии подобное восприятие принято называть манихейством (от имени иранского религиозного реформатора Мани). «В манихейском сознании, — поясняет культуролог Игорь Яковенко, — мир предстает как арена вечной борьбы двух космических сил — Света и Тьмы, Добра и Зла, духа и материи. Однажды эта борьба завершится победой Света и духи Зла будут сброшены в бездну».

Сам манихей, естественно, находится на стороне Света. Жизнь он воспринимает как борьбу, которую следует вести до полного поражения противника. Диалог возможен, но как способ выиграть время для нанесения смертельного удара. Любые компромиссы всегда нетерпимы и постыдны.

Противник манихея в любом случае исчадие ада. Если он занимается политикой, то лишь для того, чтобы ввергнуть страну в хаос, и делает это не по собственной инициативе, а по наставлению своих западных хозяев. Разумеется, не бескорыстно, а за тридцать серебряников.

При таком представлении о возможных последствиях выборов инспектирование войсковой части спецназначения внутренних войск МВД за пять месяцев до голосования выглядит вполне разумным.

Но спецназ — далеко не единственный рубеж обороны, призванный защитить силы Света от наглых посягательств сил Тьмы во время электоральных кампаний. Первый оборонительный рубеж, с которым сталкиваются кандидаты сил Тьмы, — участковые избирательные комиссии.

6080 комиссий — это более 70 тыс. бойцов, это 4—5 полноценных отборных электоральных дивизий, укомплектованных не просто профессионалами, а истинными патриотами, беспощадными к врагам белорусской модели. За 19 лет (отсчет ведется с ноябрьского референдума 1996 г.) ни одного серьезного прокола. Таков уровень учебно-воспитательной работы в боевых подразделениях первой линии обороны!

## «Тучные» годы остались в прошлом

Необязательно считать себя политологом, чтобы осознать мизерность шансов оппозиции на прорыв первой линии обороны. А за первой линией расположена вторая, за второй — третья и т. д. Означает ли это, что электоральному авторитарному режиму, как и *тысячелетнему Рейху*, гарантировано политическое бессмертие? История таких гарантий не дает.

Белорусский режим принято считать персоналистским, т. е. построенным на власти лидера и его ближайшего окружения. Такие режимы менее живучи, чем однопартийные диктатуры (средняя продолжительность пребывания у власти — 15 лет против 23 лет у однопартийных и 9 — у военных). Логика тут проста: чем больше институтов допускает национальный лидер, тем на больший срок он может рассчитывать.



Персоналистские режимы более чувствительны к экономическим и внешним шокам. «Во-первых, — поясняет политолог Екатерина Шульман, — потому, что богоданный лидер должен перманентно доказывать свою способность производить из ничего мед и манну. Трудности приемлемы, но они должны быть временными. Во-вторых, что важнее, такого рода режимы держатся на подкупе элит, а когда

окошечко, где выдают плату за лояльность, закрывается, очередь, которая только что стояла сплоченной фалангой, мгновенно растворяется в воздухе».

Пятый президентский срок Лукашенко — это заявка на уникальность. Ее объяснение следует искать не в личных качествах политика, а в российских дотациях, достигавших в «тучные» годы 16 % ВВП.

В течение 10 из последних 15 лет доходы белорусов прирастали двузначными темпами. Такая динамика и была главным условием белорусской стабильности. Отдельные исключения (например, 2011 год с трехкратной девальвацией) только подтверждали общее правило. Но «тучные» годы остались в прошлом. Белорусская модель свой ресурс исчерпала. А это означает, что Лукашенко утратил способность производить из ничего мед и манну.

Подкреплю данный вывод еще одной порцией политологической статистики. В Южной Америке между 1946-м и 1988 г. у авторитарного режима, имевшего положительные показатели экономического роста за определенный год, вероятность сохраниться в течение следующих 12 месяцев равнялась 92 %, у режима, имевшего в течение года отрицательные показатели роста, — 82 %, а у режима, испытавшего снижение роста в течение двух лет подряд, — 67 %.

Но к любой статистике следует относиться без фанатизма. Как человек с химическим бэкграундом, напомню читателям, что неустойчивость радиоактивных элементов измеряется периодом полураспада. Однако знание данного параметра не позволяет определить время жизни конкретного ядра.

В политике время жизни конкретного авторитарного режима определяется букетом внутренних и внешних параметров, среди которых активности оппозиции отведена достаточно скромная роль. **И эту роль оппозиция способна сыграть только в случае распада государства**.

## Политическое движение рождается в момент действия

Но если бороться за власть бессмысленно, в том числе путем участия в электоральных кампаниях, чем же тогда заниматься оппозиции, силам Тьмы?

Можно воспользоваться советом Конфуция: сидеть спокойно на берегу Свислочи и ждать, когда мимо проплывет труп твоего врага. Если вы китаец и способны мыслить столетиями, ваши ожидания рано или поздно сбудутся.

Совет Конфуция, переведенный на современный язык, есть не что иное, как пассивный бойкот. Людям нетерпеливым я могу посоветовать от пассивного бойкота перейти к бойкоту активному. Но есть ли в подобном переходе смысл?

Обратимся к исследованию «Угрожай, но участвуй» американского политолога Мэттью Френкеля, проанализировавшего более 100 кампаний электорального бойкота с 1990-го по 2010 г. Он выяснил, что игнорирование выборов оппозицией эффективно, только если оппозиция достаточно влиятельна, чтобы своим неучастием сорвать выборы. Несложно заметить, что это не белорусский случай.

Во всех остальных ситуациях к изменению режима ведет не бойкот, а участие. Смысл участия, однако, не в победе на выборах. Френкель формулирует три признака успешной политической кампании:

— широкое участие: баллотируйтесь во все, что избирается;

— публичность: все действия оппозиции должны быть гласными;

— своевременность действий: если вы будете копить силы, дожидаясь часа X, то он настанет без вас.

Последний вывод является ключевым. «Надо помнить: условием существования в политической системе, — тут я вновь цитирую Евгению Шульман, — является политическое участие, которое осуществляется посредством политической организации: единицей процесса является не личность, а группа. Под организацией необязательно понимать нечто вроде партии большевиков или профсоюза горняков: в постмассовом обществе наиболее эффективны структуры не вертикальные, а сетевые. Группу делает группой не наличие членских билетов и руководства, а совместное действие. <…> Цинично выражаясь, если вы хотите иметь сторонников, заставьте людей что-то делать вместе — результат не важен. В момент совместного действия и рождается политическое движение».

В Беларуси сторонники бойкота оправдывают свое бездействие моральными победами, которые они якобы одерживают над режимом. Среди «победителей» имеется даже легально зарегистрированная партия. За два последних десятилетия она собрала уникальную коллекцию подобных побед. Вот только я никак не могу вспомнить ее название.

***

Без распада государства смена власти в авторитарных режимах невозможна. Но сам по себе распад такого типа государства не гарантирует перехода власти к демократической оппозиции. Для того чтобы в этом убедиться, достаточно даже беглого взгляда на итоги горбачевской перестройки: только три республики из пятнадцати смогли избежать реставрации авторитаризма в его постсоветском обличии.

# Пра спіраль маўчання і прапаганду,

## якая робіць жыццё ўлады больш лёгкім

На штогадовую міжнародную канферэнцыю ў Мінску «Дзелавы інтэрнэт» сабраліся некалькі соцень IT-спецыялістаў, рэкламшчыкаў, медыяэкспертаў і журналістаў. Асобную панэль адмыслоўцы прысвяцілі выдавецтву і СМІ. Гаворка тут ішла пра найноўшыя трэнды ў інтэрнэце, заканадаўства, сучасную методыку хлуслівай прапаганды і спосабы, якімі ёй можна супрацьстаяць.



### Трэнды інтэрнэта

***Дырэктар па развіцці партёрскай сеткі кампаніі Opera Mediaworks Алеся Доля распавяла пра найноўшыя трэнды ў псіхалогіі карыстальнікаў інтэрнэта і сучаснага інтэрнэт-спажывання:***



**Алеся Доля,** дырэктар па развіцці партнёрскай сеткі кампаніі Opera Mediaworks. Выкладчык Нацыянальнага даследчага ўніверсітэта «Вышэйшая школа эканомікі» (Расія), дысцыпліны «Інтэрнэт-маркетынг», «Мабільны маркетынг і рэклама»

— Першы сучасны трэнд спажывання інтэрнэта — **персаналізацыя**. Напэўна, вы звярталі ўвагу, што калі ўводзіш адзін і той жа пошукавы запыт на розных прыстасаваннях, часта атрымліваеш розныя адказы. Гэта не памылка, а вынік працы разумных машын, якія падбіраюць адказ у адпаведнасці з інфармацыяй пра карыстальніка. Вынік пошуку залежыць ад шматлікіх фактараў: вашага месца знаходжання, сацыяльна-дэмаграфічных паказчыкаў, вынікаў папярэдняга пошуку і г. д. Адпаведныя дадзеныя мы самі нярэдка паведамляем сацыяльным сеткам, сайтам і іншым пляцоўкам.

Напрыклад, зараз сталі вельмі моднымі інтэрнэт-тэсты кшталту «На якую жывёлу я падобны?», «Якім я буду праз 50 гадоў?», «Хто з'яўляецца маёй роднай душою?». Тут няма чаго саромецца, бо гэта fun (жарт). Але сорамна павінна быць тым, хто праходзіць такія тэсты і пры гэтым падпісвае петыцыі аб абароне персанальных дадзеных у інтэрнэце, бо менавіта праз такія апытанні свае персанальныя дадзеныя мы паведамляем машынам самі.

Такая ж сітуацыя ў сацыяльных сетках і СМІ. Напрыклад, у вас у Фэйсбуку 500 сяброў. Зразумела, што ніводзін нармальны чалавек не зможа кожны дзень адсочваць інфармацыю пра усіх. *Facebook* аналізуе узровень вашых узаемадзеянняў з сябрамі. Калі вы даўно не каментавалі альбо не лайкалі постаў таго ці іншага сябра, разумныя машыны паступова прыбіраюць інфармацыю пра гэтага чалавека з вашай стужкі навінаў. Тое ж самае адбываецца і з разумнымі сайтамі: калі

машыны ведаюць, што вам не падабаецца тая ці іншая футбольная каманда, яны перастаюць паказваць вам навіны пра яе, не паказваюць навіны з вызначаных сайтаў і г. д.

Наведвальнікі вельмі любяць упарадкоўваць спосабы карыстання інтэрнэтам: робяць пэўныя настройкі ў браўзерах, закладкі. Гэта таксама дазваляе машынам падбіраць для чалавека менавіта той кантэнт, які хутчэй за ўсё будзе яму цікавы. Усё, што вы сказалі або напісалі ў інтэрнэце, будзе выкарыстана! Выкарыстана у першую чаргу для рэкламы. І многія кампаніі зладзілі сапраўдную гонку за дакладнымі таргетамі. Часам рэкламадаўца кажа: я, маўляў, хачу паказаць сваю рэкламу мужчыне, якому 29 гадоў, у якога ёсць Ford і нядаўна нарадзілася дзіця. Дзякуючы гэтай гонцы ў свеце з’явіліся сістэмы па, груба кажучы, продажу карыстальнікаў як таргетаванага мяса. Нават мабільная таргетаваная рэклама з’явілася — у нашых з вамі тэлефончыках, дзе ўсё роднае і знаёмае, яна падстройваецца пад нашы звычкі.

Наступны важны трэнд, які зараз заўважаецца ў інтэрнэце, — **страта ўвагі**. Гучыць як страшны медычны тэрмін, але развілася сапраўдная эпідэмія кліпавага мыслення: карыстальнік сёння ў большасці сваёй проста не можа засяродзіць увагу на відэароліках, даўжэйшых за 1—1,5 хвіліны. Калі мы кажам пра прагляд рэкламных ролікаў, то лічыцца, што глядач можа затрымаць увагу на працягу 10 секунд! А калі ролік паўтараецца, гэты параметр зніжаецца да 3—4 секунд.

Зніжэнне інфармацыйнай увагі — той выпадак, калі вы бачыце ў сваіх чатах, блогах надпіс «сслишкоммногабукаф». Гэта тычыцца не толькі рэкламнага кантэнту, але і звычайных паведамленняў. На жаль, сёння сярэднестатыстычны карыстальнік ужо не можа ўспрымаць вялікія тэксты. Лічыцца, што сярэдняя праглядаемасць таго ці іншага матэрыялу — гэта памер аднаго экрана на *desktop* ці памер аднаго экрана на смартфоне. Можа быць дадаткова яшчэ адзін скрол, але вельмі рэдка.

Яшчэ адзін найноўшы трэнд — **страта памяці.** Раніцай, калі чалавек па дарозе на працу прачытаў і ўпадабаў той ці іншы артыкул, то праз дзве гадзіны ён можа не прыгадаць, пра што і дзе быў той артыкул. Памяць сучаснага чалавека адносна праглядаемых старонак у інтэрнэце абмяжоўваецца ўсяго некалькімі хвілінамі. Гэта паказвае, што мозг проста не здольны запамінаць такую колькасць інфармацыі, ён яе забывае.

У трэндзе таксама **напісанне інфармацыйных матэрыялаў робатамі.** І такіх матэрыялаў з кожным днём усё больш і больш. Мы заходзім на старонку СМІ і думаем, што матэрыял напісаў журналіст. А гэта зусім не так, бо сёння шмат чаго выконваюць робаты. Багата інфармацыі, якая з’яўляецца толькі перапостам ці кампіляцыяй ужо існуючых матэрыялаў. Магчыма, у Беларусі гэта яшчэ не так распаўсюджана, але для вялікіх рынкаў гэта рэальнасць. Адсутнасць арыгінальнага кантэнту — сапраўдная хвароба сучасных СМІ.

Наступныя трэнды тычацца менавіта інтэрнэт-спажывання і рэкламы, іх вывучэнне будзе карысна уладальнікам рэсурсаў і дазволіць лепш спазнаць аўдыторыю сваіх карыстальнікаў, каб рыхтаваць для яе адпаведны кантэнт.

Паводле ўсіх сучасных даследаванняў наперад у інтэрнэт-спажыванні вырываюцца **сацыяльныя сеткі.** Здавалася б, людзей павінны больш цікавіць нейкія глабальныя навіны, падзеі... Але не, іх займае менавіта інфармацыя з сацыяльных сетак. На другім месцы, паводле статыстыкі, ідуць гульні, на трэцім — музыка і відэа. І толькі потым усе магчымыя навінавыя парталы, бізнес-парталы, фінансавыя, спартовыя, то-бок наша жыццё ўступіла ў эпоху спажывання.

Наступны трэнд тычыцца **дэвайсаў.** Калі нехта яшчэ думае, у якую платформу ўкладацца, то гэтыя ваганні даўно наспеў час спыніць. Сёння абсалютна упэўнена лідыруюць прылады на аперацыйнай сістэме *Android*.

Далей — **онлайн-адукацыя.** Мільёны людзей па ўсім свеце зараз вельмі актыўна цікавяцца, як атрымаць онлайн-адукацыю праз сеціва. У кожным рэгіёне ёсць шмат онлайн-курсаў, якія любому дапамогуць навучыцца ўсяму — ад пасадкі агуркоў да квантавай фізікі. Адсюль вынікае, што калі тое ці іншае выданне завяжа партнёрскія адносіны з нейкімі онлайнавымі адукацыйнымі курсамі, гэта можа даць вельмі станоўчы вынік.

**Асобныя каналы спажывання кантэнту.** Сёння ў вялікіх рэсурсаў ужо ёсць адгалінаванні, якія дазваляюць карыстальніку лепш арыентавацца ў тым ці іншым інфармацыйным сегменце, не паглыбляючыся ва ўвесь вал інфармацыі на сайце. Напрыклад, lady.tut.by, afisha.tut.by... Яны дазваляюць канцэнтравацца на спецыяльна адабраным кантэнце, чым прываблiваюць карыстальнікаў.

Сёння таксама папулярны **adblocking.** Спецыялісты сур’ёзна загаварылі пра яго зусім нядаўна, але мы ўжо назіраем істотны рост распаўсюду праграмнага забеспячэння, якое дазваляе карыстальнікам абараняць сябе ад рэкламы. Ёсць людзі, якія хочуць заблакаваць абсалютна ўсю рэкламу, а ёсць тыя, хто не любіць толькі нейкую канкрэтную. Акрамя таго, у трэндзе **Privacy** — нежаданне карыстальніка атрымліваць інфармацыю на сваёй прыватнай тэрыторыі.

Апошні трэнд, на які я хачу звярнуць увагу, — **мабільныя сайты** супраць спецыялізаванай праграмы. Раней гэта пытанне было адкрытым, і людзі думалі, куды лепш укласціся — у мабільны

сайт ці ў мабільнае дастасаванне. Сёння мабільныя версіі сайтаў адназначна вядуць рэй. Спажыванне такіх версій у 2 разы вышэй, чым дастасаванняў.

## «Мы дазваляем сябе падманваць і нават атрымліваем ад гэтага задавальненне»

***У межах «Дзелавога інтэрнэта» загадчык кафедры сувязяў з грамадскасцю Маскоўскага дзяржаўнага інстытута міжнародных адносінаў (МГИМО) Валерый Салавей распавёў пра механізмы і эфектыўнасць сучаснай прапагандысцкай машыны.***

***Даклад на гэту даволі вострую тэму сабраў шмат слухачоў, многія з якіх спачатку паставіліся да госця з Масквы насцярожана, аднак пазней зразумелі, што перад імі сапраўдны інтэлігент і навукоўца высокага ўзроўню.***

— Беларусы і расіяне цягам апошніх двух гадоў назіраюць за адраджэннем такой з'явы, як прапаганда. Раней нам, навукоўцам, здавалася, што гэта слова ўжо забытае, але зараз яно ізноў атрымала вялізную актуальнасць. Сёння нашы краіны знаходзяцца пад уздзеяннем самай магутнай сучаснай прапагандысцкай машыны.

**Чаму прапаганда эфектыўная і ці можна ёй супрацьстаяць?** Гэта даволі сур'ёзныя пытанні, на якія спрабуюць адказаць многія разумныя людзі ў нашых краінах.

Што тычыцца эфектыўнасці прапаганды, то тут ёсць два тлумачэнні. Першае: прапаганда — гэта легітымны спосаб уплыву на грамадства. Я думаю, многія з нас памятаюць знакамітую фразу Аль Капонэ: «З дапамогай пісталета і добрага слова можна дамагчыся значна болей, чым з дапамогай толькі пісталета, ці толькі добрага слова». Калі спрасціць, то любая дзяржава выкарыстоўвае пісталет — адміністрацыйна-паліцэйскі апарат і «добрае» слова — прапаганду.

Самае галоўнае для ўладаў — зрабіць так, каб людзі не лічылі, што на іх уплывае прапаганда, а думалі, што яны самі прыйшлі да патрэбных дзяржаве высноваў. Менавіта гэтым сучасная прапаганда і адрозніваецца ад савецкай.

Другое тлумачэнне: прапаганда эфектыўная таму, што людзі самі яе патрабуюць. Мы арганізаваныя такім чынам, што дазваляем сябе падманваць і нават атрымліваем ад гэтага асалоду. Сучасныя людзі не хочуць думаць. Наогул мысленне — гэта самы складаны працэс чалавечага арганізма.

Прыходзячы з працы, дзе мы і так заклапочаныя вялікай колькасцю праблем, дома перад тэлевізарам мы хочам атрымаць інфармацыю у забаўляльнай форме, каб не трэба было думаць. Дзе было б усё зразумела і прыгожа.

Менавіта таму сучаснае палітычнае ці сацыяльнае пасланне разлічана на 14—15-гадовага падлетка. Калі гэты падлетак разумее, што кажуць па тэлебачанні, — значыць, прапаганда паспяховая. А яшчэ 40 гадоў таму ўзровень прапаганды адпавядаў першаму курсу ўніверсітэта.

Да таго ж людзі — істоты, якія патрабуюць тлумачэння тых ці іншых фактаў. Вось тэлебачанне і прапануе ім вельмі даступнае тлумачэнне, над якім не трэба думаць.

А яшчэ абсалютная большасць людзей ў нашым грамадстве — канфармісты. Яны будуць пагаджацца з усім, што будзе навязваць дзяржава. Гэта замацавалася амаль на генетычным узроўні, што спрыяе стварэнню спіралі маўчання. **Спіраль маўчання** — такі эфект, калі людзі баяцца выказваць асабістыя меркаванні, супрацьлеглыя пачутаму «з тэлевізара», бо думаюць, што яны знаходзяцца ў меншасці. Гэта асноўны механізм кіравання людзьмі.



**Валерый Салавей,** доктар гістарычных навук, прафесар, загадчык кафедры сувязяў з грамадскасцю МГІМО. Палітычны аналітык, публіцыст.

Спіраль маўчання ствараецца вельмі проста: з дапамогай сацыялагічных апытанняў, якія публікуюцца ў СМІ, заключэнняў экспертаў і г. д. Існуе шмат сродкаў для стварэння бачнасці адзінадушша ў грамадстве. Усё робіцца настолькі рэалістычна, што ўжо ніхто не адважваецца на пратэст.

Я на 100 % перакананы, што прапаганда шкодная для здароўя. Думаю, кожны гэта можа заўважыць, калі прыгледзіцца да «прыхільнікаў» тэлебачання. Я лічу, што глядзець ТБ можна наогул не больш за 20 хвілін у дзень. Калі чалавек чытае прапагандысцкі тэкст, ў яго яшчэ застаецца магчымасць падумаць. Калі ж ён глядзіць ТБ, то такая магчымасць амаль цалкам знікае.

Да таго ж узровень даверу да тэлебачання ў нашым грамадстве вялізны. Вельмі часта тая ці іншая інфармацыя, каб ёй давяралі, абавязкова праходзіць інстытуалізацыю на ТБ. Бо абсалютная большасць людзей перакананая, што па тэлебачанні гавораць толькі праўду. Пры гэтым людзі прызнаюцца, што тую ці іншую праблему, якая многіх хвалюе, на дзяржаўных тэлеканалах ніколі не пакажуць. Але па-ранейшаму працягваюць свята верыць тэлевізару.

**Прапаганда робіць жыццё ўлады больш лёгкім.** Прывяду невялікі прыклад. Амаль два гады расійскае тэлебачанне падрабязна расказвала сваім гледачам пра Украіну. Гэта была самая галоўная падзея ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі, і яна вельмі дапамагала ўладам адцягнуць увагу людзей ад праблемаў у Расіі, дзе паглыбляўся эканамічны крызіс. Сапраўды, навошта акцэнтаваць увагу на крызісе, калі «ва

Украіне ідзе грамадзянская вайна»?! Зараз гэта месца заняла інфармацыя пра падзеі ў Сірыі, дзе прапагандысты ізноў раскручваюцца напоўніцу.

Я вельмі часта раю сваім студэнтам паглядзець вечаровыя выпускі навінаў і пазначыць, колькі часу і ў якім парадку паказваюць сюжэты пра тыя ці іншыя падзеі.

Зараз гэта выглядае так: Сірыя, Сірыя, ізноў Сірыя, крышачку пра Украіну і крышачку пра барацьбу з карупцыяй. Гэта таксама спіраль маўчання. Навязваецца меркаванне, што людзей зусім не цікавяць крызіс, рост цэнаў і ўласныя праблемы. А самая галоўная праблема для кожнай расійскай сям'і — Сірыя!

**Змагацца з прапагандай можна толькі тады, калі ёсць магчымасць адказваць прапагандай на прапаганду.** У Беларусі ж, дзе тэлебачанне цалкам падкантрольнае дзяржаве, з даступных метадаў застаецца толькі інтэрнэт. Але вам, ды і нам, не варта губляць надзею. Здараюцца выпадкі, калі па зусім незразумелых прычынах спіраль маўчання рвецца і выклікае перамены. Таму калі-небудзь мы можам зранку ўстаць і пайсці на працу, а ўвечары апынуцца ўжо ў зусім іншай краіне.

## «Прафесія журналіста ў нашай краіне патрабуе вялікага пачуцця ўласнай годнасці і грамадзянскай мужнасці»

***Генеральны дырэктар УП «Надзейныя праграмы» Людміла Чэкіна расказала пра цікавосткі і падводныя камяні паправак у беларускі Закон аб СМІ, якія паспешліва прынялі напрыканцы 2014 года. Пра некаторыя з іх не ўсе калегі нават і ведаюць, хаця пражылі побач з імі цэлы год.***

— У новым заканадаўстве па-ранейшаму ёсць мноства падводных камянёў, якія яшчэ не выкарыстоўваліся на практыцы, але хаваюць у сабе вялікую небяспеку.



**Людміла Чэкіна** ва УП «Надзейныя праграмы» прыйшла ў 2008 годзе на пасаду юрысконсульта, потым працавала намеснікам генеральнага дырэктара кампаніі па прававых пытаннях. З 2012 года выконвае абавязкі генеральнага дырэктара.

Пройдземся па Законе аб СМІ. Так, згодна з ім, прадукцыя замежнага СМІ можа распаўсюджвацца ў Беларусі толькі пасля атрымання замежным медыя адпаведнага дазволу ў Мінінфармацыі. Паводле ж новаўвядзенняў, прадукцыя СМІ — гэта не толькі газеты, тэле- і радыёканалы, але і матэрыялы інтэрнэт-сайтаў.

Адсюль вынікае, што ўсе замежныя сайты, каб распаўсюджваць інфармацыю ў Беларусі, проста абавязаныя атрымаць дазвол Мінінфармацыі. Норма пакуль не прымяняецца на практыцы, але юрыдычна існуе.

Наступны аспект: абмежаванне доступу да сайтаў. Тут цікавым і станоўчым момантам з'яўляецца тое, што, аказваецца, блакіроўка сайта можа ажыццяўляцца не пазней за 3 месяцы з даты ўзнікнення падставаў для гэтага. У перакладзе з юрыдычнай мовы гэта азначае, што Міністэрства інфармацыі не мае права блакаваць сайты за матэрыялы, калі з часу іх публікацыі прайшло больш за 3 месяцы.

Яшчэ адзін цікавы факт. Мінінфармацыі можа разглядзець запыт аб аднаўленні доступу да заблакаванага сайта цягам месяца. Гэты тэрмін названы не самім законам, а пастановай, прынятай у яго развіццё. Вынікае, што нават пасля выдалення ўласнікамі рэсурсу забароненага кантэнту доступ да сайта можа быць абмежаваны яшчэ цэлы месяц. Хоць для выдалення той ці іншай старонкі і паведамлення пра гэта ў Мінінфармацыі дастаткова некалькі хвілінаў.

Другі важны момант: сайты могуць заблакаваць не толькі за прапаганду наркотыкаў, але і за публікацыю інфармацыі ад імя незарэгістраванай арганізацыі і нават за інфармацыю, «якая можа нанесці шкоду нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь». Самае сумнае, што ніводзін нарматыўны прававы акт у Беларусі не замацоўвае і не тлумачыць, што гэта за інфармацыя.

Гэта як са спісам засакрэчаных аб'ектаў, якія нельга фатаграфаваць ў Беларусі, і які у сваю чаргу, таксама засакрэчаны.

Наступны момант. Паводле заканадаўства, распаўсюд персанальных дадзеных асобы дазволены ў СМІ толькі са згоды самога чалавека. Але пад персанальнымі дадзенымі трэба разумець інфармацыю, якая абавязкова заносіцца ў Нацыянальны рэгістр насельніцтва. А тут — і імя, і прозвішча, і сямейны стан, абставіны нараджэння, шлюбу альбо разводу і г. д. Таму, калі ў нашай краіне журналісты пішуць пра шлюб таго ці іншага палітыка, футбаліста альбо «зоркі», не атрымаўшы іх дазвол, дэ-юрэ яны парушаюць заканадаўства і могуць быць прыцягнутыя да адказнасці.

На жаль, папраўкі ў Закона аб СМІ даюць шырокія правы дзяржаве ўплываць на размяшчэнне інфармацыі ў інтэрнэце, а таксама прымушаць распаўсюднікаў інфармацыі задзейнічаць самацэнзуру. Апошняе з'яўляецца самым негатыўным наступствам у звязку з прыняццем паправак у Закон аб СМІ. Таму я павінна сказаць, што журналісты і ўладальнікі інтэрнэт-рэсурсаў ў нашай краіне сёння павінны мець вялікае пачуццё ўласнай годнасці і грамадзянскай мужнасці.

*Падрыхтаваў Барыс Гарэцкі*
*Фота Дар'і Буракінай, TUT.BY*




У мінскую рэдакцыю «Еўрарадыё» трапіць няпроста, калі вы толькі не госць студыі альбо, напрыклад, не суіскальнік на вакансію карэспандэнта. Бо гэта сталы калектыў, дзе працуюць універсальныя журналісты: яны запісваюць радыёсюжэты, здымаюць фота і відэа, рыхтуюць тэксты, засвоілі працу ў рэжыме онлайн, паралельна напаўняюць цікавым кантэнтам свой сайт. Большасць з іх працуе з пачатку заснавання карпункта.

Нечакана пазнавальнымі і змястоўнымі былі для нас экскурсія па офісу і шчырая размова з галоўным рэдактарам «Еўрарадыё» ў Беларусі Віталем Зыблюком.

# «ЕЎРАРАДЫЁ» без купюр



*Ганна МЫЗЕНКА*

Віталь сустракае нас з фатографам на ганку гістарычнага будынку па вул. К. Маркса і праводзіць у офіс. Прыступкі вядуць пад самы дах, а рэдактар паволі распавядае:

— Нас гэта памяшканне задавальняе тым, што гэта цэнтр горада, тут побач усе міністэрствы, адбываюцца розныя падзеі...

***— Вы ў самым сэрцы сталіцы, ды яшчэ і ў будынку, які належыць Упраўленню справамі прэзідэнта. Няўжо ніхто не спрабуе выселіць такіх «нязручных» суседзяў?***

— Гэта, хутчэй, пытанне геапалітычнае, як і пытанне, чаму нас, у прынцыпе, не гоняць з краіны. Мне цяжка адказаць. Акрэдытацыя карэспандэнцкага пункта тут, у Беларусі, нам далася няпроста. Гэтаму папярэднічаў цэлы шэраг перамоваў на узроўні міністэрстваў замежных спраў розных краін. У перыяд «пацяплення» ўлады зрабілі такі крок у бок Еўропы, — разважае Віталь.

Мы ж тым часам заходзім у рэдакцыю.

На гадзінніку — апоўдні, самы зацішны для «Еўрарадыё» час, калі большасць журналістаў разышліся на заданні, а хто застаўся — занятыя працай. Тым не менш Віталь зачыняе дзверы свайго маленькага кабінету з відам на мінскія дахі:

— Я звычайна раблю гэта толькі тады, калі хтосьці прыходзіць альбо па тэлефоне трэба паразмаўляць, бо ў нас рэдакцыя эмацыянальная... Бурна рэагуюць на навіны, бурна абмяркоўваюць...

У гэты момант з суседняга пакою сапраўды раздаецца такі гучны смех, што я міжволі думаю: што ж тут робіцца, калі ўсе ў зборы?

## Працоўныя будні

Штодня, у 9.30 раніцы, усе збіраюцца на планёрку. Тыя ж, хто адсочвае навіны, прыходзяць а шостай. Рэдакцыя працуе да 10-й вечара.

— Мы звярнулі ўвагу, што большасць беларускіх рэдакцый ігнаруюць гэты час. Хаця ўвечары шмат цікавых навінаў, якія слаба адлюстроўваюцца ў інтэрнэце, — кажа Віталь. — А між тым людзям, якія вяртаюцца дадому з офісаў, цікава пачытаць, што адбываецца менавіта зараз. І каб не пераносіць гэтыя навіны на раніцу, мы зрабілі дадатковую, вечаровую змену журналістаў. У іх функцыі шмат чаго ўваходзіць: яны праглядаюць і тэлевізар, бо там многа афіцыёзу, да якога незалежнаму журналісту цяжка дабрацца.

Дзень галоўнага рэдактара «Еўрарадыё» пачынаецца з прагляду ўсіх стужак навінаў. Віталь пачынае маніторыць іх па дарозе на працу. Найбольш карыснымі ў гэты момант лічыць сацыяльныя сеткі:

— Сябры з сацсетак выбіраюць самае цікавае і посцяць, а значыць, тэма вартая ўвагі... Але гэта ўжо другасная інфармацыя...



Віталь Зыблюк у свае няпоўныя 30 стаў галоўным рэдактарам «Еўрарадыё»

Усё залежыць ад падыходу, бо на любую гісторыю можна паглядзець з розных бакоў. Напрыклад, усе ведалі, што Парашэнка павіншаваў Лукашэнку адразу пасля выбараў. Можна проста паставіць навіну, а можна зрабіць інакш. Мы параўналі, як іншыя ўкраінскія прэзідэнты віншавалі беларускага. Атрымалася, што Януковіч зрабіў гэта праз два тыдні пасля выбараў, Юшчанка таксама праз доўгі час. Такім чынам, мы паглядзелі на навіну, якую ўсе адыгралі, пад новым ракурсам....

***— А хто звычайна «крэатывіць» з навінамі — рэдактар ці ўсё вырашаецца на рэдакцыйным сходзе?***

— Калі мы заўважаем нейкую навіну, якая можа стаць трэндам дня, мы збіраемся разам на кароткую планёрку і накідваем ідэі, як мы гэта можам зрабіць. А потым хтосці бярэцца за працу.

У рэдакцыі «Еўрарадыё» ўсяго 10 акрэдытаваных у Міністэрстве замежных спраў журналістаў. Таму ад пачатку падзяляць іх на аддзелы не мела сэнсу. Збольшага за кожным замацаваная адпаведная тэматыка, але любы журналіст здольны замяніць калегу, калі таго няма на працы. З прычыны малой колькасці людзей няма тут і ўласцівай для шмат якіх рэдакцый цякучкі кадраў. Большасць працуе ад пачатку заснавання радыё і сыходзіць не збіраецца. Таму трапіць на працу сюды шанцаў няшмат. Тым болей што патрабаванні да кандыдатаў высокія.

Мы не такая простая рэдакцыя, як здавалася б на першы погляд, — працягвае Віталь. — У нас некалькі пляцовак для распаўсюду інфармацыі. Першасныя — гэта радыё і сайт. І мы ўвесь час ламаем галаву, што мы больш — адно ці другое. Таму не акцэнтуем увагу на гэтым. Ёсць і свае цяжкасці, бо журналісту няпроста рабіць інфармацыю адразу на некалькі крыніцаў распаўсюду. Тым не менш ён павінен напісаць тэкст для сайта, перарабіць яго для гуку, а потым зрабіць з гэтага яшчэ і рэпартаж. Тэксты, якія выкладаюцца на сайце, ніколі не паўтараюцца ў эфіры.

***— Ці падзяляюцца журналісты на радыйных і тых, хто піша?***

— Ёсць журналісты больш моцныя ў плане радыё — з лепшымі галасамі, а ёсць тыя, хто любіць пісаць, але на 100 % усе ўніверсальныя. Кожны з іх умее абыходзіцца з дыктафонам, пісаць тэкст і працаваць з сайтам, а ёсць і тыя, хто можа весці жывы эфір з Варшавы, калі гэта трэба.

***— Калі я хачу атрымаць больш аператыўную інфармацыю, куды мне ісці — на ваш сайт або слухаць радыё?***

— У нас на радыё навіны выходзяць кожныя 20 хвілін. Калі нешта важнае адбылося падчас выхаду, у эфіры яно прагучыць трошкі раней альбо адначасова з сайтам. Калі вы не жыхар памежных з Польшчай ці Украінай рэгіёнаў, дзе мы вяшчаем, хутчэй за ўсё вы, каб паслухаць наша радыё, зойдзеце на сайт.

Шмат якія тэксты адразу перакладаюцца на рускую і англійскую мовы. Цікава, што некаторыя навіны на англійскай карысталіся большым попытам, чым на рускай ці беларускай мове. Трафік англамоўнага варыянту «Еўрарадыё» невялікі, але ёсць. Асабліва падчас выбараў або падзеяў узроўню перамоваў «нармадскай чацвёркі».

## За стырном карпункта

Віталю ўсяго 32, але ён ужо больш як чатыры гады кіруе мінскім офісам «Еўрарадыё». Адказвае за рэдакцыйную палітыку ды сувязі з Варшавай і адначасова паспяхова руйнуе штампы пра тое, як мусіць выглядаць і паводзіць сябе галоўны рэдактар уплывовага беларускага СМІ.

***— Віталь, як можна ў няпоўных 30 гадоў стаць галоўным рэдактарам?***

— Гэта выпадак. Ад пачатку на гэтай пасадзе была Юлія Слуцкая. Але яна вымушана была з'ехаць у Варшаву. Калі ж ўзнікла пытанне, хто яе замяніць, часова абралі мяне, таму што я год працаваў намеснікам. Камусьці трэба было трымаць рэдакцыю, каб яна не разваліласа, пакуль шукалі больш дасведчанага чалавека. А я ведаў усю кухню ад пачатку. Паспеў і пахадзіць на вулічныя апытанкі ў якасці журналіста, і папрацаваць рэдактарам стужкі навінаў. На сённяшні дзень я




магу выканаць працу любога супрацоўніка «Еўрарадыё» — ад журналіста да гукарэжысёра. Але я б не сказаў, што ўжо адбыўся як галоўны рэдактар, магчыма, мне не хапае досведу нармальнай журналісцкай працы ў нармальнай краіне. Усё ж такі тут мы працуем з абмежаваным доступам да інфармацыі. Вельмі цяжка рабіць грунтоўныя расследаванні і гэтак далей... Плюс мы абмежаваныя тым, што з'яўляемся карэспандэнцкім пунктам. Былі б мы СМІ, якое зарэгістравана ў Беларусі, маглі б запрашаць шмат выпускнікоў і праводзіць больш якасную «селекцыю» журналістаў. Магчыма, каб праз мяне праходзіла больш людзей, я б больш рос, як рэдактар.

***— Якая ў вас адукацыя?***

— Я скончыў філалагічны факультэт і нядаўна вучыўся ў магістратуры, дзе вывучаў беларускую і сербскую мовы і літаратуру.

***— Вы казалі, што пісьменнасць у вашай працы адзін з вызначальных крытэрыяў.***

— Сапраўды, і з гэтым у журналістаў вялікая бяда. Зараз да тэкстаў вельмі простае стаўленне. Важней хутка зрабіць інфармацыю, а ты, рэдактар, бяры, выпраўляй! Гэтая хуткасць прыводзіць да таго, што матэрыял нашмат пазней трапляе на сайт. Чалавек скідвае кепска напісаны тэкст, а я мушу яго прачытаць, часам грунтоўна паправіць, то — бок патраціць час, што не спрыяе аператыўнасці.

## Калектыў

***— Сталы калектыў «Еўрарадыё» мае вялікія плюсы. Людзі спрацаваліся ды прызвычаіліся адно да аднаго. Ім працей дамаўляцца ды ствараць нешта разам. Аднак некаторыя ўсё ж такі сыходзяць на іншую працу. Што прымушае журналіста «Еўрарадыё» шукаць лепшай долі?***

— Сяброўка сказала мне аднойчы: «Я не зайздрошчу табе, бо я магу і не чытаць навіны, а вось ты не можаш расслабіцца і не заходзіць тыдзень у інтэрнэт», — адказвае Віталь. — Пастаянная перагружанасць і стомленасць ад вялікага патоку інфармацыі і ёсць асноўнай прычынай сыходу. Да таго ж наш журналіст — усебакова развіты адмысловец з вялікім колам знаёмых у самых розных сферах. Ён спакойна можа перайсці на працу тым жа піяр-менеджарам у якую-небудзь кампанію альбо расці вышэй, што цяжка зрабіць на «Еўрарадыё». Бо тут толькі журналісты і я. Вось, напрыклад, Павел Свярдлоў захацеў расці далей і пайшоў у іншае выданне.

***— Ці бываюць праблемы з дысцыплінай, напрыклад, парушэнне дэдлайнаў здачы матэрыялаў?***

— Бывае, і з гэтым можна змагацца рознымі метадамі. Фінансавым, напрыклад, або метадам псіхалагічнага ціску. Ёсць агульныя правілы для ўсіх, але для кожнага чалавека існуе свой «кручок». З кімсьці можна паразмаўляць, на кагосьці «наехаць», а кагосьці трэба аштрафаваць.

***— Не крыўдуюць?***

— Я імкнуся данесці да ўсіх думку, што «Еўрарадыё» — гэта іх уласная кватэра, а не здымная, дзе можна жыць з падрапанымі шпалерамі. Калі нехта робіць «касяк», ён сам сябе і так ганьбіць. Магу і я зверху, а бывае, што і ўсе разам.

***— Але ж вы ўсё адно сябруеце з калегамі!***

— Я ж быў журналістам разам з імі. Калі мяне прызначылі рэдактарам, некаторыя прапанавалі называць мяне Віталем Алегавічам і «на Вы». Але я сябе няёмка адчуваў бы. У нас у рэдакцыі ўсе на ты, незалежна ад узросту. Так, на планёрцы я магу павысіць голас, нехта пакрыўдзіцца, нехта заплача. Ёсць такія, хто рэгулярна плача. А калі мы выходзім з рэдакцыі, то можам разам зайсці на піва, нават працоўныя пытанні абмеркаваць, але ўжо ў іншым тоне. Калі мы з некім і грыземся, то гэта творчая грызня за якаясць інфармацыйнага прадукта. Праца ў рэдакцыі — гэта як праца фотамадэлі над сваім целам. Увесь час трэба даглядаць і не з'ядаць лішняга...



*Алесь Пілецкі, аўтар серыялу «Давайпака»*

Тым часам мы вяртаемся ў ньюсрум, дзе заўважна пабольшала народу. І нарэшце бачым дзяўчыну, якіх на «Еўрарадыё» ўсяго тры. Падобна, з гендэрным балансам тут не ўсё




бліскуча. Маша Калеснікава сядзіць у навушніках і апрацоўвае інтэрв'ю з гуртом «Трубяцкі», што выпусціў новы альбом.

***— Калі дэдлайн, Маша?***

— Я думаю, сёння ўвечары.

— Насамрэч заўтра раніцай паставім яго, — усміхаецца Зыблюк


*Журналіст «Еўрарадыё» Віталь Ругайн уважліва адсочвае інфармацыю ў сацыяльных сетках*

***— Вам зручна ў рэдакцыі працаваць?***

— Нармальна, бо дома заўсёды знаходзяцца нейкія справы, якія адцягваюць ад працы.

— А я б таксама палову матэрыялаў пісаў дома, — далучаецца да размовы Яўген Валошын, — але ў нас не атрымліваецца, таму што шмат апаратыўнай працы.

— А пакажы сваё «абмундзіраванне», — просіць Яўгена Віталь.

Валошын адкрывае заплечнік са шматлікімі аддзяленнямі, які возіць з сабою штодня, нават у выходныя, і пачынае пералічваць:

— Тут кладзецца ноўтбук, плюс тэчка з дакументамі. А тут дыктафоны, іх у мяне два...

***— Навошта два?***

— А калі запіс не пайшоў альбо батарэйкі селі, а гук жа патрэбны якасны... Тэлефонаў ў мяне тры, адзін смартфон запасны, каб батарэя трымала, калі пашлюць на вайну напрыклад. Гэта мікрафон, фірмовыя набалдашнікі для яго, падчас выбараў на ўсялякі выпадак бэджы з дакументамі з сабою браў... Гэта, так бы мовіць, спецыфіка следчай журналістыкі. А вось драты для мікрафона, шнур usb-шны і для андроіда. Камера гоў-про, фотаапарат, аб'ектывы, зарадка для мабільніка, манапод...

Усе прылады, размешчаныя ў заплечніку Валошына, у ідэальным парадку.

***— Яўген, вы, напэўна, перфекцыяніст?***

— Не.

— Ну як гэта не?! — умешваюцца ў размову калегі. — Яўген, калі прыходзіць на працу, працірае стол, падваконне, сочыць, каб было чыста ў рэдакцыі.

## Лепшы ў свеце рок-н-рол

Кожны, каму хоць раз даводзілася слухаць «Еўрарадыё», ведае, што там ніколі не пачуеш папсы або электроннай музыкі. Музычную палітыку радыёстанцыі вызначае беларускі рок-музыка Слава Корань — лідар гурта «Уліс». Ён і складае ўсе эфірныя плэй-лісты. Фармат «Еўрарадыё» афіцыйна называецца CHR-Modern Rock. Гэта сучасны рок 2000-х, які знаходзіцца на вяршынях нацыянальных хіт-парадаў.

— Цяжка знайсці радыёстанцыю, якая б падабалася ўсім, — тлумачыць Віталь. — Калі вы будзеце круціць толькі электронную музыку, вы згубіце аматараў усіх астатніх накірункаў, калі папсу — хутчэй за ўсё, у вас будзе больш масавая аўдыторыя, але тут ужо паўстае пытанне якасці гэтай аўдыторыі. Рок-н-рол — гэта ўсё ж такі інтэлектуальна-прасунуты маладзёжны накірунак, а мы — маладзёжнае радыё. Мы імкнемся выхоўваць музычны густ нашых слухачоў, і той рок-н-рол, які гучыць на нашых хвалях, — гэта лепшы ў свеце рок-н-рол. Нас часта крытыкуюць за тое, што мала беларускай музыкі. Але мы хочам, каб музыка на радыё была якасная. Плюс яшчэ задача: каб нацыянальная музыка гучала на нацыянальнай мове. Таму ў нашым эфіры французы спяваюць па-французску, брытанцы — па-англійску, беларусы — па-беларуску. Ёсць рускамоўныя гурты, якія з нашай падачы запісвалі песні па-беларуску і якія потым пачалі беларусізавацца. Але ўнутры рэдакцыі ў нас ідуць спрэчкі, бо усе хочуць, каб было больш беларускай музыкі. І я дзесьці гэтага жадаю, але разам з тым не хачу, каб чалавека, далёкага ад беларускага року, які ўключыць наша радыё недзе на Брэстчыне, назаўсёды адвярнула ад айчыннай музыкі, таму што ён пачуе нешта ў дрэннай якасці і абы як запісанае.

Дарэчы, музычныя густы супрацоўнікаў рэдакцыі так ці інакш супадаюць. Больш за тое, шмат хто з журналістаў і цяпер або ў мінулым музыкі, як і сам Віталь Зыблюк. Калісьці ён удзельнічаў у гурце «Парасон», які аднойчы нават стаў пераможцам фестывалю «Басовішча». Праз два гады гурт распаўся, але музычны густ застаўся.

— Наш дырэктар Дзмітрый Новікаў быў дастаткова вядомым у 80-я музыкам, а ў 90-я адным з гукарэжысёраў надта папулярнай тады радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная», потым ён працаваў на незалежным Радыё 101,2 FM, — працягвае Віталь. — Наш галоўны журналіст-расследавальнік Яўген Валошын таксама прайшоў праз безліч гуртоў, Ілья Маліноўскі пачынае раскручваць сваю музычную дзейнасць, Маша Яр брала ўдзел у некалі вядомым этна-гурце«Яр», а цяпер у «Хоку-бэнд», Алег Пятровіч, наш гукарэжысёр, граў у «Эківоках».



*Яўген Валошын заўсёды гатовы выехаць на месца здарэння*

Штогод у лютым «Еўрарадыё» ладзіць цырымонію ўзнагароджання лепшых музыкаў пад назваю «Даём рады». У пакоі Зыблюка назбіралася некалькі прызоў для музыкаў.

— Гэта тое, што мы ніяк не можа перадаць уладальнікам. Вось, напрыклад, узнагарода Сяргею Міхалку. Называецца «Непатанаючая легенда», — тлумачыць Віталь.

***— 2014 год?! Нешта Міхалок не спяшаецца па свой прыз.***

— Такія жартаўлівыя ўзнагароды музыкі і не спяшаюцца забіраць. А вось Памідораў у нас атрымаў прыз «Расставанне-2014», калі ён развітаўся са сваёй лішняй вагой. А з мінулага года мы пачалі ўручаць прэміі замежным музыкам.

***— Каго запрашалі на ўзнагароджанне? «Аэрасміт»?*** — не стрымліваюся я ад сарказму.

— Ну «Аэрасміт» у нас нічога не ўзялі, — спакойна рэагуе Віталь, — а вось гурт «Franz Ferdinand» атрымаў прыз «Альбом года». Мы ім даслалі нашу статуэтку, а яны ў адказ — відэапрывітанне, якое мы круцілі на канцэрце. А яшчэ мы давалі прыз гурту «Enter Shikari» — ён зараз вельмі папулярны — за «Самы шалёны канцэрт года». Паколькі запрасіць сюды іх вельмі накладна, то яны нам таксама даслалі вось такое відэа з канцэрту.

Праглядаючы відэа музыкаў, я ў момант забываюся на свой скепсіс, а Зыблюк працягвае:

— Увогуле ж усе нашы прэміі, канцэрты — не проста забава. Наша дзейнасць — гэта і расследаванні ў справе забароненых музыкаў і спосаб «узбаламуціць» музычнае жыццё ў Беларусі. Калі пасля 2011 года з'явіліся абноўленыя спісы забароненых беларускіх гуртоў, мы паставілі перад сабою мэту любымі спосабамі дамагчыся дазволу на выступы гэтых гуртоў і правесці канцэрт. Напрыклад, у 2013-м зрабілі «Дзень Радыё», дзе выступіла «Крама» і «НейраДзюбель», якіх усе лічылі забароненымі. Я памятаю, што квіткі прадаваліся вельмі слаба: усе лічылі, што ў зале, як было неаднойчы, «пацякуць трубы» і канцэрт адменяць, а калі пачаўся саўнд-чэк, выстраілася чарга па квіткі. Але нам гэта каштавала доўгай працы з чыноўнікамі, шматлікіх запытаў на дазвол канцэртаў. Я нават уздымаў гэтае пытанне на прэсавай канферэнцыі Лукашэнкі.

## Мультымедыйная станцыя

Студыя «Еўрарадыё» мае не зусім традыцыйны фармат. Фактычна гэта ўжо заяўка на мультымедыйнасць, да якой зараз імкнецца большасць беларускіх СМІ. Сваё сталае месца тут заняла камера, а першыя відэа-інтэрв'ю пайшлі ў інтэрнэт-эфір. Пакуль радыё не канкурэнт паўнавартаснаму тэлебачанню, але хто ведае, ці не прыйдзецца пасунуцца прафесійным тэлевізійшчыкам у будучыні. Ва ўсялякім выпадку тут спадзяюцца, што да сталых слухачоў і чытачоў далучацца яшчэ і гледачы.

— Тут запісваецца ўсё, пасля ідзе ў Варшаву, а адтуль у эфір, — кажа Віталь, — сюды прыходзяць госці, а пад выбары мы зрабілі онлайн-відэаявшчанне. Гэта не тэлебачанне. Проста калі да нас прыходзяць госці, мы ўключаем камеру і любы, хто жадае, можа глядзець тое, што адбываецца ў студыі і пісаць нам свае пытанні.

***— Аператара маеце?***

— Не, у нас усё робяць самі журналісты. Ёсць чалавек, які лепш за ўсіх валодае камерай, але ўсё адладжана так, што любы можа прыйсці і

*Спецыяльны карэспандэнт Ілля Маліноўскі*





*Дыктар карпункту Канстанцін Залатых*




націснуць кнопку, сесці ў кадр і размаўляць з госцем. У перспективе мы хочам набыць яшчэ адну камеру.

***— Шмат народу вас глядзіць?***

— Падключэнняў было не вельмі шмат. Больш за ўсё — калі Таццяна Караткевіч прыйшла да нас. Цяпер будзем глядзець, як далей развіваць відэаявяшчанне.

Апошнім часам працаўнікі «Еўрарадыё» пачалі ладзіць гукавыя запісы з прэс-канферэнцый. Журналіст атрымлівае планшэт і звязваецца з рэдакцыяй праз Skype. Такім чынам запіс можна выкарыстаць нават раней, чым скончыцца канферэнцыя. Падчас такой працы здараюцца і канфузы. Калі Аляксандр Лукашэнка даваў інтэрв'ю незалежным беларускім медыя, некаторыя калегі нават пакрыўдзіліся, што «Еўрарадыё» дало інфармацыю першым.

Былі дамоўленасці даваць інфармацыю адначасова, але яны былі няпэўныя, — узгадвае Віталь. — Потым прэс-сакратарка Лукашэнкі сказала, што БЕЛТА плануе онлайн-рэпартаж і ў нас будзе магчымасць узяць з сабою планшэт. Я, шчыра кажучы, быў упэўнены, што іншыя калегі зробяць гэтак сама, як і мы. А яшчэ адзін цікавы канфуз быў звязаны ўжо з тэлетрансляцыяй. Зміцер Лукашук узяў планшэт на галасаванне Лукашэнкі і пачаў здымаць падзею. Выступ ішоў жыўцом адразу на канале Youtube, раней за астатнія СМІ.

І вось Лукашук здымае, пачынае задаваць пытанне, і штосьці ён выпадкова націснуў — уключыўся гук. Увесь рэдакцыйны гоман стала чутно. Уявіце сабе: стаіць Лукашэнка, іншыя журналісты, а у Лукашука з планшэта трындзіць рэдакцыя! У Змітра паніка, Лукашэнка адказвае на пытанне, а ён спрабуе адключыць гук! Лукашенка пытае: «Што ты там тыркаешся?» Лукашук адказвае: «Ды я онлайн вяду», — і працягвае корпацца. Лукашэнка зноўку: «Дык табе адказваць на пытанне?» — «Да-да-да, зараз!» Так гэта і пайшло ў эфір.

***— Вы гэты запіс захавалі на памяць?***

— На жаль, не. Гэта была жывая трансляцыя. Мы былі недасведчаныя і не ведалі, што Youtube захоўвае матэрыял толькі дзве гадзіны. А паколькі трансляцыя доўжылася з 12-й да трох ночы, што было спачатку, не захавалася. Наступным разам будзем запісваць.






## Пра поспехі і метады іх дасягнення

Натуральна, што афіцыйная акрэдытацыя яшчэ не адчыняе ўсе дзверы журналістам «Еўрарадыё». Але, на думку рэдактара, няма нічога немагчымага. Лепшае сведчанне таму — шматлікія інтэрв'ю і каментарыі чыноўнікаў рознага рангу. Часцей за ўсё, каб зрабіць іх, журналісту трэба быць як мінімум кемлівым. Напрыклад, каб атрымаць афіцыйны каментарый, часам даводзіцца наведваць зусім не звязанае з тэмай мерапрыемства. Аднак тут можна сустрэць патрэбнага чалавека альбо запісацца на прыём як прыватная асоба.

— Была ў нас спроба гэткім чынам паразмаўляць з усімі міністрамі. Журналіст іх абыходзіў цэлы дзень, — узгадвае Віталь. — Ён клаў дыктафон чыноўніку на стол і казаў, што будзе запісваць размову. Апублікаваць інтэрв'ю дазволіў толькі Снапкоў, міністр эканомікі на той час. Размову з астатнімі мы перадавалі ў пераказе сваімі словамі. Іншая справа, калі Ладуцька быў мэрам, і ў яго была сустрэча з жыхарамі Фрунзенскага раёна. Выходзіць з машыны Ладуцька, падлятае да яго Лукашук: «Давайце паразмаўляем». Той адказвае: «Я не магу. Толькі коратка». А ў выніку яны паўгадзіны прагаварылі.

***— Віталь, а якія матэрыялы вы лічыце паспяховымі?***

— Мне падаецца, найбольш паспяховыя — чалавечыя гісторыі і расследаванні, якія мы рабілі. Можа, яны прыцягваюць менш увагі, чым інфармацыя пра Ганну Бонд, якая распранецца, калі пераможа БАТЭ, але калі я бачу, што пасля пэўнага расследавання мяняюцца законы, па-іншаму паводзяць сябе розныя чыноўнікі, адчуванне лепшае, чым калі б матэрыял прачыталі мільён чалавек. У нас прагучалі расследаванні на тэму распаўсюду наркотыкаў, пра ўжыванне допінгу беларускімі спартоўцамі. Досыць паспяховымі я лічу анкеты кандыдатаў у прэзідэнты, у тым ліку Лукашэнкі, інфармацыя пра якога закрытая. Але мы ўзялі матэрыял з інтэрв'ю, якое ён нам даў.

***

У поспеху беларускага карпункту «Еўрарадыё» шмат складнікаў. Праца тут добра арганізаваная, каманда — кожны ўніверсал, кіраўніцтва калектывам правільнае. Не трэба забывацца і на «шчаслівы квіток» у выглядзе афіцыйнай акрэдытацыі, які станцыя выцягнула чатыры гады таму. Але сярод усіх гэтых складнікаў самы каштоўны — гэта ўсё ж такі журналісты, якія па-добраму не даюць спакою ані рэдактару, ані чытачам...

Замест запланаванай гадзіны мы правялі на «Еўрарадыё» цэлых дзве. І калі б гасцінныя гаспадары не пачалі намякаць, што ім трэба працаваць, напэўна, засталіся б яшчэ. Бо журналістам толькі дай паразмаўляць пра такую цікавую і такую адказную працу.

*Фота Таццяны Ткачовай*



# Замежная прэса пра Беларусь:

## біятлон, гарадзенскія чаўнакі на Майдане і хто хоча Бацьку

**Навіны замежжа, асабліва калі яны тычацца звычайнага жыцця ды клопатаў еўрапейцаў, у айчыных сродках масавай інфармацыі з’яўляюцца даволі рэдка. Выключэнне — тэракты ды катастрофы, пра што ахвотна пішуць і дзяржаўныя, і незалежныя СМІ. Тым часам афіцыйныя ідэолагі і нават грамадскія актывісты вінавацяць іншаземныя медыя ў адсутнасці належнай увагі да нашай краіны. Хаця не ўсё так адназначна. Напрыклад, у Малдове пра Беларусь пішуць штотыдня. А дзесьці пра нас ўзгадваюць толькі раз у чатыры гады. Аднак фарбы, якімі малююць вобраз Сінявокай, часцяком аднатонная.**

**Віцяне Сташайцітэ, delfi.lt, Літва**



Пра Беларусь у нас паведамляецца вельмі часта і дасканала. Рэжым Лукашэнкі, безумоўна, крытыкуюць, але цяпер заўважна меней. Пра апошнія прэзідэнцкія выбары пісалася даволі шмат. Багата было каментароў палітолагаў, змест якіх выглядае параўнальна аднолькава: яны ўсе сумняваюцца ў празрыстасці выбараў і не вераць у абвешчаны вынік. Але паколькі не было рэпрэсій і кампанія прайшла больш-меньш спакойна, а вашыя палітычныя вязні цяпер на волі, то прыпыненне санкцый з боку ЕС ацэньваецца станоўча.

Падзеі ва Украіне і сустрэча «нармандскай чацвёркі» ў Мінску таксама паставілі Беларусь у іншую пазіцыю. Нашы медыя пішуць, што беларускі прэзідэнт не падтрымлівае Пуціна ў поўнай меры. Тое, што літоўцы цікавяцца гэтай тэмай, паказваюць клікі і каментары пад адпаведнымі артыкуламі. Напрыклад, на нашым сайце пад вялікай публікацыяй пра чарговы трыумф Лукашэнкі было 500 каментароў. Таксама ішлі тэлевізійныя

перадачы ў прайм-тайме, якія закраналі тэму выбараў у Беларусі.

**Павла Францова, Newsweek, Чэхія**



Пра Беларусь у нас паведамляюць часцей у кантэксце хакею ці біятлону. Таксама пішуць пра шчыльныя стасункі паміж Расіяй і Беларуссю. Часам з'яўляюцца інтэрв'ю з апазіцыйнымі палітыкамі ці артыкулы пра парушэнне правоў чалавека. А таму, калі спытаць мінака на вуліцы, што ён ведае пра Беларусь, хутчэй за ўсё ён узгадае вашага прэзідэнта, парушэнне правоў чалавека і што гэта апошняя дыктатура Еўропы (такі выраз вельмі часта выкарыстоўваецца, калі гаворка ідзе пра Беларусь). Пра апошнія прэзідэнцкія выбары паведамлялася нейтральна і публікацый было менш, чым пра папярэднія. На маю думку, гэта звязана з тым, што большасць публікацый у Чэхіі цяпер на тэму міграцыйнага крызісу.

**Аляксандра Ёлкіна, Deutsche Welle, Латвія**



Важныя беларускія падзеі асвятляюцца рэгулярна. Аднак нашы СМІ галоўным чынам перадрукоўваюць паведамленні інфармацыйных агенцтваў. Вельмі мала рэпартажаў, дзе ёсць эфект прысутнасці, то-бок з месца падзей. Гэта пры тым, што латышскамоўныя СМІ робяць акцэнт на парушэннях правоў чалавека ў вашай краіне, а рускамоўныя культывуюць вобраз Лукашэнкі як моцнага лідара, які праводзіць незалежную палітыку і адстойвае нацыянальныя інтарэсы. Таму рускамоўнае насельніцтва адпаведна лічыць, што ў Беларусі развітая прамысловасць і ўлады падтрымліваюць мясцовых вытворцаў. У латышскамоўнага насельніцва Беларусь асацыюецца з карупцыяй, дыктатурай і парушэннямі правоў чалавека.

У асвятленні апошняй прэзідэнцкай кампаніі латышскамоўныя СМІ рабілі акцэнт на адсутнасці апазіцыйных кандыдатаў, якія б маглі скласці рэальную канкурэнцыю «беларускай партыі ўлады».

**Сімоне Брунер, фрылансер, Аўстрыя/Нямеччына**

У аўстрысйкіх і нямецкіх СМІ пра Беларусь пішуць няшмат. Уласна кажучы, практычна толькі тады, калі адбываюцца выбары. Беларусь лічыцца абсалютна экзатычнай тэмай. Два гады таму я напісала ў аўстрыйскі часопіс Datum тэкст пра Беларусь і галоўны рэдактар сказаў: «Напішы некалькі сказаў пра тое, што гэта ўвогуле за краіна такая Беларусь». Вось такое бывае ў нашых рэдакцыях. Пазней для іншага выдання я рабіла матэрыял пра чаўнакоў у Гародні і рэдактар спытаў, ці змагла б я дадаць у артыкул яшчэ і ўкраінскую праблематыку. (Тады акурат адбываліся сутычкі на Майдане ў Кіеве і тэма была гарачая.) Прыйшлося яму тлумачыць, што гарадзенскія іпэшнікі не маюць ніякага дачынення да Еўрамайдану...



«Апошняя дыктатура ў Еўропе», — вельмі папулярны выраз у нас. Пра сёлетнія прэзідэнцкія выбары так і пісалі: «Выбары дыктатара». Цяпер вось тэма з'явілася —шмат пішуць пра Нобелеўскую прэмію Святланы Алексіевіч, але гэта, на жаль, хутка пройдзе.

**Стэван Станіч, фрылансер, Балканы**



Харвацкія медыя займаюць антылукашэнкаўскую пазіцыю, у адрозненне ад сербскіх і баснійскіх. Сербы ўвогуле думаюць, што Беларусь — гэта такая моцная сацыялістычная краіна, дзе ўсе працуюць і ўсе шчаслівыя.

Пра апошнія прэзідэнцкія выбары таксама пісалі, але на досыць нізкім узроўні. У нас няма экспертаў і аналітыкаў, якія б спецыялізаваліся на Беларусі, таму артыкулы мелі інфармацыйны характар. У сербскіх медыя ніколі не выкарыстоўваецца слова «дыктатар» у дачыненні да беларускага прэзідэнта, тут ён звычайна проста Лукашэнка.

**Кацярына Луцька, радыё «Промінь», Украіна**



Пра апошнія выбары пісалі шмат. Хапала і аналітычных матэрыялаў. Аднак змест іхні быў амаль што аднолькавы і гучаў прыблізна так: «Ні для каго не сакрэт, чым скончыцца прэзідэнцкая кампанія ў Беларусі, пытанне толькі ў тым, колькі Лукашэнка

намалюе сабе галасоў». Нават у адкрыта прарасійскіх СМІ Лукашэнку называлі «бессмяротным прэзідэнтам», а выбары — «выбарамі без выбару».

Таксама некаторыя СМІ рабілі акцэнт на тым, што, нягледзячы на яўныя парушэнні выбарчага працэсу, ЕС прыпыняе санкцыі супраць Беларусі. І ўсё толькі з-за таго, што ЕС бачыць у палітыцы Лукашэнкі масток паразумення паміж Украінай і Расіяй.

Былі, напрыклад, такія загалоўкі, як «Беларусы на выбарах абіралі паміж бульбай і малінай», «Беларусь: выбары ці перавыбары?». Я сама 12 кастрычніка вяла эфір на радыё, мы размаўлялі з беларускім журналістам, які з'ехаў ва Украіну. Ён расказваў пра звычайныя для нашых краін рэчы: пра цэнзуру, адсутнасць свабоды слова, замбаванасць насельніцтва.

У эфіры прагучалі таксама думкі ўкраінскіх слухачоў, якія практычна былі аднолькавымі: Лукашэнка добры, ён гаспадар і бацька для ўсёй краіны, вось бы нам такога! І хоць наш госць пярэчыў усяму гэтаму, пераканаць іх было немагчыма.

**Міхал Кокот, Gazeta Wyborcza, Польшча**



Хоць Беларусь і мяжуе з Польшчай, у нас не надта моцна асвятляюцца беларускія падзеі. Часцей за ўсё гэта тэма палітыкі. І пішуць пра яе толькі тады, калі сапраўды адбываецца нешта значнае, напрыклад садзяць у турму ці выпускаюць на волю апазіцыйных палітыкаў. Пра апошнія выбары, дарэчы, таксама пісалі няшмат, значна болей пра Нобелеўскую прэмію ў галіне літаратуры, якую атрымала Святлана Алексіевіч.

Прычына такога кволага асвятлення выбараў усім зразумелая: вядома, хто пераможа, апазіцыя занадта слабая і нічога не можа зрабіць. Мы таксама ў падобным накірунку пра гэта распавядалі. Наш карэспандэнт Анджэй Пачобут пісаў, што Беларусь цяпер у вельмі глыбокім эканамічным крызісе і Лукашэнка не змог выканаць большасць сваіх абяцанняў, якія прагучалі ў 2010 годзе.

**Семіон Чокінэ, Deutsche Welle, Малдова**

У малдаўскіх медыя пішуць пра Беларусь даволі часта, мінімум адзін раз у тыдзень. Чаму так? Відаць, таму што гэта былая савецкая краіна. Таму што ў вас ёсць Лукашэнка. Таму што паміж нашымі краінамі наладжаныя добрыя гандлёва-эканамічныя сувязі: мы экспартуем у Беларусь віно і садавіну.



Пра прэзідэнцкія выбары таксама шмат пісалі, акцэнт быў на тым, што Лукашэнка зноўку пераможа. Але ніхто пра дыктатуру тут і не гаворыць. Таксама ў СМІ назіраецца пазітыў адносна таго, што прыпынілі санкцыі. Увогуле ў свядомасці нашага народа жыве добры вобраз Беларусі: дарогі лепшыя, некаторыя нават зайздросцяць, што ў вас кіруе Лукашэнка і ён часам ішоў насуперак Пуціну. Асабліва вырас імідж Беларусі ў апошні час, калі Расія ўвяла эмбарга на нашу садавіну і віно, а ваша кіраўніцтва нас падтрымала.

***

Няма нічога дзіўнага ў тым, што пра Беларусь заходнееўрапейскія СМІ узгадваюць выключна ў кантэксце палічных падзей. Аднак яны паведамляюць сваім чытачам тое, што запатрабавана. Хаця не выключана, што ў некаторых рэдакцыях мае месца ідэалагічная ўстаноўка на негатыў.

Ні для каго не сакрэт, што правы чалавека ў нашай краіне парушаюцца, як і свабода слова: супраць незалежных журналістаў і журналістаў-фрылансераў пастаянна заводзяць адміністрацыйныя справы, судзяць, штрафуюць. Рэпрэсіўна-ідэалагічны механізм працуе бесперапынна. Усё гэта аналізуюць як беларускія, так і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі. Вось і атрымоўваецца, што міжнародны імідж Беларусі псуюць не журналісты, а чыноўнікі, якія ігнаруюць заканадаўства ў сферы правоў чалавека. Якія тады могуць быць крыўды на крытыку ў заходніх СМІ?

А як часта мы чытаем у дзяржаўнай беларускай прэсе пра сацыяльна-эканамічнае развіццё суседняй Польшчы, Літвы, Латвіі ці як жыве Малдова?

Хаця многім і многім тысячам нашых суайчыннікаў хацелася б і расказваць, і чытаць выключна пра шчаслівае і бесклапотнае жыццё як у Беларусі, так і суседніх краінах. Пакуль не атрымоўваецца.

*Падрыхтавала Настасся Рэзнікава*

# Былая савецкая рэспубліка ў лідэрах Doing Business: місія выканальная!



Настасся ЯЎМЕН

**У параўнанні з амаль двухмільённым Мінскам Вільнюс можа падацца сціплым, ціхім, непрэтэнцыёзным горадам. Але — еўрапейская сталіца! Што магло быць і што адбылося з невялікаю краінай, якая яшчэ 25 гадоў таму была часткаю планавай эканомікі СССР?**

Толькі лічбы: сёння Літва 15-я ў спісе найбольш вольных эканомік свету (Heritage Foundation, Індэкс эканамічнай свабоды, 2015 г.). Сусветны банк абнародаваў свежы рэйтынг найбольш спрыяльных для бізнесу краінаў Doing Business-2016. У ім наша балтыйская суседка заняла ганаровае 20-е месца, абагнаўшы такія краіны, як Чэхія, Нідэрланды, Іспанія.

Пра дасягненні Літвы распавялі супрацоўнікі кампаніі Invest Lithuania падчас адмыслова арганізаванага прэс-туру для замежных журналістаў.

## Чаму бізнес ставіць на Літву

Заходніх інвестараў вабяць перавагі аднаго з найтаннейшых гарадоў Еўропы. Арэнда офісаў складае ў сярэднім 14,5 еўра за 1 кв. м. Выдаткі на аплату працы ў 4 разы ніжэйшыя за сярэдні паказнік па ЕС. Прадпрымальнікі з усходу цэняць акрамя іншага палітычную і эканамічную стабільнасць, як і адкрытасць усёй шэнгенскай прасторы. Хоць Літва і не падаткавы рай, аднак падатак на прыбытак тут невысокі —15 % (ёсць палёгкі ці поўнае вызваленне для інвестыцыйных праектаў). Працоўны рынак з 1,5 мільёнамі адмыслоўцаў з розных галінаў таксама да паслугаў працадаўцаў.

Дырэктар па маркетынгу і камунікацыях кампаніі Invest Lithuania Далюс Марквенас тлумачыць, у якім бізнесе яны найбольш зацікаўленыя: «*Каб не скажаць лакальную канкурэнцыю, мы ў першую чаргу падтрымліваем кампаніі, скіраваныя*




***Далюс Марквенас: «Мы шукаем кантактаў з бізнесам усходніх краінаў». Фота Н. Яўмен***

*на экспарт прадукту. Калі фірма гатовая рэлакалізавацца ў Літве і стварыць новыя працоўныя месцы, Invest Lithuania аказвае ім падтрымку бясплатна. Мы запрашаем усіх, у тым ліку бізнесоўцаў з Беларусі, Расеі, Украіны, якія даспелі да адкрыцця офісу ў Эўропе».*

## Хто асядае

Паводле звестак Invest Lithuania, найбольш інвестыцыйных праектаў тут маюць краіны Скандынавіі, ЗША, Вялікая Брытанія і Нямеччына. Гэта прадпрыемствы па вытворчасці, бізнес-паслугі, цэнтры абслугоўвання, маркетынгу і г. д. Сапраўдным поспехам для Вільні стала адкрыццё офісаў такіх кампаніяў, як Western Union, Danske Bank, Barclays. Кожная з іх стварыла для мясцовага рынку больш за тысячу працоўных месцаў. У кастрычніку сваё прадстаўніцтва адкрыла адна з трох асноўных амерыканскіх біржаў Nasdaq.

Набірае абароты і сфера IT. Google, Uber, Revel Systems, Game Insight, Charlie Oscar Sky Games працуюць у тым ліку з Літвы. Буйнейшая кампанія лічбавых рэкламных тэхналогіяў Adform, што мае прадстаўніцтвы ў 15 краінах свету, свой галоўны офіс размясціла менавіта ў Вільні. У светлым будынку, крэатыўным і мадэрновым, як сам сучасны інтэрнэт-маркетынг, працуе каля 400 асобаў. Дарэчы, з-за блізкасці да Вільні месцам для чарговага офісу стаў Менск. Цяпер у ім працуе 50 тутэйшых праграмістаў.

Але неабавязкова быць вядомай і вялікай фірмай, каб цябе прынялі. Сёлета нашы суайчыннікі перабраліся ў Літву з ідэяй стартапу JetCat Games і атрымалі ад фонду Practica Capital 100 тысяч еўра інвестыцыяў на распрацоўку камп'ютарнай гульні. Адзін з распрацоўшчыкаў Раман Уласаў прызнаўся, што ў Беларусі наўрад ці можна было разлічваць на такую падтрымку.



*У офісе Adform знойдзецца месца для кожнага. Фота Н. Яўмен*




*У гасцях у Nasdaq. Журналісты ля легендарнага біржавага звону. Фота Nasdaq Europe*

## Мінусы

Асноўнай перашкодай для адкрыцця справы ў Літве застаецца візавы бар'ер. Да патрабаванняў Еўразвязу дадаюцца нацыянальныя законы па міграцыі, і пакуль яны адпужваюць нямала патэнцыйных інвестараў з краінаў на ўсход ад Літвы. Для атрымання віду на жыхарства фірма замежніка мусіць мець устаўны капітал у 14 тысяч еўра, а таксама абавязаная наняць трох грамадзянаў — сталых рэзідэнтаў Літвы. Вырашыць праблему закліканая сістэма Blue Card — працэдура спрошчанага атрымання віду на жыхарства для бізнесоўцаў. Пакуль яна на стадыі прыняцця.

На тле адкрытага і зразумелага рынку Еўразвязу беларуская эканоміка і дагэтуль губляла патэнцыйных інвестараў. У выпадку спрашчэння іміграцыйных законаў у блізкай Літве Беларусь можа развітацца яшчэ і з уласнымі бізнесоўцамі і стартапамі, для якіх існаванне на радзіме ператвараецца ў неапраўданую рызыку.



*Юрий КАРМАНОВ*

**Сразу три российских флага развиваются над зданием правительства ДНР в Донецке, ставшем символом борьбы за независимость восточных украинских провинций. Россия, которая отрицает свое военное присутствие в мятежном регионе, вынуждена содержать новые территории, де-юре принадлежащие Украине.**

# Разоряясь, Донбасс де-факто становится частью России

Около 3,5 млн человек продолжают жить в разных частях Луганской и Донецкой областей, объявивших себя республиками. Регион покинули 1,5 млн беженцев, опасаясь не только боевых действий, но и разбоя, грабежей конкурирующих сепаратистских группировок.

Пустынные улицы Донецка резко контрастируют с ситуацией трехлетней давности. Тогда во время проведения футбольного Евро-2012 город сверкал фешенебельными витринами бутиков, дорогих ресторанов и отелей. Сегодня огромные красные портреты Сталина развешены в самом центре Донецка.

«Страшный сон, за пару лет жизнь перевернулась... Мы словно в ловушке — поверили России, но она не спешит нас брать», — говорит 34-летний шахтер Сергей Дебенко. Он потерял брата, который сражался за ДНР.

Более 8 тыс. человек, по данным ООН, уже стали жертвами конфликта, который то гаснет, то разгорается с новой силой. Так называемые ДНР и ЛНР провели референдум, объявив 12 мая 2014 г. о суверенитете и выразив желание войти в состав России.

Украина ввела экономическую блокаду региона, прекратив все социальные выплаты и заморозив деловые контакты. Банкоматы на Донбассе не работают.

Российский рубль стал основной валютой ДНР. Россия начала выплачивать пенсии и пособия, направив в регион российскую рублевую массу. В правительстве ДНР отказались назвать объемы российской помощи, признав, однако, что бюджет формируется в российских рублях.

«У нас нет годового бюджета. Мы формируем бюджет только на месяц... 90 % бюджета



формируется в российских рублях», — сообщает министр финансов ДНР Екатерина Матющенко.

Руководство ДНР обязало предприятия платить налоги в местный бюджет. Однако власти признают, что не смогли бы выжить без российской помощи.

Гуманитарный конвой из 100 белых грузовиков через неконтролируемые на границе России и Украины проходы ежемесячно доставляет в регион продукты питания и медикаменты.

Российские учебники в новом учебном году поступили во все школы Донбасса, украинские исключены из обучения, их готовят к утилизации.

«Было тяжеловато, но спасибо России за новые, современные знания!» — говорит заместитель директора средней школы № 32 Алла Андриевская. Она проводит урок истории в 10 классе, рассказывая о роли Ленина в Октябрьской революции 1917 года в России и называя события Евромайдана в Киеве путчем.

Больше 20 лет эта школа была украинской и преподавание велось на украинском языке. «Мы очень быстро адаптировались к новой ситуации. Обратной дороги в Украину у нас нет. Мы слишком разные», — утверждает Алла Андриевская. Она тяжело вздыхает, отвечая на вопросы о деньгах. Ее заработок, который выплачивается с многомесячными задержками, составляет 3 тыс. российских рублей (около 50 долларов).

ДНР и ЛНР возникли в результате обиды русскоязычного востока на прозападную революцию на киевском Майдане, когда выходец из Донбасса президент Виктор Янукович был вынужден бежать в Россию. Кремль умело воспользовался ситуацией, поддержав ДНР и ЛНР и направив в мятежный регион российских военнослужащих, которых назвал добровольцами.

Вещание украинских телеканалов сегодня прекращено во всем регионе. О новостях жители















Донбасса узнают из российских телеканалов. Подавляющее большинство опрошенных нами на улице называют ДНР лишь переходным этапом на пути в состав России.

«Мы должны воссоединиться с Россией, должны стать частью единой и неделимой родины. Мы уже часть русского мира. ДНР — это лишь ступенька», — говорит 47-летний безработный Вадим Марченко. Его вместе с женой Еленой и ребенком мы встретили в центре Донецка. Семья выживает на 1,5 тыс. российских рублей (около 25 долларов), которые Елена получает в качестве пособия на ребенка.

Львовская мастерская шоколада в центре Донецка, где обслуживают на украинском языке, остается единственным местом, напоминающим о недавнем украинском прошлом региона. Однако «шоколадного Путина», который продается в Киеве, в Донецке нет.





Согласно Минским договоренностям, ЛНР и ДНР остаются частью Украины. Лидеры республик, уютно расположившись на российских финансовых потоках, вспоминают об этом очень неохотно. Республики уже добились автономии, значительно превосходящей ту, которую Киев пообещал Западу для успокоения мятежного региона.

«Конфедерация была бы самой оптимальным вариантом для Украины. С нами нужно разговаривать, как с равными», — считает один из лидеров ДНР полковник Эдуард Басурин.

ЛНР и ДНР отказались от проведения в октябре неподконтрольных Киеву местных выборов, на чем настаивала «нормандская четверка». Однако о будущем в составе Украины лидеры высказываются весьма туманно: «Многое будет зависеть от поведения Украины, сможет ли она преодолеть свое имперское отношение», — заявляет Басурин.




Владимир Путин, который еще год назад охотно упоминал о принадлежности восточных украинских земель к Российской Империи XVIII века, сегодня изменил риторику и о Новороссии вообще не вспоминает.

«Путин хочет вернуть ДНР-ЛНР Украине, но на российских условиях», — полагает аналитик Вадим Карасев. — Таким образом, сохранится территориальная целостность Украины, а все финансовые проблемы по восстановлению Донбасса будут переведены на Киев. Этот сценарий гарантирует, что правительство ДНР останется под контролем российских спецслужб».

Тяжелая артиллерия с обеих сторон в последние месяцы затихла, чему поспособствовало объявленное перемирие. Это может быть отражением более масштабной сделки, которая служит интересам Путина, пытающегося восстановить отношения с Западом для ослабления санкций.

«Путин демонстрирует Западу, что не только на словах отказался от войны, — говорит аналитик из центра «Пента» Владимир Фесенко. — Сейчас Кремль хочет получить для ЛНР и ДНР максимально широкое представительство в структурах украинской власти, чтобы потом использовать их в качестве постоянной шпильки для Киева». При этом он добавляет: «Де-юре это будет Украина, а де-факто — Россия. Замороженный конфликт».

Многокилометровые очереди выстроились на границе ДНР и Украины. Люди по 2—3 дня стоят в пунктах пропуска, чтобы купить продукты и вещи, которые в Украине в два-три раза дешевле.

«Мы надеялись на российские зарплаты, что Россия нас заберет. А теперь стало жить хуже, чем в Украине », — признается 43-летняя повар Ирина Коломийченко, которая простояла три дня на границе. После закрытия ресторана в Донецке она потеряла работу и семья с двумя детьми выживает на зарплату мужа, который работает в шахте им. Засядько и получает 5 тыс. российских рублей (около 90 долларов).

При средней зарплате в 3-4 тыс. рублей и высокой безработице в Донецке сохраняются московские цены. «Я всей душой за ДНР! За Россию! Но кто сейчас за это будет платить?!» — говорит Ирина.

***Фото Мстислава Чернова, АР***





# Сяргей Гудзілін: «У 2016-м будзем паболей здзіўляць адзін аднаго!»

Год, што зыходзіць, паспрабуем разгледзець праз аб'ектыў — з кантраверсійным і канцэптуальным фатографам першай беларускай газеты з малюнкамі, неаднаразовым лаўрэатам Belarus Press Photo Сяргеем Гудзілінным.

З Сяргеем мы сустрэліся на Кастрычніцкай. У самым цэнтры Мінска. Тут мы неаднаразова былі сведкамі брутальных амапаўскіх разгонаў, шматлюдных і не надта вулічных акцый, наступстваў тэракту ў метро і спакойнага гарадскога жыцця: пацалункаў, дзіцячых гульняў, шпацыраў... А зараз тут проста шэры надвячорак. І дзве постаці ў шэрых журналісцкіх куртках прадзіраюцца праз шэрасць беларускай сталіцы...

***— Сяргей, што запомнілася ў 2015-м?***

— У гэтым годзе больш за ўсё мне запомнілася сітуацыя стабільнай безнадзейнасці. Мы зараз жывём у эпоху неазастою. Гэта я адчуваю, бачу па сваёй працы. Сітуацыя вельмі цікавая, бо, здаецца, пачынаюцца нейкія падземныя, падводныя зрухі ўсёй гэтай нашай рэальнасці, але яны пакуль што не складваюцца ў нейкія тэндэнцыі. Але глабальна ў нас ужо не савецкі, а такі постсавецкі неазастой. А ў астатнім усё нязменна, усе нашы гарады ўкладзеныя аднолькавай мікашэвіцкай пліткай...

***— Што запомнілася з сёлетніх здымак?***

— Прыгадваецца толькі выхад з турмы Статкевіча. Адзіная значная падзея для Беларусі сёлета — гэта датэрміновае вызваленне Статкевіча і нейкі такі намёк на гуманізацыю палітычнага жыцця. Усё, больш нічога. Навіны ўжо даўно не чапляюць, фотарэпартажы з навінаў ужо мала каму цікавыя з чытачоў. Адбываюцца маленькія электаральныя падзеі, падобныя адна на другую.

***— Не сумна двухсот пяцідзесяты раз здымаць Някляева, Лябедзьку, Севярынца?***

— Сумна не сумна, але гэта праца, якую трэба рабіць. Кожны год хадзіць на Дзяды… Гэта пытанне прафесійнай прыналежнасці. Калі ты знаходзішся ў прафесіі, ты разумееш, што часам інфармацыйныя нагоды паўтараюцца, паўтараюцца персоны. Трэба проста глядзець на гэта з розных ракурсаў. Калісьці я здымаў гэта вось такім аб'ектывам, цяпер я здымаю з іншай дыстанцыі, у мяне з'явілася нейкая іншая эстэтыка.

***— Але недзе вайна ідзе, недзе узгагароджваюць Нобелеўскіх лаўрэатаў, недзе людзі становяцца прэзідэнтамі, атрымліваюць World Press Photo за свае гісторыі. Не было жадання падацца туды?***

— Беларусь сапраўды не трапляе ў нейкія сусветныя навінавыя трэнды, але тут адбываюцца не менш візуальна цікавыя падзеі. Беларусь мне цікавая, я не стаміўся ад гэтага. Мы стаміліся ад формы, і трэба шукаць новую форму ўспрыняцця гэтай рэальнасці. Не трэба паўтараць нейкія міфы,

як гэта было ў 90-х. Трэба па-новаму, па-постмадэрнову ўспрымаць гэтую паўсядзённасць, гэтыя падзеі, словы, якія пастаянна дублююцца.

***— Але дзесяць гадоў таму людзі казалі мне, што дажывуць да пераменаў. А зараз тыя ж самыя людзі з сумам кажуць, што яны ўжо не дажывуць...***

— Значыць, дажывуць іншыя людзі, нічога страшнага. Калі параўнаць з Савецкім Саюзам, то сёння ў нас значна больш перспектываў убачыць перамены. Толькі так, трэба загартоўвацца.

***— А фотажурналістыка змянілася неяк за пяць гадоў? У 2010-м годзе ты прыйшоў у «Нашу Ніву», у цябе быў Canon, 18-55 аб'ектыў адзін і гэтага хапала (жартую). А зараз?***

— Не, было два аб'ектывы насамрэч (жартуе). Дарэчы, якасныя характарыстыкі змяняюцца. Бо ўсе падзеі-трэнды, якія адбываюцца ў краіне, я зняў у першы ці другі год. Ды і ўсе фатографы знялі. Значна раней за мяне. Але змяняюцца нейкія рэчы. Напрыклад, тэндэнцыя гэтага года ў тым, што фатографы адсылаюць здымкі проста з месца мерапрыемства праз мабільныя прылады, мабільныя картрыдары. Гэта тэхналогія, якая за мяжой ужо даўно была абавязковай, сёлета дабралася і да Беларусі.

***— А прафесійныя фатографы не церпяць ад шырокага распаўсюду і спажывецкага спрашчэння тэхналогій? Зараз, напрыклад, кожны тэлефон можа здымаць фота, відэа, аператыўна публікаваць яго...***

— Безумоўна, такая здымка запаўняе інфармацыйны вакуум, але на вельмі кароткі час, пакуль прафесійны фатограф не скінуў у стужку сваю фатаграфію. Бо яго фатаграфія больш якасная, эмацыйная, дакладней передае сэнс нейкай падзеі, персоны, дэталі. Таму мы не перажываем — мы трымаем планку прафесійную.

***— Зараз амаль усе рэсурсы маюць сваіх фатографаў, і Міколу Статкевіча сустракалі ў пяцьдзясят аб'ектываў мабыць. Даша Сапранецкая нават скардзілася ў Facebook, што яе ледзь не затапталі падчас той сустрэчы. Але ж усе хочуць зняць!***

— Гэта спецыфіка нашай працы. Прафесіяналізм фатографа заключаецца і ў тым, каб заняць лепшую пазіцыю. Канешне, часам здараюцца канфлікты, але гэта нармальна. Гэта вынік інфарматызацыі грамадства, калі на пяць квадратных метраў пяцьдзясят фатографаў і ўсім трэба зняць. У такіх сітуацыях я спрабую быць першым. Проста банальна прыходзіць раней.

***— Як глядзіш на беларускую журналістыку — з аптымізмам ці песімізмам?***

— Сам за сябе радуюся, у мяне ўсё будзе чотка. А агульна калі казаць, то журналістыка павінна развівацца сістэмна, павінны быць нейкія інстытуты, якія яе сістэмна развіваюць. У Беларусі гэтым займаецца хіба толькі Беларуская асацыяцыя журналістаў. У іншых краінах — па-іншаму. Фотажурналістыка яшчэ больш складаная, бо тут трэба адсочваць нейкія глабальныя тэндэнцыі у прэсавай фатаграфіі, нейкі калектыўны вобраз. Тут існуюць конкурсы: «Прэс-фота Беларусь», «Прафота». Вельмі важна, каб сумежна з рэдакцыямі былі і такія інстытуты, якія падтрымліваюць развіццё.

***— Працэс развіцця ідзе?***

— Так, ідзе, хоць і вельмі павольна. Мы ўсё роўна ўпісаныя ў глабальны кантэкст, далучаныя да усяго свету і ўсё роўна бачым нейкія тэндэнцыі, трэнды новыя. Дзесьці, канешне, мы саступаем, бо ў нас іншыя ўмовы працы, але ад свету мы не адарваныя. Складаецца ўражанне, што ў сучаснай фотажурналістыцы вельмі мала залежыць ад самога фатографа: ёсць нейкія стандартныя схемы, яны такія інстытуцыялізаваныя. І вельмі хочацца, каб былі цікавыя фотажурналісты, якія б самі адкрывалі тэмы, а не проста ездзілі і здымалі фоташэраг да матэрыяла карэспандэнта. Хочацца, каб самі адкопвалі, самі пражывалі час, які жыве краіна, і здымалі нейкія персанальныя, часам суб'ектыўныя, але арыгінальныя гісторыі пра гэта жыццё. Бо як паказваюць Беларусь сусветныя агенцыі? Калі адкрыць тры сусветныя фатаграфічныя агенцыі, то мы не ўбачым там ніякіх рознасцяў з Беларусі. Мы убачым нейкую стандартную карцінку, якая дублюецца з агенцыі ў агенцыю.

***— І што ў такім выпадку рабіць?***

— Ствараць свае новыя цікавыя гісторыі. У прынцыпе, я гэтым акурат і займаюся: назапашваю матэрыял, здымаю свае сюжэты, сачу за лёсам нейкіх людзей. Ёсць людзі ды з'явы, якія я здымаю ўжо пяць год запар і такім чынам назапашваю базіс, з якога я потым буду рабіць выставы, кніжкі і г. д. І я не спяшаюся падганяць гэта пад нейкія цыклы. Я хачу рабіць якасны прадукт, вельмі візуальна выкшталцоны.

***— Як фатографы гэта ўсё захоўваюць?***

— Гэта тэхнічныя моманты: архівацыя, некалькі жорсткіх дыскаў. Ёсць вельмі розныя сістэмы архівацыі. Я асабіста архівацыю раблю па гадах плюс асобныя тэчкі ў мяне з праектамі, тэмамі, гісторыямі асобнымі.

***— Наступнае пытанне: 3×4 ці 2×3?***

— 2×3 і толькі гарызантальныя!

***—Што жадаеш нам усім у 2016-м?***

— Трэба паболей здзіўляць адзін аднаго! Цікавымі тэкстамі, карцінкамі, здымкамі, сюжэтамі... Вось калі будзем здзіўляць, тады будзем больш радавацца за стан нашай журналістыкі! З Новым годам!

*Гутарыў Барыс Гарэцкі*

# Маленькая журналистка большого города



Фото Татьяны Ткачевой

**Она стремится к новым горизонтам, переступая через собственные страхи. Прекрасно владеет собой и получает заряд адреналина от работы. Хочет пройти неизведанными тропами и попасть туда, куда «посторонним вход воспрещен». Она — маленькая журналистка большого города Оля Ерохина, корреспондент «Комсомольской правды в Беларуси».**



*Наталья ШАБАНОВА*

***— Ольга, когда у вас возникло желание первый раз что-то написать?***

— В 2003 году. Это было обязательно для поступления. Я вообще изначально собиралась поступать на романо-германскую филологию, не планируя быть журналистом. Меня отговорили. Скорее, дедушка повлиял, потому что он был журналистом. Да и родители объяснили, что после романо-германской филологии светит карьера учителя. А на международной журналистике смогу хотя бы языки выучить. Правда, языки до поступления знала лучше, чем когда меня позже учили. Но я все равно ни о чем не жалею. Первые мои тексты появились еще в 11 классе, ради поступления. Как правило, многие в восемь лет начинают писать стихи... Кстати, я никогда стихов не писала и до сих пор не умею.

***— А какой любимый жанр в журналистике?***

— Интервью. Это самый сложный жанр для меня. Потому что раскрыть собеседника очень тяжело, надо серьезно погрузиться в диалог. Репортажи — самое легкое из того, что может быть. Мне нравится, когда разгорается какой-нибудь скандал, где что-то нужно выцепить, что-то узнать, чего другие не узнают. Культурные репортажи мне интересно читать. Но сама я не умею писать о культуре, для меня это скучно. Однако я преклоняюсь перед людьми, которые это могут. О картине, о выставке мне интереснее и проще прочитать, чем написать.

Люблю освещать текущие события, когда что-то где-то происходит.

Вот недавно было принято 666-е постановление, которое взволновало индивидуальных предпринимателей и покупателей. Согласно этому документу, каждая партия ввозимого из-за рубежа товара (продуктов питания, одежды, электротехнических бытовых приборов, автомобилей и т. д.), подлежит санитарно-гигиенической экспертизе. Что, скорее всего, вызовет рост цен на заграничные товары… Я добилась, чтобы меня пустили в лабораторию. Вот это было интересно!

***— Сложно было туда попасть?***

— Всегда сложно попасть туда, где хозяева — государственные служащие. Часто не хотят пускать. Ты добиваешься, просишь: ну, пожалуйста, ну можно мы придем? Наконец попадаешь туда часа на два с половиной, ищешь, изучаешь… Потом согласование проходишь. Это тоже очень сложно — убедить госслужащих написать попроще. Ведь это не медицинский вестник, все должно быть понятно для широкой аудитории читателей. Добиваешься, и текст выходит. Это здорово!

А вообще я не вижу проблемы для журналиста куда-то попасть. Просто кому-то три раза надо позвонить, а кому-то — десять. Надо стараться, пробиваться. Мой дедушка всегда говорил: не пускают в двери — лезь в окно.

***— О чем был самый интересный, запоминающийся репортаж?***

— Когда ты пишешь каждый день, когда макет газеты утвержден, а на следующий день ты снова идешь за новым материалом, сложно выделить что-то одно. Мне запоминаются те репортажи и интервью, где приходится переступать через себя.

Вот, например, когда я работала в другой газете, много писала про Белорусское общество Красного Креста. Описала со всех сторон все, что знала и что смогла намониторить. А потом узнаю, что у них есть одно очень нужное движение: сестры милосердия Белорусского Красного Креста ухаживают за одинокими пожилыми людьми, которые не могут сами себя обслужить. Причем это действительно одинокие люди, у которых нет никого из родственников. Там работают потрясающие женщины, как правило, они уже на пенсии. Работают за сущие копейки, которые даже деньгами назвать нельзя.

Я договорилась с одной из сестер милосердия встретиться и пройти по адресам, чтобы сделать репортаж о том, как все происходит. Она завела меня в первую квартиру, где от невыносимого запаха начинали слезиться глаза... Когда человек лежит и ходит под себя 24 часа в сутки, то, как бы ты ни убирал, этот тяжелый запах будет присутствовать всегда. Я переборола себя, а когда вышли на свежий воздух, сестра милосердия сказала: «Молодец. Я тебя проверяла. Потому что предыдущая журналистка просто убежала». И мы пошли по другим адресам, где уже не было такого запаха, не было таких ужасных страданий.

Такие моменты из реальной, но закрытой от постороннего глаза жизни запоминаются. Потому что приехать на машине, например, на выставку, что-то спросить, записать, а потом рассказать — всегда проще.

А еще запоминается, когда ты пробиваешься туда, где тебя не ждали, где ты вообще не должен был оказаться.

Когда всех напугала африканская чума свиней, в доме СНГ, по-моему, встречались ветеринары Беларуси, России, Украины, Литвы и Польши, чтобы найти решение проблемы. Туда пригласили журналистов только из президентского пула, а я не вхожу в их число. Однако я узнала о месте и времени этого мероприятия и прошла, чувствуя себя как свой среди чужих или чужой среди своих. Я стояла с диктофоном и смотрела в потолок, не имея возможности задать вопрос, потому что это могло бы меня рассекретить. Я все записала и сделала эксклюзивный репортаж без ссылок на информагентства, которые, разумеется, уже выдали соответствующую информацию.

***— А были моменты в начале пути, когда во время интервью не хватало слов, вопросов, зато присутствовали растерянность и страх?***

— Да, были. Но и там я переступала через себя, через свои страхи. Надо сделать — значит надо. Ведь тебя послали на задание, тебе необходимо задать вопросы... Это всегда очень сложно. Ты представляешься журналистом конкретного издания и ты отвечаешь за свои слова. Это всегда ответственность — отвечать за свои слова.

Это своего рода квест, преодоление себя. Ты от этого адреналин получаешь. На первом этапе, конечно, у всех было такое.

***— Не было ли желания все бросить? Не было ли осознания того, что выбрана не та профессия?***

— Такое, наверное, возникает у всех людей. Когда ты сильно устаешь и тебе хочется отдохнуть, кажется, что другая профессия гораздо легче. Но это же на самом деле не так. Со стороны всегда чужая профессия кажется проще.

Что может быть проще, например, чем работать официантом? Но ведь на самом деле это очень тяжело: постоянно находиться на ногах, всем угождать…

А потом понимаешь, что просто нужна передышка.

***— А бывает такое, что нет вдохновения и просто не пишется?***

— Бывает. Но ты все равно пишешь. Открываешь Word и пишешь. Если совсем не можешь, пишешь рубрику, пишешь заголовок, фамилию. На листике можешь написать, заменить Word на текстовой файл. Материал не может не выйти! Это же не личный блог, когда ты можешь написать, а можешь и не написать. Надо находить интерес в чем-то, находить что-то, что другие журналисты пока еще не нашли: какую-то цифру или факт, разговорить собеседника. В этом есть какой-то свой драйв.

***— Журналист, на ваш взгляд, это профессия или призвание?***

— Да у нас в редакции не у всех журфаковское образование! А есть множество журналистов с образованием, которые не умеют писать. Но научиться этому можно.

Вот я журналист, пишу на экономическую тематику. С точки зрения мировой журналистики это не совсем правильно. Я не разбираюсь в экономике. Моя задача состоит в том, чтобы найти эксперта, который мне все грамотно разъяснит, чтобы я это переварила и донесла читателю, который тоже не экономист. По правилам мировой журналистики экономической журналистикой должен заниматься экономист, который умеет простыми словами объяснять читателю, что происходит. Что такое биржа и как проходят торги, например.

Но научиться писать можно, в этом ничего страшного нет. Просто одних можно научить, а у других есть талант.

К нам приходят студенты на практику. Некоторые приходят за месяц два раза. Напишут один текст, а потом просят написать им характеристику. А кто-то безвылазно сидит в течение года-двух-трех, и его не берут, потому что он студент…

***—Неудачные репортажи случались?***

— Да, бывали. Но я со второго курса работала в газете, где был такой замечательный редактор, который меня направлял и учил, мол, так нельзя, а так правильно. Я иногда сейчас даже перечитываю то, что писала раньше, и мне не нравится. Но все равно учишься на ошибках. Неправильно считать, что коль ты пришел в журналистику, то сразу напишешь интересный текст. Я сама скорей научилась писать, чем имела врожденный талант.

***— Как справляетесь с критикой в свой адрес?***

— Отвечаю: «Спасибо за комментарий, учтем».

***— А в душе не трогает?***

— Если критика неконструктивная, она меня вообще не трогает. А если человек указывает на ошибку, то ее нужно действительно исправить и впредь такого не допускать. Это, скорее, претензии к себе, что ты ее допустил.

Люди разные бывают, разные читатели, разные мнения. Всем понравиться невозможно. И не будешь ведь каждый раз тратить свои нервы, эмоции на негатив, тем более что в нашей профессии и так нервы горят, хватает эмоций и негатива.

***— Как находите информационные поводы?***

— Прежде всего через ленту новостей. Это также письма от партнеров, блогерские посты. Может кто-то из читателей позвонить. Очень часто звонят, поэтому с ними важно вежливо общаться и нельзя ссориться. Читатели часто высказывают конструктивную критику. Звонят и жалуются или чем-то недовольны. Например, что написали об этом, а не о том. Но и благодарят. Из колоний письма приходят — познакомиться (смеется). Или описывают свои истории, просят разобраться, рассказывают о том, что их осудили незаконно.

***— Случались ли казусы в работе?***

— Был смешной случай, когда я написала про застройщика, который обманул дольщиков. Он должен был построить два дома (он их до сих пор не построил). Там была отлаженная схема пирамиды: когда деньги на строительство дома разбазарены, объявляется строительство нового здания, а деньги, взятые на него, идут на достройку первого. Я про него писала по материалам суда, в том числе рассказывая про опись его многочисленного имущества. Я не первая написала о нем. Написала — и пошла в отпуск.

Тут звонят из редакции и говорят, что меня ищут, хотят со мной поговорить. Я звоню директору предприятия, мне назначают встречу, на которую «герои» приходят вдвоем и начинают мне угрожать. С матами, обещая по судам затаскать. А я сижу, мне так «хорошо», ведь только отпуск начался. И говорю: вы знаете, я сейчас могу стать и уйти, потому что я в отпуске. Они немного успокоились, потребовали написать опровержение. Предложила им письменно предоставить мне конкретные факты, на которые они хотят увидеть опровержение. Ждала неделю, вторую, уже из отпуска вышла. И тут выяснилось, что директора посадили. Мне кажется, это смешно. Каждый день что-то смешное происходит.

***— Сложно работать в большом городе или, наоборот, проще?***

— Я выросла в Минске и не считаю его большим городом. Здесь самое интересное происходит в центре.

Когда я проходила распределение, то предварительно меня хотели отправить в Вилейку в газету «Шлях перамогі», но потом распределили в «Вечерний Минск». На выставке СМИ я подошла к стенду Минской области, нашла районную газету «Шлях перамогі» и поняла, что там, наверное, очень скучно работать. Ну первый месяц интересно, когда про доярку напишешь, про комбайнера, еще про кого-то. Но потом, наверное, станет очень скучно. Все-таки в Минске происходит больше событий.

Вот в Москве, мне кажется, тяжелее работать. Город большой, людей больше, событий больше. И все интересно, а про все не напишешь. В Нью-Йорке еще сложнее.

***— А что бы вы изменили в нашей белорусской журналистике?***

— О! Я бы убрала дотации государственных СМИ, тогда была бы честная конкуренция. А так конкуренции между государственными изданиями нет, они как бы отдельно существуют. А другие между собой как бы конкурируют. Вот если вообще убрать госдотации, была бы здоровая конкуренция.

Еще я ввела бы больше практики на журфаке. Ты пропускаешь пары, ты работаешь вместо того, чтобы учится. Хотя… С другой стороны, те, кто работал и учился, и сейчас работают. А те, кто только ходил на занятия, сейчас почти никто не работает в журналистике.

Еще я бы доплачивала редакторам, которые берут шефство над студентами и практикантами. Потому что это тяжелый, постоянный труд. Еще я изменила бы Закон о СМИ.

***— Что ненавидите в работе журналиста?***

— Расшифровывать текст с диктофона. Это самое отвратительное, что можно придумать. Я бы дала Нобеля тому, кто бы изобрел что-то, что поможет снять с диктофона запись. Я знаю, что есть такие англоязычные программы. Снимают они не очень хорошо, но…

***— А что нравится в профессии, чем она, на ваш взгляд, хороша?***

— Нравится, когда быстро согласовывают тексты с минимальным количеством правок.

А еще у меня сейчас такое количество друзей, что отказаться от них я не в силах. Эта профессия дает смелость, самокритику, воспитывает силу воли. Интересно через что-то переступать, куда-то идти, что-то узнавать.

***— А негатив если есть, то в чем?***

— Времени свободного мало.

***— С чего тогда начинается утро?***

— С просмотра ленты новостей. Сначала, конечно, с кофе. Без него у меня вообще глаза не открываются. Сварю себе кофе, сделаю завтрак и пока ем — просматриваю новости.

***— Есть профессиональная мечта куда-то попасть, взять у кого-то интервью?***

— Я когда-то ответила шуткой на аналогичный вопрос украинской журналистки, что хочу взять интервью у Лукашенко, чтоб он всю правду рассказал, но это нереально.

Хотела бы взять интервью у какого-нибудь знаменитого американского журналиста. Мне интересно было бы, например, поговорить с Познером. Хотя я не уверена, что готова брать у него интервью — для этого нужно еще расти. Но…

Интересно писать тексты про то, о чем еще никто не писал. Попасть туда, куда еще никого не пускали, например в секретное бомбоубежище.

***— Ваш совет школьникам, которые мечтают стать журналистами?***

— Хорошо подумать об этом. Это очень тяжелый труд, и ты должен это понимать. Если ты журналист, ты работаешь 24 часа в сутки. Ты не можешь абстрагироваться от новостей, ты можешь сделать это на короткое время, во время отпуска или когда выезжаешь на природу и отключаешь телефон. Но такое случается очень редко. Тяжело постоянно быть наготове.

Хотя у меня есть знакомые журналисты-аналитики, которые пишут раз в неделю, раз в месяц. Они не будут срываться посреди вечеринки, чтобы написать репортаж, потому что произошло что-то. А я из тех, кто будет.

Мой папа, когда я поступила на журфак, пошутил, что «журналисты или психи, или алкоголики». И он прав.

***—Вы немного псих?***

— Немножко и того и другого.

***— Наверное, эти слова можно адресовать ко всем творческим людям.***

— Я рисовать не умею, петь не умею, стихов, книжек не пишу. Не знаю, творческий ли я человек. Блог в ЖЖ у меня когда-то был, но он очень быстро загнулся. Мне не нравится интерфейс. В ФБ более интересно.

***— А не боялись из журналиста превратиться в блогера? Их у нас сейчас не очень любят.***

— А я люблю блогеров! Они классные ребята. От них приходит много информации. Не все всегда можно успеть. У блогеров можно прочитать что и где произошло. Они формируют общественное мнение: что интересно, а что нет. Вот, например, темы парковок, курения в общественных местах. Я не думала, что это вызовет какую-то бурную реакцию. Но, оказывается, вызывало, и такую, что некоторые порвать друг друга готовы во время дискуссий. И ты понимаешь — надо написать об этом. Вот я сейчас написала про антитабачный закон — у меня там больше ста комментариев.

У многих блогеров огромное количество друзей, много подписчиков, их знают, к ним прислушиваются. С ними всегда можно поспорить, ведь это не «звезды». Я не знаю, как они зарабатывают деньги, еще не поняла, но, на мой взгляд, многие из них очень крутые ребята.

# «Дотык» да рэальнасці

**Выпускнікі адукацыйнага курсу «Лаві момант!», якія ладзіла Беларуская асацыяцыя журналістаў, правялі ў Мінску выставу ўласных фотагісторый.**

Курс, дзе выкладалі беларускі фатограф Сяргей Балай і яго літоўскі калега Рамуальдас Вайткус, стартаваў восенню 2014 года і праходзіў у некалькі этапаў. Адразу стала зразумела, што каманда навучэнцаў падабралася вельмі крэатыўная: увесну 2015-га беларускі трэнер з навучэнцамі зрабілі яркі фотапраект на партале TUT.BY — дзевяць фотагісторый пра «Гуканне вясны» ў Вязынцы. Ужо тады пачаліся размовы пра выпуск фотаальбома, і ён сапраўды пабачыў свет акурат да адкрыцця выставы «Дотык».

— Калі курс пачынаўся, я не магла і марыць пра такую выставу, — прызналася адна з куратараў адукацыйных курсаў БАЖ журналістка Марына Загорская. Па яе словах трэнеры вельмі строга ставіліся да наведвання заняткаў і да «хатніх заданняў». І навучэнцы дысцыплінавана выконвалі ўсе патрабаванні, нягледзячы на тое, што дабірацца да сталіцы па выходных днях ім даводзілася з розных рэгіёнаў Беларусі.

— Гэтыя месяцы, калі мы працавалі разам, былі незвычайнымі, складанымі і класнымі, — зазначыў Сяргей Балай у гутарцы са сваімі курсантамі-навучэнцамі. — Я спадзяюся, што на гэтым ні канкрэтна гэты праект, ні ваша праца не скончацца. Як застанецца і натхненне ад таго, што мы рабілі.

— У БАЖы больш за 1000 сяброў, — нагадаў яшчэ адзін куратар адукацыйных курсаў Юрась Карманаў. — У свой час мы задумаліся: як зрабіць так, каб майстры журналістыкі перадавалі свой досвед маладым людзям? І прыдумалі сістэму дзвух- і трохмесячнага навучання па розных накірунках, у тым ліку па фотажурналістыцы. Я заўсёды кажу, што БАЖ — гэта мы з вамі, і толькі ад нас залежыць, што мы будзем мець. Сёння мы маем свята.

— У Статуце нашай грамадскай арганізацыі напісана, што яна спрыяе творчаму самавыяўленню сваіх сяброў. Цудоўна, што гэта не проста словы з афіцыйнага дакумента, — зазначыў старшыня БАЖ Андрэй Бастунец.

Выпускнікі курсу невялікім накладам выдалі фотаальбом, дзе прэзентавалі ўласную працу. Вось некалькі фотаздымкаў, што ўвайшлі ў выданне.





*Валянціна Міронава. «Смага праўды продкаў»*



*Валянцін Міхальцоў. «Пажыць яшчэ»*

*Валянцін і Вера ўзялі шлюб мінулай восенню ў маленькай царкве дома састарэлых, які і злучыў іх разам. Валянцін прыехаў сюды мінулай вясной, а Вера ўжо жыла ў інтэрнаце дзесяць гадоў.*



*Марына Аўсяннікава. «Трыццаць гадоў адзіноты»*

*Таццяне Раманаўне 73 гады. Больш за трыццаць з іх яна жыве адна ў драўляным доме на ўскраіне аднаго з райцэнтраў Беларусі. Муж памёр, сотні і тысячы кіламетраў праляглі паміж жанчынай і яе дзецьмі.*



*Юлія Шаблоўская. «У цемры»*

***У адзінаццаць гадоў ён перастаў бачыць. Зусім. Цяпер Саша працуе на заводзе ў Маладзечна. Ён не жанаты. Увесь вольны час ён праводзіць у кампаніі бацькоў у вёсцы Аборак. Нядаўна ў яго галаве знайшлі пухліну, з-за якой ён, хутчэй за ўсё, згубіў зрок. Саша спадзяецца, што пасля аперацыі ён зноў убачыць сонечны свет.***




*Вікторыя Герасімава, Таццяна Сталярова. «Каўчэг»*

***Начлежнаму дому ў Сухарава ўжо дзесяць гадоў. На гэтым «каўчэгу» свае жыцці спрабавалі выратаваць больш за сто мужчын. Некаторым гэта ўдалося, іншыя апусцілі рукі, але многія працягваюць барацьбу.***



*Тацціяна Ткачова. «Прыгажосць жорсткай сувязі»*

***У японскім мастацтве шыбары кожны выбірае тое, што яму бліжэй – боль, эстэтыку, усходнюю практыку. Для недасведчанага назіральніка першая сустрэча з шыбары – узаемаадносіны паміж мужчынам і жанчынай. Але шыбары – гэта гісторыя пра сэксуальнасць, скаванасць і цялеснасьць.***



# Уявіце, што Facebook і «ВКонтакте» не існуюць...

**У гэтым навагоднім нумары «А» Павел Свярдлоў узгадвае анталогію беларускай журналістыкі за апошнія 15 гадоў. Ад друкаванай прэсы, факсаў, званкоў з тэлефона-аўтамата і інтэрнэта хуткасцю 56 Кб/с да няспыннага канвееру, які праглынуў асобу сучаснага журналіста.**



## Пачатак

Я прыйшоў у журналістыку ў 2001 годзе абсалютна выпадкова. Другая сесія, лета. Экзамен па логіцы прымае Андрэй Якадумаў. Я люблю логіку і ўсё вывучыў. Ён ставіць мне «выдатна» і кажа: «Павел, ёсць прапанова. Можа хочаце пісаць у газету?»

Праз пару дзён мы крочым з Якадумавым па вуліцы Першамайскай. Уваходзім у змрочны пад'езд дзевяціпавярховіка. Дзверы двухпакаёўкі незамкнёныя. У большым пакоі — шмат сталоў і кампутараў. У меншым — начальства: Аляксей Кароль і Аксана Колб. І, натуральна, Аляксандр Здзвіжкоў. Хаця ён амаль увесь час на кухні: паліць і распавядае пра Кандагар.

Так я трапіў у рэдакцыю газеты «Згода». Праз пару гадоў яе закрыюць за тое, што перадрукавала з Jyllands-Posten карыкатуры на прарока Магамета. Здзвіжкоў апынецца за кратамі.

## Хуткасць

Газета выходзіла раз на тыдзень. Гэта было вельмі зручна, бо хутка працаваць я яшчэ не ўмеў. Вось «Навінкі» — гэта была іншая справа. Я быў сведкам таго, як хлопцы зрабілі газету за адну ноч. Спачатку схадзілі ў краму, узялі «бырла» (сапраўднага, з пластыкавымі закрыўкамі), крывяной кілбасы і пайшлі на стадыён за Акадэміяй мастацтваў — глядзець футбол. На трыбунах усё выпілі і з'елі. Вярнуліся ў рэдакцыю, што таксама месцілася ў кватэры, і напісалі ўсё — ад першай да апошняй літары. Але я ў гэты рытм не ўпісваўся. Я працаваў у «Згодзе», дзе над зацемкай з канцэрта можна было прасядзець пару дзён. Можна было ўсё лета недзе тусавацца, а пасля прыехаць і пісаць пра тое, як месяц таму валанцёры паехалі прыбіраць смецце ў Косаўскім палацы.

Праз тры гады я ішоў з рэдакцыі БелаПАН, што мясцілася ў будынку Белгідра-нечага-там на вуліцы Сурганава, на прэс-канферэнцыю ў Дом прэсы. Там слухаў, што казалі разумныя людзі. Пасля вяртаўся ў рэдакцыю, сядаў за камп'ютар і пісаў зацемку. На гэта магла спатрэбіцца гадзіна, і ніхто не стаяў у мяне над душой.

На важныя прэс-канферэнцыі, з якіх трэба было «адпісвацца» хутка, мяне не пасылалі. Сёння ж я на любой прэс-канферэнцыі імкнуся паставіць тэкст на сайт яшчэ да таго, як яна скончыцца. Тэхнічныя магчымасці гэта дазваляюць. Дык чаму не?

Чамусьці зараз прыгадаў, як ехаў з «Басовішча-2005» у адным аўтобусе з музыкамі. Ледзь пераехалі мяжу — званок ад рэдактара з БелаПАН. І хвілінаў дваццаць я дыктаваў па тэлефоне тэкст з імёнамі і назвамі гуртоў-пераможцаў.


Рэдакцыя газеты»Навінкі»

## Інтэрнэт

З пачатку 2000-х журналістыка змянілася непазнавальна. Уявіце сабе, што стужкі Facebook ды «ВКонтакте» не існуюць. Ніхто не расшарвае спасылкі, бо няма куды. «Живой журнал» — платны сервіс для эліты. Google ды «Яндекс» не акумулююць навіны. YouTube нікому нават не ўпаў, бо ўсе сядзяць у інтэрнэце з хуткасцю 56 Кб/с. Якое онлайн-відэа?! Падмурак журналістыкі — газеты. Першы паверх — радыё. А тэлебачанне — другі паверх — для гаспадароў жыцця.

У 2004 годзе па заданні «Згоды» пайшоў на суд над Фёдарам Караленкам, які рабіў www.pesnyary.com. Яго абвінавачвалі ў парушэнні аўтарскіх правоў: Ігар Лучанок паклікаў дахаты ўчастковага і ў яго прысутнасці спампаваў з сайта дзве песняроўскія песні. Суддзя не разумеў тэхнічных акалічнасцяў, таму ў залу паклікалі Юрыя Зісера, каб патлумачыў. Бо ён ужо тады добра ўяўляў сабе, што такое інтэрнэт. А Караленка казаў, што песні ляжаць на серверы ў Нарвегіі, а ён толькі размясціў спасылку.

У тыя дзікія часы хуткасць была не прынцыповай. Мы гублялі гадзіны на тое, каб прыдумаць каламбур для загалоўка, замест таго, каб проста напісаць калі-дзе-хто-што. Прайшло ўсяго дзесяць гадоў, і галоўнымі ў тэксце сталі не метафары і параўнанні, а «ўнікальнасць», якую ў адсотках вымярае пошукавая машына. Плюс фота і відэа, якія таксама «любяць» пашукавікі.

## Праца

У 2006 годзе, калі я прыйшоў на «Еўрапейскае радыё для Беларусі», мы ставілі на сайт 6—8 тэкстаў за суткі. А тэксты некаторых праграмаў увогуле не выкладаліся ў інтэрнэт. Сёння на сайце «Еўрарадыё» з'яўляецца не менш як 60 тэкстаў за дзень. Як вы думаеце, ці стала там у дзесяць разоў больш журналістаў?

Сучасныя журналісты працуюць амаль без перапынку. Калі я еду з дому ў рэдакцыю KYKY.org, то праглядаю стужку Фэйсбука ў пошуках цікавых постаў. Калі чакаю, пакуль прыгатуюць каву, прагортваю сайты з навінамі. Здараецца, дастаю ноўтбук у маршрутцы па дарозе дадому і што-небудзь выпраўляю на сайце. Гэта звычайная справа. Раней увесь гэты час, які сёння, дзякуючы смартфонам, стаў працоўным, быў вольным. Едучы дадому, мы не думалі пра кантэнт, а проста глядзелі ў вакно. Мы адпачывалі. А сёння мы па-сапраўднаму адпачываем хіба што тады, калі нарэшце апынаемся ў ложку. Адсюль і стома, звычайная і заўсёдная, пазбавіцца якой, здаецца, практычна нерэальна.

Здольнасць журналіста круглыя суткі выконваць абсалютна розную працу называюць канвергентнасцю. Тое, што раней рабілі рэпарцёр, фатограф, карэктар і інжынер мантажу, сёння аднаасобна робіць чараўнік з нататнікам, дыктафонам, фотаапаратам і ноўтбукам у чатырох руках. Рукі чатыры, а заробак адзін.

Канвергентнасць — гэта хуткасць і ашчаднасць, але далёка не заўсёды якасць. Таму асабіста я лічу, што яна ад д'ябла. Хутка кожнаму журналісту давядзецца засвоіць яшчэ і асновы праграмавання, і ператварэнне дадзеных у інфаграфіку. На кожную опцыю застаецца ўсё менш часу. Якасць у такіх умовах можна захоўваць толькі да пэўнай ступені.

## Зоркі

У сучаснай журналістыцы няма зорак. Калісьці я выходзіў на апытанку «Якіх беларускіх журналістаў вы ведаеце?». Людзі не назвалі амаль нікога, акрамя Паўла Якубовіча. Тэкстаў стала настолькі шмат, што адбылася інфляцыя, якая з'ела асобу аўтара. Ну якая, да халеры, розніца, хто аўтар бясконцых навінаў пра знішчэнне ідэолага парыжскіх тэрактаў, якую мы чытаем на ўсіх сайтах?


ЗГОДА

НАРОД НА КОНЬКАХ

Я мог бы назваць многіх вартых журналістаў. А ў людзей, далёкіх ад медыя, не хапае часу разбірацца ў тым, хто для іх гаворыць і паказвае. Пазнавальнасць гарантуе толькі тэлебачанне. Інтэрнэт-тэлебачанне, ў рэшце рэшт. У іншых выпадках людзі са свету медыя прыцягваюць да сябе надзвычайную ўвагу хіба што тады, калі ўлада кідае іх за краты. Адваротныя прыклады сустракаюцца рэдка: Віктар Марціновіч, Таццяна Заміроўская. Але ім

даўно ўжо па трыццаць і з больш-менш апаратыўнай журналістыкі яны сышлі ў публіцыстыку і літаратуру.

## Піяр

Частка віны за дэвальвацыю журналісцкай прафесіі ляжыць на піяршчыках. Усімі праўдамі і няпраўдамі яны імкнуцца прымусіць журналіста напісаць менавіта тое, што патрэбна іх кліенту. Для большасці піяршчыкаў ідэальны журналіст той, які без зменаў перадрукуе прэс-рэліз. Я добра адчуў гэта, калі ў канцы 2000-х пісаў дысертацыю па музычнай журналістыцы. Гартаў падшыўкі і ў трох розных газетах патрапіў на амаль аднолькавыя «навіны» з аднолькавымі загалоўкамі.

Прэс-рэлізы тады пачалі складаць з загалоўкамі ў стылі інфармагенцтваў і загадзя падрыхтаванымі цытатамі асноўных спікераў. Шкада, што тады мы не разумелі, да чаго гэта прывядзе. Добра, што сёння ўсё больш піяр-менеджараў разумее, што ад самастойнага журналіста, які ўмее думаць, карысці больш, чым ад папугая, здольнага толькі паўтарыць дасланае.




## Офіс

Сёння журналіст можа прыйсці ў рэдакцыю і прасядзець там увесь дзень, перапісваючы інтэрнэт. У выніку нават можа атрымацца цікавы артыкул. Прынамсі нехта ўсё жыццё можа перапісваць інтэрнэт і ў вус не дзьмуць. Уявіць сабе такое 15 гадоў таму было проста немагчыма.

Тады, калі табе была патрэбная інфармацыя, ты ехаў ці тэлефанаваў туды, дзе яна ёсць. Афіцыйныя запыты раздрукоўваліся і адпраўляліся да чыноўнікаў факсам. І ведаеце што? Журналістыка была крыху іншай. Больш эксклюзіўнай. Ты глядзеў чалавеку ў вочы, чуў яго голас. Гэта непараўнальна больш, чым капіяваць нечую гучную цытату з Фэйсбука, нават калі ты заўважыў яе першы. Самыя паспяховыя беларускія медыя нават сёння вельмі рэдка абмяжоўваюцца інфармацыяй, не спраўджанай у першакрыніцы і не пашыранай за кошт каментароў.

Журналістыка — гэта афіцыйны дазвол пытацца больш за ўсіх і ведаць больш за ўсіх. Чым больш нязручнае пытанне — тым больш цікавы адказ. Калі ты не задаеш пытанняў, ты, як правіла, не атрымліваеш змястоўных адказаў. Іх атрымлівае і публікуе нехта іншы. Трэба па кроплі выціснуць з сябе боязь ісці да людзей, у іншым выпадку — знайсці іншую прафесію. Робіцца гэта вельмі проста. Кожны раз, калі ты думаеш, што сваім пытаннем можаш пакрыўдзіць чалавека, ты кажаш сабе: «Праца, за якую я атрымліваю грошы і за якую мяне паважаюць чытачы, заключаецца не ў тым, каб нікога не пакрыўдзіць, а ў тым, каб напісаць цікавы і праўдзівы сюжэт». І наперад — па дэталі, якіх ні ў кога пакуль яшчэ няма.

Выключэнне — этыка. Асабістае жыццё. Пачуцці. Боль. Смерць. Дзяржаўная таямніца.

## Магчымасці

Магчымасці журналістаў — ды і ўвогуле магчымасці чалавека на выяўленне сваіх поглядаў — ў нашай дзяржаве ўвесь час скарачаюцца. Удумайцеся: у 2006 годзе на Кастрычніцкай плошчы тыдзень прастаяла невялічкае намётавае мястэчка. Каб паглядзець на яго, журналістаў вадзілі на дах Палаца Рэспублікі. Скончылася гэтая гісторыя гэтак жа сумна, як і ўсе астатнія, але факт ёсць факт.

У 2010 годзе мітынг пасля выбараў завяршыўся брутальным разгонам. А ў 2012-м дзвюх журналістак прызналі вінаватымі ў пікетаванні шляхам фатаграфавання. Іх затрымалі ў двары мінскага дома, калі першая фатаграфавала другую са шведскім цацачным мядзведзікам. У 2015 годзе нам забаранілі здымаць адміністрацыйныя будынкі. А сайт KYKY.org на тыдзень закрылі за артыкулы пра парад Перамогі 9 траўня і эрэкцыю падчас вытворчасці трактароў.

## Сваё

Працуючы журналістам, вельмі лёгка апынуцца ў сістэме. Напрыклад, «Еўрапейскае радыё для Беларусі» функцыянуе як добра адладжаная машына. Кожны супрацоўнік робіць свой кавалак працы, і ўсё атрымліваецца. Са дня ў дзень змяняюцца толькі тэмы, а таксама месцы, куды трэба з'ездзіць, і людзі, якіх трэба «дастаць», каб гэтыя тэмы раскрыць.

«Еўрарадыё» мусіць так працаваць, бо гэта не проста штодзённае, а, я б сказаў, штохвіліннае СМІ. Адтуль я перайшоў у глянцавы часопіс «Таймер». Кожны яго нумар мы рабілі па-свойму, прыдумлялі з нуля. Гэта было вельмі цікава. На жаль, рэкламадаўцы былі не вельмі задаволеныя нашымі фантазіямі. Зараз я ў іншай камандзе — на KYKY.org. І мы кожны дзень вырашаем, якім будзе наш сайт. Яго можна «ляпіць» проста тут і зараз. Магчымасць такога ўплыву — магічнае адчуванне. Але і вялікая адказнасць, у тым ліку за сваю будучыню.

Працаваць у добра адладжанай сістэме ці ў творчым хаосе — выбар, які даводзіцца рабіць кожнаму журналісту.

# «Адначасова пішам хвалебныя оды і зневажаем людзей»



*Настасся РЭЗНІКАВА*

**Адар'я Гуштын і Ягор Марціновіч — маладая журналісцкая сям'я, якая ў свой час ускалыхнула ўтульненькі журналісцкі свет біяграфічнымі матэрыяламі пра высокіх чыноўнікаў. Мы завіталі да пары ў госці, каб распытаць пра тое, як робяцца такія матэрыялы, а таксама пра «сабачу работу» і беларускамоўны таблоід.**

## Гісторыя кахання

Пазнаёміліся Ягор і Адар'я на журфаку: вучыліся будучыя муж і жонка ў адной групе. А вось першыя ўражанні адзін ад аднога былі, мякка кажучы, «не вельмі». Ягор доўгі час думаў, што Адар'я з «блатных»: ці то дачка якога старшыні калгаса, ці то старшыні гарвыканкаму. Бо на спісах залічаных Гуштын была дапісаная ў канцы ад рукі. Але потым высветлілася, што быў проста банкаўскі збой: грошы за адукацыю заплацілі, але яны не адразу дайшлі.

Адарка таксама мела не самыя станоўчыя ўражанні ад свайго будучага мужа. У адзін з першых вераснёўскіх дзён, атрымаўшы падручнікі, Ягор цягнуў з бібліятэкі стос з 25 кніжак. Дзяўчына падумала: «Божа, які ботан. А раптам астатнім не хопіць? Кулак нейкі». Ідучы паасобку на адзін і той жа прыпынак, хлопец у думках не надта прыязна адгукаўся: «Толькі б яна не на мой аўтобус села, гэта ж жах, прыйдзецца пра нешта размаўляць».

Павучыўшыся троху і пазнаёміўшыся бліжэй, стаўленне адно да аднаго змянілася. На першым жа курсе пачаў фармавацца так званы нацыяналістычны гуртох — так рэпер Вінсент абазваў у інтэрв'ю беларускамоўную супольнасць журфаку. Там і завязалася сяброўства, якое пасля перарасло ў каханне.

— Калі Ягор прапанаваў стасункі, я падумала, што гэта нешта несур'ёзнае, — узгадвае Адарка.

— Ну нарэшце ты мне ўсю праўду раскажаш! — смяецца Ягор.

— Я ж казала табе мільён разоў! Ну вось, будуць стасункі нейкі месяц, потым мы расстанемся, невядома, як гэта будзе, а ў нас агульная кампанія, агульная прафесія. Гэта заўсёды так складана, калі ў кампаніі нехта разыходзіцца, потым усёй кампаніі няёмка. Таму я доўга вагалася ... Цэлы месяц, — пасміхаецца яна.

На чацвертым курсе ажаніліся. Фактычна таемна, без тамады і «Горько!». Паехалі да Адарчыных бацькоў, распісаліся ў загсе. Рэгістратарка яшчэ доўга шукала вальс Мендэльсона, перамотваючы касету на старым магнітафоне. А маладыя ў гэты час прасілі ў думках: «Толькі б яна яго не знайшла». Не знайшла.

Сужэнцы не насілі пярсцёнкаў, і да апошняга дня ва ўніверсітэце ніхто не ведаў пра вяселле. А калі Ягор прыйшоў на размеркаванне з заявай на вольны дыплом, аргументуючы тым, што ў ягонай жонкі менская прапіска, ва ўсёй камісіі акругліліся вочы: «Егор, вы женаты? Уже год? И мы про это не знали? Почему вы не сообщили нам?»

## «На деревню к дедушке»

Сямейная пара вядомая сярод журналісцкай тусоўкі перш за ўсё шэрагам біяграфічных матэрыялаў пра беларускіх чыноўнікаў, які самі яны называюць «на деревню к дедушке».

Серыя артыкулаў пачалася са звароту чытача ў «Нашу Ніву». Чытач сцвярджаў, што Уладзімір Макей — ягоны зямляк з вёскі Некрашэвічы. Ягор паехаў на радзіму міністра, захапіўшы Адарку проста за кампанію. Пазней аказалася, што ўдвух працаваць прасцей. Да таго ж Адарка мае падыход да вясковых людзей. А Ягор, які вырас у сталіцы, займаецца часцей пошукам і зборам інфармацыі. У вандроўку адпраўляюцца разам, тэкст у

выніку піша хтосьці адзін. Праўда, аднойчы ўдваіх пісалі артыкул. Які канкрэтна — не прызнаюцца, але кажуць, што ён быў найгоршы з усіх.

Журналісты едуць звычайна на радзіму чыноўнікаў, да блізкіх сваякоў. Часам сваякоў складана знайсці. Так было з сям'ёй Лідзіі Ярмошынай. Ягор з Адаркай знайшлі сям'ю Ярмошыных у Бабруйску ды прыехалі да іх, а тыя ім з парога: «Идите, никакой Лиды мы не знаем». Проста аказаліся іншыя Ярмошыны. Справа ў тым, што дзявочае прозвішча ў Лідзіі Міхайлаўны — Гаркавенка.

Урэшце журналісты знайшлі патрэбны адрас маці, прыязджаюць, звоняць у дамафон. А ў адказ да болю пазнавальны голас: «Алё». Адарка нават разгубілася. Праз невялічкую паўзу сабралася і кажа:

— Добрый дзень. Ці можна Лізавету Канстанцінаўну?

— А кто это?

— Журналісты.

— А вы с ней договаривались?

— Не, але ведаеце... Мы прыехалі здалёк...

— Нет, она с вами разговаривать не будет.

Губляць няма чаго і Адар'я бярэ сябе ў рукі і наўпрост пытае:

— Лідзія Міхайлаўна, можа, вы адкажаце на нашыя пытанні?

— Ну... Вы же понимаете... Так же не делается.. А вы вообще из какого издания?

— «Наша Ніва».

— Это которая оппозиционная?

— Гэта каторая незалежная.

— С вами я разговаривать не буду!

І кінула трубку. «Так мяне ўпершыню паслалі па дамафоне», — смяецца Адарка.

Адрасы і нумары герояў шукаюць паўсюль: па базах, сацсетках, а ў самой вёсцы і так усе пра ўсіх усё ведаюць. Іншая справа — могуць не расказаць.

Аднойчы журналісты рабілі матэрыял пра Пракаповіча і паехалі да ягонага брата ў Тамашоўку, што пад Брэстам. Вёска гэтая славіцца тым, што мае надзвычай развітую інфраструктуру: школа з зімнім садам, аранжарэяй і басейнам, Дом культуры, дзе ледзь не кожныя выходныя выступаюць артысты, будуецца спартыўны комплекс. Знайшлі Адар'я з Ягорам патрэбны дом, звоняць. Адчыняе жанчына і кажа, што гаспадар на канцэрт пайшоў. «Можа, вы тады з намі паразмаўляеце?» — «Нет, что вы, я домработница!». Вырашылі чакаць. Ужо і канцэрт скончыўся, з клуба разыходзяцца людзі, а ў патрэбны дом ніхто не ідзе. Раптам запальваецца святло ўнутры. «Відаць, прайшлі праз чорны ўваход», — здагадаліся журналісты і пайшлі зноўку грукацца. Выходзяць два маладых хлопцы: «Он не будет с вами разговаривать!» Так вярнуліся ў Менск ні з чым.

Па прыездзе датэлефанаваліся да Пракаповіча з Тамашоўкі, але і па тэлефоне размаўляць той Пракаповіч не захацеў і сказаў, каб адчапіліся і тэлефанавалі іншаму брату. Адарка адразу ж набрала нумар трэцяга брата, які расказаў усё, што хацелі. А падчас размовы ў таго безупынна званіў мабільны. «Відаць, незгаворлівы брат яму набіраў. Добра, што я тады адразу патэлефанавала», — кажа Адарка.

Напярэдадні мінулага Новага году пасля прызначэння цэлага шэрагу высокіх чыноўнікаў адправіліся журналісты па мясцінах новаспечанага старшыні Нацбанку. Зіма, мароз, Палессе. Сястра Калаура нават не пускае ў хату: «Мне Павлик сказал ничего не говорить журналистам». У Адаркі адчай, бо да таго ж і змерзлі яны моцна. Кажа: «Пусціце хоць пагрэцца». — «Погреться заходите, но ничего не скажу». Прайшло 15 хвілін, і кабета ўжо злівала душу пра ўсё на свеце.

Агулам Адарка з Ягорам здзіўляюцца, чаму чыноўнікі супраць такіх матэрыялаў. Бо, як правіла, яны атрымліваюцца надзвычай пазітыўнымі. Журналісты едуць да сваякоў, да самых блізкіх людзей, ну што тыя могуць сказаць кепскага?! Адзінае месца, дзе ганьбілі, — гэта радзіма былой старшыні Нацбанка Ермаковай.

Аднойчы журналістам тэлефанавала сваячніца Мясніковіча і абуралася, што пахвалілася пра басейн у ягоным катэджы ў Драздах, а Ягор з Адаркай пра гэта напісалі. Хаця перадавалі, што самому Мясніковічу матэрыял спадабаўся. І Калауру, казалі, таксама спадабаўся.

Кожнаму журналісту патрэбна нейкая аддача ад чытачоў. Так мяркуе сямейная пара, таму яны абавязкова чытаюць каментары пад артыкуламі. Удвая цікавей пачуць рэакцыю на свой матэрыял ужывую. Аднойчы Адарка, ехаўшы цягніком з Гародні, пачула, як суседзі па купе без аргументаў лаялі Сямёна Шапіру. Не вытрымаўшы нясправядлівасці, Адарка з верхняй паліцы абурылася, на што адзін з мужчынаў адказаў: «Ты там ляжы! Я тут вось прачытаў у газеце такое!». І пачаў пераказваць ейны з Ягорам матэрыял пра былога старшыню Гарадзенскага аблвыканкама. «Дык я пісала гэты артыкул!» — паспрабавала ўдакладніць Адарка. — «Не выдумывай мне тут! Писала она!». Пераканаць мужчын не ўдалося.

— Многія чытаюць толькі тое, што яны хочуць прачытаць. Таму нас то вінавацяць у тым, што мы прыслужнікі рэжыму і пішам хвалебныя оды. То пішуць, што мы зневажаем такіх класных людзей, — кажа Адар'я.

## Светлыя ідэалы журналістыкі

Бацька Ягора — пісьменнік і журналіст Алесь Марціновіч — выдаў з дзясятак кніжак. Брат — Дзяніс Марціновіч — таксама журналіст і











гісторык. Таму, якую прафесію абраць, было для Ягора зразумелым. Зрэшты бацька часам дагэтуль жартуе: «Так добра ведаў матэматыку, такі шанец упусцілі».

Калі Адарчыны бацькі даведаліся пра сям'ю зяця, былі зачараваныя: маўляў, багема. Адарчын тата — інжынер і шмат чытае, і яна з дзяцінства была знаёмая з газетамі «Народная воля», «Свободные новости», БДГ, выразала ўлюбёныя артыкулы. А бабуля хацела, каб унучка была настаўніцай, аргументуючы, што калі будзе вайна, то нават тады будзе праца. Пасталеўшы, Адарка ёй адказвала: «Дык калі будзе вайна, і ў журналіста будзе праца!» — «Сабача работа, сабача работа», — паўтарала бабуля.

Муж з жонкай працуюць у розных сферах, «на деревню к дедушке» — гэта адзінае, што іх аб'ядноўвае ў прафесійным плане. У Адар'і — прававыя, сацыяльныя тэмы, у Ягора — эканамічныя, каляпалітычныя. І, даведаўшыся пра нейкі эксклюзіў, «накапаны» іншым, не пойдуць «зліваць» яго ў сваю рэдакцыю. Канкурэнцыі адно ў адным таксама не адчуваюць. «Хутчэй, спарынгпартнер», — жартуе Адар'я. Агулам з асобнымі журналістамі яны не канкуруюць. «Фактычна ўсе незалежныя журналісты ў адным чоўне, і мы ўсе ў адзін бок грабем, а там на месцы ўжо потым разбяромся», — усміхаецца Ягор.

Пры ўсіх агульных інтарэсах і каштоўнасцях у сям'і розныя погляды на журналістыку. Пасля некалькіх гадоў працы ў «Нашай Ніве» Ягору ўсё ж не стае сапраўднага беларускага таблоіда. І, зразумела, па-беларуску. Адарцы на гэтых словах Ягора ўзгадваецца журналісцкі майстар-клас Аляксандра Старыкевіча ў Гародні. Тады яна нават яшчэ не вучылася на журфаку і прыйшла паслухаць будучага калегу. Галоўны рэдактар «Салідарнасці» расказваў пра тое, што марыць выдаваць Playboy па-беларуску. І беднае дзяўчо разгублена думала: «Жах які! Куды ж я прыйшла? Дзе светлыя ідэалы журналістыкі?!»

Ягор — галоўны ў сям'і па лічбах, Адарка — эксперт па камунікацыях. Так не толькі ў прафесіі, але і ў жыцці. Вандруючы, Ягор бранірue, набывае квіткі, Адарка на месцы вядзе перамовы з мясцовымі. Увогуле сям'я любіць вандраваць і лічыць, што журналіст, які не вандруе — непрафпрыдатны. Непрафпрыдатны і той, хто не ведае англійскай.

Час ад часу ледзь не ў кожнага журналіста ўзнікае думка змяніць прафесію. У Адаркі такія развагі абарваліся прамовай Ліліі Ананіч пра тое, што яна навучыць журналістаў працаваць. «Я хачу падзякаваць міністру, таму што такога імпэту застацца ў прафесіі ў мяне не было даўно», — смяецца Адарка.

*Фота Юліі Сакалоўскай*

# На перадавой



*Таццяна ДАНІЛУШКІНА, журналіст партала падарожжаў Traveling.by*

***— Як, сапраўды не чула пра тры S ў Тунісе?! — чорныя вочы Рамі, здаецца, выказваюць шчырае здзіўленне. — У нас ёсць свае тры S — sun, summer, sex. У Туніс усе едуць за летам, сонцам і сэксам.***

Так пачынаецца гісторыя стварэння аднаго з маіх самых чытаных артыкулаў пра падарожжа. Так пачынаецца сам артыкул, які і сёння, праз год, набірае па некалькі дадатковых праглядаў кожны дзень. Выпадковае знаёмства на пляжы падкінула цікавую тэму: жаночы сэкс-турызм за мяжой. І калі пра Турцыю ў гэтым плане ведае амаль кожны, то Туніс — белая пляма на карце падарожжаў беларуса. Гэта па-першае. А па-другое, якасных журналісцкіх матэрыялаў на азначаную тэму няшмат. Не надта лёгка ў мусульманскай краіне знайсці фактуру на тэму прастытуцыі. У мяне атрымалася — і матэрыял выбухнуў. Знаёмства на пляжы стала журналісцкай удачай. Але, як вядома, лепшая імправізацыя — загадзя запланаваная імправізацыя. Аб гэтым пагаворым ніжэй, а пакуль давайце разбяромся, што такое трэвэл-журналістыка.

## Будзь на перадавой, або Што такое трэвэл-журналістыка

Гэта надзвычайны накірунак журналістыкі, бо ўключае ў сябе адначасова гістарычныя, культурныя, мастацкія, сацыяльныя, турыстычныя, эканамічныя, этычныя і нават рэлгійныя аспекты. Прычым усе яны разам могуць быць прадстаўлены ў адным тэксце! Канешне, перадусім галоўная мэта тэкстаў з вандровак — расказаць пра краіну, жыццё рэгіёна, горада, вёскі, рознабакова паказаць тое месца на мапе, дзе чытач яшчэ не быў, а магчыма, ніколі і не будзе. Акрамя таго, распавесці пра адрозныя ад нашых традыцыі, менталітэт, падрыхтаваць чытача да паездкі, да сустрэчы і стасункаў з мясцовымі жыхарамі.

І абавязкова загадзя папярэдзіць пра небяспекі, асаблівасці, а яны ёсць у кожнай краіне. Трэвэл-журналіст нібыта знаходзіцца на перадавой, выпрабоўваючы ўсё на сабе, каб потым падзяліцца сваімі назіраннямі з чытачом. І гэта інфармацыя павінна быць цікавай і/ці карыснай — і тады ўвага да матэрыялу забяспечаная. Да прыкладу, хіба магла б я напісаць у артыкуле пра тое, што самыя сумленныя людзі ў Празе — арабы, калі б не даведалася пра гэта на ўласным вопыце? Пра тое, што толькі ў арабскіх абменніках можна змяняць грошы без дадатковых збораў, я ў свой час дазналася толькі пасля таго, калі спачатку правяла абмен у чэшскім банку і пазбавілася 40 еўра камісіі. Вядома, пры падрыхтоўцы артыкула немагчыма было не папярэдзіць свайго чытача пра такія пражскія асаблівасці. А таксама пра тое, што ўваходы ва ўсе касцёлы платныя у працівагу, напрыклад польскім суседзям. Пра тое, што ў рахунак пражскія афіцыянты без запыту ўключаюць 15—20 % чаявых. Гэта менавіта тыя дробязі, з якіх падчас вандравання складваецца ўражанне ад краіны. Ці варта пісаць пра іх, загадзя настройваючы чытача на мінорны лад? Ці варта расказваць усю праўду? Мой адказ — варта. Бо ў першую чаргу журналіст нясе адказнасць перад сваім чытачом. Калі папярэдзіць пра непрыемныя моманты, дзе-небудзь на Карлавым мосце ён у думках скажа вам дзякуй. І вырашыць чытаць ваш сайт і надалей.

Але не варта блытаць журналістыку падарожжаў з турыстычнай журналістыкай (аналіз турыстычнага рынку, меркаванні экспертаў, прагнозы), бо калі ў апошняй пажадана выкарыстоўваць аналітычны падыход, то у трэвэл-журналістыцы баль правяць эмоцыі. Прычым эмоцыі чытача, а не вашы. Добрая трэвэл-журналістыка — гэта гарманічны баланс між краіназнаўствам і шоу. Гэта ўменне змястоўна расказаць пра месца, не прымушаючы чытача пазяхаць. Забудзьцеся пра лічбы і даты — яны мёртвыя, калі не пададзеныя ў цікавым кантэксце. Для чытача не істотна праўдная вышыня сабора Саграда Фамілія ў Барселоне, ён закрые старонку, калі ўбачыць у тэксце сумны пералік гістарычных дат. Ваша мэта — намаляваць словамі і фота такую карцінку, якая натхніць, эмацыйна зачэпіць чытача… І вось ён ужо сам шукае,

# трэвэл-журналістыкі

колькі ж у вышыню знакамітыя шпілі ў Барселоне, а пасля купляе квіткі і браніруе гатэль у цэнтры іспанскай сталіцы.

## Камандуй парадам, або Хто такія трэвэл-журналісты

Псіхолаг, краіназнаўца, добры камунікатар, выдатны расказчык, таленавіты пісьменнік і абавязкова, на мой погляд, авантурыст. Гэткі Астап Бэндэр ад журналістыкі, чалавек, гатовы лёгка ўвязацца ў прыгоды на чужой тэрыторыі. Дарэчы, Ільфа і Пятрова сёння прылічваюць да залатой кагорты трэвэл-журналістаў з іх «Аднапавярховай Амерыкай» — жанр дарожных нататак ляжыць у аснове трэвэл-журналістыкі. Адным з першых падарожнікаў, які зафікасаваў інфармацыю пра культуру, побыт, традыцыі і менталітэт жыхароў краін на сваім шляху, быў мараканец Ібн Баттута. У XIV стагоддзі ён аб'ехаў усе ісламскія дзяржавы, быў у Мамбасе, Цімбукту, на Мальдзівах, даехаў аж да Кітая — усяго мараканскі падарожнік за 29 гадоў пераадолеў 120,7 тысячы кіламетраў. Пасля сябе Баттута пакінуў ёмістае апісанне большай часткі цывілізацыі XIV стагоддзя, за што яго імя увекавечанае ў назве аднаго з вулканаў на Месяцы. На жаль, больш ніводны трэвэл-журналіст так уганараваны не быў.

Дарэчы, каго з беларускіх трэвэл-журналістаў вы ведаеце? Калі вы можаце назваць тры прозвішчы, віншую — вы ў тэме. Але адразу выкрасліце са спісу Юрыя Жыгамонта з «Падарожжамі дылетанта», бо мы зараз размаўляем не пра тэлевізійшчыкаў, а пра «друкаваных» журналістаў. Вядома, тэлебачанне — СМІ карцінкі, таму гэта ідэальны канал для трансляцыі матэрыялаў пра падарожжы. Тым жа, хто

*Беласток. Сабор Святога Роха*



піша, а не здымае пра падарожжы, неабходна пастарацца, каб «зарабіць» сваю пастаянную аўдыторыю. Зрабіць імя палітычнаму аглядальніку, журналісту, які піша на тэмы эканомікі і сацыяльнага забеспячэння, значна прасцей, бо гэтая інфармацыя запратабаваная кожны дзень. Пра нашы артыкулы чытач узгадвае толькі тады, калі пачынае планаваць свой адпачынак. Таму, каб зрабіць сабе імя, трэба вельмі добра разбірацца ў тэме, быць экспертам па канкрэтных накірунках, або, напрыклад, у дзіцячым адпачынку, у азіяцкім (афрыканскім, карыбскім і г. д.) рэгіёне, у авіятэме. Так ці інакш, напісаць пра падарожжа можа кожны сталы журналіст, і многія пішуць, але імя-брэнд у беларускай трэвэл-журналістыцы зрабіць няпроста. Да таго ж да нас яшчэ не дайшлі міравыя трэвэл-выдавецтвы — GEO ці National Geographic, а беларускіх часопісаў, якія можна прылічыць да спецыялізаваных, усяго два — OnAir і Dolce Vita. Першы выдаецца «Белавіа», заснавальнікамі другога з'яўляюцца турыстычныя кампаніі, таму абодва немагчыма знайсці ў адкрытым продажы.

## Выкінь мапу, або Як шукаць тэмы

Здаецца, пра кожную краіну, горад, помнік напісана ўжо ўсё, што можна. Але, па-першае, ёсць рэдакцыі, якія працуюць па прынцыпу «калі гэта не выходзіла ў нас, гэта не выходзіла ўвогуле». А па-другое, заўсёды можна расказаць пра адно месца дзесяткам розных спосабаў. І ваша мэта — знайсці самы захапляльны з іх, самы цікавы ракурс, самы лепшы фармат. Звычайная прапанова ад журналістаў для нашай рэдакцыі гучыць так: «Я быў у Босніі і Герцагавіне/Ісландыі/Занзібары. Пра што вам можна напісаць?» Здаецца, з першага курса журфака вучаць, што прыходзіць у рэдакцыю трэба з сфармуляванымі тэмамі. Таму спачатку журналіст павінен натхніць рэдактара тэмай, каб ён потым мог на старонках выдання натхніць чытача. А натхніць яго вой як нялёгка! Здзівіць чытача можна было гадоў дваццаць таму, калі свет быў яшчэ не такі адкрыты і беларусы падарожнічалі мала. Таму ваш рэпартаж з вандроўкі на Маўрыкій ці ў Іран



*Львоўскі дворык*

*Грузія.
Стол*





ў фармаце «што бачу — тое пяю» не такі і цікавы. Шукайце канкрэтную тэму ці гісторыю — сторытэлінг у якаснай трэвэл-журналістыцы запатрабаваны як нідзе. А каб знайсці гісторыю, трэба знайсці чалавека. Праз гісторыю чалавека можна расказаць гісторыю горада, краіны, паказаць унутраныя працэсы, менталітэт жыхароў. Мясцовыя жыхары — невычэрпная крыніца інфармацыі для будучых матэрыялаў. Як знайсці героя? У век інтэрнэту гэта не праблема. Гэта, дарэчы, і ёсць загадзя спланаваная імправізацыя.

1. Праз знаёмых. У кожнага з нас сёння ёсць знаёмыя, якія жывуць за мяжой, ці знаёмыя знаёмых. Перад паездкай можна патузаць за гэтыя нітачкі і знайсці мясцовага жыхара хоць у Марокка, хоць у Кітаі.

2. Праз сацсеткі. Геалакацыя — цудоўны памагаты ў пошуку чалавека ў патрэбнай краіне. Напішыце некалькі паведамленняў розным людзям. Запытаўшыся, вы нічога не згубіце, а вось магчымасць знайсці героя атрымаеце.

3. Праз турыстычных аператараў. Кожная вялікая турыстычная кампанія-аператар мае партнёраў за мяжой, мае сувязі і знаёмствы. Ёсць верагоднасць, хоць і невялікая, што вам падкажуць цікавага кандыдата.

3. Праз турыстычны офіс горада/краіны. У кожнай цывілізаванай краіне ёсць турыстычны офіс — накшталт нашага Нацыянальнага агенцтва па турызму. Тэлефануеце ці пішаце з просьбай памагчы падрыхтаваць матэрыял і пералічваеце, што вам трэба. Там вам і героя знойдуць, і маршрут падарожжа прапануюць, і нават сустрэчу арганізуюць. Але не ўсюды — офіс офісу розніца. Чым гэты варыянт можа быць дрэнны — вам дадуць героя, патрэбнага больш ім, а не вам — «падрыхтаванага» загадзя ў накірунку, патрэбным «партыі». У маёй практыцы быў такі выпадак: афіцыйны гід даў «патрэбныя» адказы на мае пытанні, а мясцовыя жыхары падзяліліся зусім іншай інфармацыяй, якая потым пацвердзілася. Таму, калі жадаеце атрымаць жывую інфармацыю, шукайце самі мясцовага жыхара, «ад сахі».

4. Знайсці мясцовага гіда. Самы просты варыянт. Ён стане крыніцай і афіцыйнай, і неафіцыйнай інфармацыі.

5. Шукаць на месцы. Тут крыніцамі могуць быць афіцыянты, таксісты, супрацоўнікі гатэляў — будзьце адкрытымі, уважлівымі, майце як мага больш стасункаў. Дарэчы, менавіта сярод супрацоўнікаў гатэля я знайшла галоўнага героя для артыкула пра сэкс-турызм. Як «раскруціць» героя на шчырую размову — гэта асобнае пытанне. Акрамя ведання чалавечай псіхалогіі, трэба быць трошкі акцёрам, трошкі хлусам. Часам праз упамінанне пра тое, што вы журналіст, вы толькі згубіце крыніцу інфармацыі, героя артыкула — ён закрыецца ці сам пачне іграць ролю. Так, аднойчы мне з першых вуснаў падрабязна расказалі пра схемы, якімі жыхары афрыканскіх краін жэняць на сабе багатых еўрапейскіх жанчын і такім чынам уладкоўваюць за іх кошт сваё жыццё ў Еўропе.

Увогуле, галоўная падказка ў пошуку сапраўды цікавай, «незаезджанай» тэмы — сыходзьце з афіцыйных маршрутаў, менш заглядвайце ў мапы. Бо калі хадзіць там, дзе ходзяць усе, убачыць можна толькі тое, што бачаць усе. А журналісту патрэбны эксклюзіў. Заўсёды цікава зазірнуць за кулісы. Напрыклад, правесці дзень на кухні аднаго з сямейных рэстаранаў у Сіцыліі і паказаць чытачу гэтую кухню (у прамым і пераносным сэнсе), распавесці пра традыцыі прыгатавання пасты, піццы і іншых блюдаў вуснамі бацькі вялікага італьянскага




сямейства. Ці паразмаўляць з наглядчыцамі ў Луўры — намаляваць партрэт турыстаў-наведнікаў з іх словаў, уражанняў, успамінаў. Замест фотарэпартажу з мексіканскага рынку сувеніраў напрасіцца ў госці да сям'і мексіканскіх рамеснікаў — паказаць працэс вырабу сувеніраў, быт мексіканскай сям'і, светапогляд яе членаў, людзей адрознага ад нас менталітэту ў краіне зусім іншага эканамічнага ўкладу.

Можна і трэба абвяргаць міфы, якіх шмат віецца вакол кожнай краіны. У журналіста ёсць усе магчымасці дзеля гэтага. Напрыклад, паказаць жыхароў шкляных шматпавярховікаў Найробі, абвергнуўшы міф, што Афрыка жыве ў брудзе і жабрацтве. Зрабіць рэпартаж з мясцовых дыскатэк Туніса, абвергнуўшы міф, што ва ўсіх мусульманскіх краінах не прынята ўжываць алкаголь і вольна апранацца. Турыстычныя міфы — увогуле ўрадлівая глеба для трэвэл-журналіста.

## Пачуў, пакаштаваў, убачыў — занатуй, або «Амуніцыя» трэвэл-журналіста

Быць адкрытым, актыўным і ўважлівым — важная парада для трэвэл-журналіста. Бо гісторыя можа сама прыйсці вам у рукі ў выглядзе выпадковай фразы, няўлоўнага моманту. Заўсёды майце пры сабе нататнік (папяровы ці тэлефонны — не мае розніцы), куды можна запісваць свае уражанні. Занатоўвайце ўсё: выразы, мясцовыя прымаўкі, свае першыя уражанні, смакі, пахі, гукі, эмоцыі, нават негатыўныя. Менавіта яны могуць стаць сапраўдным скарбам пасля вяртання з паездкі. З адной фразы можа нарадзіцца артыкул, а з нататак — рубрыка, як гэта атрымалася ў нашай рэдакцыі. Пасля кожнай новай краіны ці горада выходзяць артыкулы кшталту «13 першых уражанняў пра Туніс», «8 першых уражанняў пра Батумі», «10 першых уражанняў пра В'етнам» і г. д.

Што да тэхнікі, якую павінен мець трэвэл-журналіст, то тут стандартны набор: дыктафон, тэлефон, ноутбук, фотаапарат. Але найлепш за фотаапарат будзе прафесійны фатограф, бо добрыя фотаздымкі ў артыкуле пра падарожжы — 70 % поспеху. Калі няма ні фатографа, ні фотаапарата, звяжыцеся загадзя з рэдакцыяй. Магчыма, у рэдакцыі ёсць свая база фота ці знаёмы фатограф у краіне прызначэння. Да прыкладу, у штаце рэдакцыі «National Geographic Traveller Россия» сёння працуюць толькі два фатографы. Калі гэта неабходна, рэдакцыя карыстаецца паслугамі фрылансераў.

Тэлефон спатрэбіцца для онлайн-рэпартажу ў Інстаграм — сёння кожны буйны сайт пра падарожжы, рэдакцыя якога выпрабляе ўнікальны кантэнт, мае афіцыйны акаунт у Інстаграме.



*Сіці-Бу-Саід. Туніс*

Наўпрост падчас падарожжа можна праводзіць актыўнасці з чытачамі: рабіць конкурсы, ладзіць віктарыны з месца падзей, нават даваць падпісчыкам кіраваць вашым маршрутам, запытваючы ў іх пра цікавыя месцы побач з кропкай вашага знаходжання. Тое ж можна рабіць і ў іншых сацыяльных сетках. У час, калі трафік з сацсетак на сайт расце штодня, адсутнасць акаунтаў у сацсетках для СМІ — нонсэнс.

## Змагайся за чытача, або Як пісаць пра падарожжы

Сёння ў трэвэл-журналістыцы недастаткова проста добра валодаць словам. Важна мець свой унікальны вопыт, цікавую фактуру, спосаб падаць інфармацыю так, як яе яшчэ не прадстаўлялі. Можна выбраць адну тэму і на яе, як на нітачку, нанізаць некалькі гісторый (выпадак пра артыкул з Тунісу). Можна расказаць адну гісторыю, даўшы ў ёй слова некальнім бакам. Альбо прапусціць падзеі праз сябе ці даць слова толькі іншым людзям. Галоўнае — пісаць цікава і пазбягаць штампаў. «Захапляльны від», «беласнежны пляж», «лялечныя домікі», «бяскрайняя пустэча» — выкрэсліце гэтыя выразы са свайго тэксту і лексікону назаўсёды. Галоўны рэдактар «National Geographic Traveller Россия» Дарья Пятрагіна раіць увогуле выкрэсліць 90 % прыметнікаў з трэвэл-тэксту. Калі вас нешта ўразіла, напішыце, што канкрэтна, і пажадана нармальнымі, уцямнымі словамі, а не лірыкай XIX стагоддзя. Прыгожае апісанне прыроды (выкрэсліце слова «маляўнічай») лепш адразу замяніць на фота — яно скажа нашмат больш за друкаваныя словы.

Як пісаць цікава? Адно з галоўных пытанняў увогуле ў журналістыцы, а не толькі ў журналісты падарожжаў. Асабліва яно актуальнае зараз, калі ў свеце інтэрнэт-СМІ назіраецца перавытворчасць кантэнту і ідзе штохвілінная барацьба за кожнага чытача, за яго час і ўвагу. Як і ў любым журналісцкім тэксце, добрай кнізе, цікавым фільме ўвагу карыстальніка трэба захапіць з першых словаў, з самага пачатку тэкста. Няблага спрацоўваюць у гэтым выпадку нечаканыя дыялогі (прыклад гэтага артыкулу), прыём, калі чытач адразу ўцягваецца ў нейкае дзеянне, нібы сам трапляе ў надзвычайную сітуацыю.

Памятайце, што цікаўнасць таксама выклікаюць тэксты, дзе расказваецца:

— што можна убачыць, паспытаць бясплатна;
— як і дзе адпачыць танна;
— як хутка і камфортна даехаць;
— пра рознага кшалту лайфхакі;
— пра мясцовыя асаблівасці, асаблівасці менталітэту (мы — яны);
— пра бяспеку на месцы, даюцца перасцярогі.

Цікавыя, незвычайныя падборкі і агляды таксама прыцягнуць увагу.

Не толькі расказвайце гісторыі, але і падказвайце чытачу, дзе можна зэканоміць, а дзе яго могуць падмануць — ён вам будзе ўдзячны за інфармацыю такога кшталту.

Ёсць яшчэ такая парада: калі жадаеце навучыцца добра пісаць, адзначайце для сябе тыя артыкулы, якія вас зачапілі, і аналізуйце, што менавіта спрацавала ў тэксце. Вызначце для сябе журналістаў, якія, на ваш погляд, добра пішуць пра іншыя краіны. Чытайце іх тэксты, пераймайце прыёмы, вучыцеся ў лепшых.

## Будзь менеджарам, або Як трапіць у падарожжа бясплатна

Калі вы працуеце ў трэвэл-рэдакцыі, вам амаль пашанцавала — ў камандзіроўкі вы будзеце лётаць не за свой кошт, з сабой можна браць грошы толькі на сувеніры. Чаму «амаль»? Бо гэта галоўны міф, што трэвэл-журналіст увесь час падарожнічае. Магчыма, гэта праўдзіва для буйнога амерыканскага, еўрапейскага выдання, але не для Беларусі. Толькі 15—20 % працоўнага часу беларускага трэвэл-журналіста праходзіць за межамі краіны (пры умове, што ён працуе ў штаце). Астатні час — офісная праца, падрыхтоўка матэрыялаў з паездак, сустрэчы ў сваёй краіне з экспертамі, інтэрв'ю, профільныя мерапрыемствы. Прэс-туры за мяжу — не такая частая з'ява.

Калі ж вы фрылансер, то ў вас ёсць два шляхі. Першы — сябраваць з трэвэл-рэдакцыяй, перыядычна пісаць для яе артыкулы (памятаем пра «натхніць рэдактара тэмай») і калі надарыцца прэс-тур, вас могуць туды адправіць. На жаль, сталых спецыялізаваных рэдакцый у нас няшмат: можна назваць найстарэйшую рэдакцыю tio.by і маладзейшыя traveling.by, 34travel.by. Другі варыянт — калі бясплатныя падарожжы залежаць ад вашага таленту менеджара і камунікатара. Вы прапануеце рэдакцыі выбуховую тэму ці цыкл артыкулаў, напрыклад з Занзібару. Затым звязваецеся з турыстычным офісам Занзібару — буйным тураператарам па гэтай краіне, з авіякампаніяй, якая лётае ў Занзібар, гатэлем у Занзібары і прапануеце ім цыкл артыкулаў узамен на іх паслугі. Калі рэдакцыя і наш уяўны Занзібар кажуць вам «так», усе атрымліваюць тое, што хочуць: рэдакцыя — эксклюзіў, Занзібар — рэкламу на беларускім рынку, вы — бясплатную вандроўку. Кола замкнулася — усе шчаслівыя!

# Каір і Воля

**Беларуская журналістка Вольга Чарных, выпускніца факультэта журналістыкі Ягелонскага ўніверсітэта (Кракаў), супрацоўніца польскага тэлеканала TVN і мінскі карэспандэнт «Радыё Рацыя», у 2014 годзе з'ехала ў Каір, кардынальна змяніўшы не толькі месца жыхарства.**

Мы размаўлялі з Вольгай за тыдзень да крушэння расійскага пасажырскага самалёта над Сінайскім паўвостравам. Але пасля трагедыі я зноў звязаўся з Каірам. Наша размова адбывалася праз Skype, але твару суразмоўцы я не бачыў. Так што ўсе рэлігійныя каноны месца, дзе зараз знаходзіцца Воля, былі выкананыя… :)

***— Прывітанне, Воля! Ты зараз у хіджабе сядзіш пры кампутары? Наогул у Егіпце жанчыны паўсюль павінныя яго насіць?***

— Не, дома я магу хадзіць хоць без бялізны. У Егіпце жанчыны павінны насіць хіджаб перад чужымі мужчынамі. На вуліцу ж я хаджу ў нікабе — гэта такая вопратка, калі ў жанчыны закрыты нават твар і бачныя толькі вочы. І гэта не таму, што мяне муж змусіў так хадзіць. Гэта для маёй бяспекі. Калі егіпцяне бачаць на вуліцы еўрапейку з блакітнымі вачыма, яны рэальна могуць пачаць да цябе чапляцца.

Намінальна Егіпет лічыцца ісламскай краінай. Але самі людзі вельмі мала гэтага датрымліваюцца. Напрыклад, па ісламскіх правілах мужчына, пабачыўшы жанчыну, павінен апускаць вочы долу. Але рэальна ніхто вочы не адводзіць, а, наадварот, будзе глядзець на цябе, можа нешта бубнець пра сябе і нават пайсці за табой наўздагон. Таму я стараюся не даваць падставаў. А яшчэ я вельмі баюся гарачага егіпецкага сонца, якое насамрэч вельмі рэзкае і небяспечнае.

***— Сонца, пэўна, сапраўды гарачае. А што яшчэ ўражвае еўрапейцаў у Егіпце? Якія найбольшыя адрозненні ад заходняй цывілізацыі?***

— Па-першае, тут вельмі брудна. Некаторыя беларусы жартуюць, што калі б прэзідэнтам Егіпта стаў Аляксандр Лукашэнка, то прадстаўнікоў камунальнай гаспадаркі чакалі б жорсткія рэпрэсіі. Тут брудна так, што часам проста немагчыма прайсці, бо людзі звыкліся выкідаць смецце наўпрост на вуліцу. А камунальныя службы працуюць абсалютна па-растамански: ёсць месцы, дзе яны адмыслова старанна прыбіраюць, але ў большасці сітуацыя вельмі непрыемная.

Па-другое, па Каіры і наогул у Егіпце вельмі цяжка перасоўвацца, бо гарадскія аўтобусы не ідуць па вызначаных маршрутах, не спыняюцца цалкам на прыпынках, а людзі ўваходзяць і выходзяць з іх падчас руху на малой хуткасці. Ды і наогул, калі ты не мясцовы, ты ніколі не зразумееш, куды ідзе той ці іншы транспарт. Тут няма схемы маршрутаў, мабільнай прылады з раскладам руху і гэтак далей...

Праўда, тут ёсць маршруткі. Але у іх вельмі страшна ездзіць, бо кіроўцы часта паляць гашыш і кіруюць транспартным сродкам пад кайфам. Таму прыходзіцца ездзіць альбо таксоўкай, альбо на машыне разам з мужам. Я езджу звычайна да сябровак, якіх маю амаль ва ўсіх кутках Каіра, ды па справах нейкіх… З людзьмі звычайна стасуюся па-арабску альбо па-ангельску. У вялікіх адміністрацыйных установах ангельскую мову тут разумеюць.

***— Для якіх выданняў і пра што ты пішаш з Каіра?***

— У асноўным я пішу для ісламскіх выданняў ва Украіне. Хоць пакуль мне яшчэ складана прызвычаіцца, і перыяд маёй адаптацыі працягваецца. У асноўным пішу артыкулы, бо рабіць аўдыё- ці відэаматэрыялы цяжкавата з-за страху суразмоўцаў назваць сябе для замежнага выдання.

***— Але сюжэты з Егіпту часта выходзяць на Euronews, CNN, іншых сусветных выданнях. Там жа людзі не баяцца казаць?***

— Сапраўды, але вось у чым справа. Вайсковыя ўлады глядзяць скрозь пальцы на тое, што выходзіць на старонках сусветных выданняў. На мой погляд, для такіх існуе пэўная свабода. Дакладней, для іх улады ствараюць пэўны антураж свабоды. А калі я не супервядомы сусветны журналіст, то вельмі цяжка ўгаварыць чалавека назваць сваё імя ці стаць перад камерай.



Плюс да ўсяго у Егіпце многія журналісты ў турмах сядзяць. Напрыклад, карэспандэнты Al Jasira. Іх абвінавачваюць ва ўдзеле ў рэвалюцыйнай дзейнасці, антыўрадавай агітацыі і г. д. Неяк вайскоўцы арыштавалі вядомага польскага журналіста Марціна Мамона і абвінавацілі ў шпіянажы. Журналіста вызвалілі, бо за яго заступіўся польскі прэзідэнт. Але маглі і не вызваліць, а шпіянаж у гэтай краіне можа пацягнуць на смяротнае пакаранне. Марціна затрымалі таму, што ён ішоў па вуліцы разам з сябрам арганізацыі «Браты-мусульмане».



***— За сябе не баішся?***

— Я лічу, што калі мне наканавана лёсам сесці ў турму альбо быць забітай, то гэта адбудзецца незалежна ад месца майго знаходжання. Ды я ўсё ж замежны грамадзянін, таму ў выпадку праследу ўсё ж спадзяюся, што беларускія ўлады за мяне заступяцца. Калі не — ну буду сядзець у турме, нічога не зробіш.

Мне тут цікава. Апошнім часам тут адбываецца вельмі шмат рэчаў, пра якія хочацца пісаць і расказваць. Напрыклад, цяперашні кіраўнік Егіпта генерал Абдель Фаттах ас-Сісі сябруе з прэзідэнтам Расіі Уладзімірам Пуціным, што мае вынікам яшчэ большую мілітарызацыю краіны. Таксама хочацца пісаць пра відавочнае збядненне краіны, калі кошты растуць, а грошай у людзей з кожным днём становіцца меней і меней. Заробкі і пенсіі растуць у гэтай краіне, напэўна, толькі ў ваенных.

***— А чым зарабляе ваша сям'я, твой муж?***

— Мой муж працуе спецыялістам ў тэлекамунікацыйнай кампаніі.

***— Калі муж спецыяліст у тэлекамунікацыйнай кампаніі, вы не думалі з'ехаць у Еўропу, напрыклад, ці Амерыку?***

— Мы, мусульмане, не будуем далёкіх планаў на будучыню, бо жыццё кожнага чалавека можа скончыцца ў любы момант. Жыццё ў раі вечнае і цудоўнае, а гэта жыццё кароткае і не вартае таго, каб асабліва пераймацца.

***— Але ж рамонт робіце ў доме... :)***

—Так (смяецца)... Каб жыць гэтыя імгненні было больш-менш утульна. :)

***— А ты сама ходзіш на палітычныя акцыі ў Каіры?***

— Раней хадзіла, зараз муж адну не пускае, таму хадзіў са мною. Я цікаўлюся тэмай Егіпту з 2013 года, пішу пра гэта ўсё, і дагэтуль са мной нічога не здарылася. Паводле маёй філасофіі, калі чалавек робіць нейкую справядлівую справу, калі чалавек не падманвае, то бог будзе берагчы такога чалавека. Таму я не баюся.

***— А якая верагоднасць, што ў выпадку затрымання цябе будзе бараніць беларуская амбасада?***

— З усіх маіх кантактаў у мяне склалася перакананне, што беларуская амбасада тут працуе вельмі добра. Яны заўсёды адказваюць на тэлефонны званок, дапамагаюць у выпадку неабходнасці нейкіх дакументаў. Калі я прыехала сюды ўпершыню і рыхтавала нейкія дакументы, то мяне нават сам




амбасадар папярэджваў пра неабходнасць быць асцярожнай і абачлівай ва ўсім.

***— Ці кантактуеш з іншымі замежнымі журналістамі ў Каіры?***

— Так, у мяне ёсць знаёмы, які піша для Дэйлі Тэлеграф, а таксама сяброўка, што працуе на CBS.

***— Што кажуць калегі? Яны не заўважаюць за сабой сачэнне, напрыклад, нейкую адмысловую ўвагу ваенных?***

— Не, яны такога не заўважалі. Як я ўжо казала, думаю, гэта адбываецца менавіта таму, што егіпецкія ўлады ствараюць пэўны арэол свабоды для вядомых еўрапейскіх і амерыканскіх выданняў. Не кажучы ўжо пра дзяржаўныя расійскія СМІ, якія з-за сяброўства Пуціна і ас-СіСі маюць наогул зялёнае святло.

***— І нават сачэння за рэпарцёрамі не заўважаецца?***

— А які сэнс займацца сачэннем, калі ў Каіры і так на кожным скрыжаванні дзяжураць вайскоўцы. Тут і так усё кантралюецца. Хоць ужо даўно існуе жарт, што непераможная армія Егіпта непераможная менавіта таму, што на яе ніхто не нападае. Што ўся гэта мілітарызацыя робіцца выключна дзеля таго, каб апраўдаць выдаткі вялізнага вайсковага бюджэту краіны.

Адзін толькі прыклад прывяду. Вельмі часта ў СМІ гучыць інфармацыя пра нейкія тэракты ў Каіры. Тэракты нібыта адбываюцца на вуліцах у гадзіну пік, але пры гэтым параненых у тэрактах няма. Таму складаецца ўражанне, што ўсё гэта — бутафорыя ваенных, каб апраўдаць вялізныя выдаткі, што ідуць нібыта на забеспячэнне парадку. Нагадаю, што ў Егіпце існуюць два бюджэты: бюджэт дзяржаўны і бюджэт вайсковых сілаў. І бюджэт вайсковы наогул не падлягае ніякаму кантролю. Ніхто не мае права ведаць, колькі выдаткоўваецца сродкаў і маёмасці.

***— Як змянілася сітуацыя пасля жудаснага крушэння расійскага самалёта над Сінаем?***

—Для мяне ўвогуле дзіўна, чаму людзі цяпер пруць на Сінай. Тым больш з дзецьмі. Не, я разумею, што танны адпачынак. Але сітуацыя там складаная. Ва ўсім Егіпце, дзе ўладараць вайскоўцы, дзе сапраўдная вайсковая дыктатура, якая Пінанчэту і не снілася, сітуацыя складаная. А на Сінаі тым больш. Там і раней было неспакойна, бо гэта практычна ізаляваны рэгіён. Там ні адукацыі няма нармальнай, ніякіх сацыяльных службаў. Таму людзі і падаюцца ў радыкалы. І што там рабіць турыстам, я асабіста не разумею.

Наконт падзення самалёта афіцыйныя СМІ тут кажуць, што Егіпет будзе дапамагаць Расіі і ўсё такое. А звычайным людзям неяк абыякава. Першыя дні пра гэта гаварылі, а цяпер усё сышло на не...

*Гутарыў Барыс Гарэцкі*




Фота з хатняга архіву

# Вадзім Заміроўскі:

## *«На World Press Photo можа перамагчы добра зробленая human story»*

Вадзім Заміроўскі — фотакарэспандэнт партала TUT.BY з 2013 года. Да гэтага працаваў у газетах «Знамя Юности», «Минский курьер», «БелГазета» і агенцтве «Фото ИТАР-ТАСС».

Нарадзіўся на Паўночным Каўказе, жыў у Якутыі, пераехаў у Мінск у 1991 годзе. Любіць падарожнічаць, гатаваць, ездзіць на ровары і працаваць на сваім хутары.

**Вадзім Заміроўскі ўваходзіць у TOP-10 самых вядомых беларускіх фатографаў. Нягледзячы на працу на масавых акцыях, кіеўскім Майдане і ў зонах стыхійных маніфестацый, ён застаецца вельмі абаяльным чалавекам і творчай натурай.**
**З Вадзімам сустрэлася фатограф моладзевага нумара «Абажура» Таццяна Ткачова.**

***— Як змянілася фотажурналістыка за апошнія гады?***

— На мой погляд, сучасная фатаграфія стала больш канцэптуальнай. Гэта пранікла ва ўсе жанры фатаграфіі, у тым ліку ў рэпартаж. З аднаго боку, гэта, канешне, добра. Пачалі здымаць глыбокія гісторыі пра людзей, якія могуць быць цікавымі. Тут адразу згадваецца праект Настассі Храловіч пра сляпую дзяўчыну. Гэта такая гісторыя, якая будзе цікава ўсяму свету. І гэта добра, што нашы фатографы навучыліся працаваць з простымі тэмамі, а не толькі ганяцца за навінамі.

Мне на самай справе троху складаней, бо я сябе не магу аднесці да маладога пакалення фатографаў, якому не дзяўбалі галаву фатаграфічнымі правіламі, законамі, якія былі калісьці. Напрыклад, што ўсё павінна быць рэзкім. Мне складаней змяніцца, глядзець па-іншаму. Мабыць, таму я менш праектаў здымаю.

Ёсць і іншы бок медаля. Я супраць такой фотажурналістыкі, пры якой, каб зразумець, пра што ідзе гаворка, трэба прачытаць вялізны



Фота Сяргея Грыца

тэкст. Магчыма, я думаю стэрэатыпамі, але я лічу, што калі ты глядзіш на здымак у газеце ці ў інтэрнэт-СМІ, то мусіш прачытаць гісторыю па здымках: што, дзе і калі. Калі я без тэксту не разумею, што там адбываецца, то, магчыма, гэта добра для арт-фатаграфіі, для якіх-небудзь іншых галінаў, але не ў фотажурналістыцы.

***—Хто такі сапраўдны фатограф у тваім разуменні?***

— Калісьці я пачуў, што фатограф — гэта той, хто надрукаваў сваю кніжку.

У гэтым ёсць пэўны сэнс. Калі ты не можаш назбіраць матэрыялаў па адной тэме ці проста матэрыялаў на кніжку, то, напэўна, ты не фатограф. Напрыклад, у мяне кнігі няма. Таму можна сказаць, што мой адказ — гэта самакрытыка.

***— Гэта азначае, што ў будучыні можна чакаць кнігу «100 лепшых фатаграфій Вадзіма Заміроўскага»?***

— Чаму не? Я думаю, што кожны імкнецца да гэтага.

***— Якімі праектамі ты ганарышся, што найбольш значнае зняў, на свой погляд? Над якімі праектамі працуеш і над якімі хацеў бы працаваць?***

— Складанае пытанне. Я тут не буду арыгінальным. Скажу так: лепшае наперадзе. Ёсць у мяне адна распрацоўка. Я не хацеў бы раскрываць тэму. Скажу толькі, што яна звязана з падзеямі ва Украіне.

Ведаеш, я мала здымаю праекты. Магчыма, гэта не вельмі добра, але асабліва не хапае часу займацца доўгатэрміновымі праектамі. І таму іх, нажаль, не так шмат. З апошняга, што мне падабаецца, як я зрабіў — гэта паездка з валанцёрамі на Данбас. Канешне, было б цудоўна з'ездзіць яшчэ і дапоўніць гэты матэрыял. Гэты праект мне падабаецца, і калі будзем рабіць выніковую выставу ў галерэі TUT.BY і ад кожнага з удзельнікаў будзе па праекту, то ад мяне будзе менавіта гэты праект.

***— Што больш важна для фатографа: валодаць тэхнікай альбо мець уласную візуальную мову?***

— Канешне, мець уласную візуальную мову. Хтосьці распавядаў гісторыю пра тое, як працы адной вучаніцы вельмі падабаліся настаўніку. Там было ўсё ў адным стылі, нярэзка. Калі ў яе запыталі, чаму ў такім стылі яна здымае, то аказалася, што ў яе наўпрост сталі такія настройкі на камеры. Чалавек не ведаў добра, як карыстацца камерай, але пры гэтым рабіў крутыя фатаграфіі.

Свой стыль — гэта і ёсць візуальная мова, якая важней, чым валоданне тэхнічнымі аспектамі фатаграфіі. Ну і, канешне, залежыць ад таго, хто глядзіць. Напрыклад, я пазнаю стыль Дзімы Брушко, Сашы Васюковіча. А другі чалавек, які не звязаны з фатаграфіяй, не адсочвае ўлюбёных фотааўтараў, можа іх па стылю і не пазнаць.

***— Што ты ніколі не пагадзіўся б здымаць з-за этычных момантаў?***

— Тут адразу не адкажаш… Самую жахлівую карціну можна зняць без дробязяў, каб гэта не выглядала як крыміналістычная фатаграфія. Можна гэта зрабіць па-мастацку і паказаць страх без прамой алюзіі. Так і трэба рабіць, бо аб'ектыў — гэта, па сутнасці, вочы другіх людзей. Калі б быў нейкі крызісны момант і ў мяне паўстала пытанне здымаць альбо дапамагаць, то, мабыць, я паспрабаваў бы дапамагчы і ўжо потым пачаў бы здымаць, калі была б магчымасць. А не наадварот.

***—Ты такі бясстрашны ці можаш кантраляваць сабе ў надзвычайных сітуацыях?***

— Я — як усе нармальныя людзі. Хочаш раскажу пра нядаўні пярэпалах? Рабілі спецпраект пра балоты, пра зборшчыкаў клюквы. Начавалі ў намётах. Месцы глухія. Ноччу нехта стаў грукацца ў намёт. Мы былі ўпэўненыя, што гэта нейкія бадзяжныя людзі і зараз нас будуць біць ці яшчэ што такое адбудзецца. Я і іншыя хлопцы відавочна пачалі панікаваць, кожны штосьці сказаў і пры гэтым кожнаму здавалася, што адгукаюцца і гамоняць людзі, якія за намётам стаяць. То-бок мы адзін аднаго не пачулі і не пазналі. Выбеглі з намётаў, а там янот. Ён не напужаўся, хоць людзей бачыў упершыню. І не збіраўся нават уцякаць. Нам трэба было прыкласці намаганні, каб яго выгнаць.

***— Як ты думаеш, што трэба зняць фатографу з Беларусі, каб атрымаць узнагароду World Press Photo?***

— Добрае пытанне. Думаю, калі б я ведаў, то ўжо зняў бы. Я не ведаю дакладна, але думаю, што гэта мусіць быць добра зробленая human story. На конкурс прапануюцца і часцяком перамагаюць здымкі пра такія глабальныя праблемы, як войны, бежанцы і гэтак далей. У нас такіх навінаў амаль няма, таму, я думаю, што гэта мусіць быць human story — добры, чалавечны і якасны праект пра людзей.

# Шанз-Элізэ vs Елісейскія палі



*Настасся МАЦЯШ*

Пабачыўшы выпраўленне ў тэксце, калега пытае: а чаму *авеню Шанз-Элізэ*, а не *Елісейскія палі*? Рэч у тым, што гэтак і гучыць назва знакамітай парыжскай вуліцы па-французску: *Avenue des Champs-Élysées*. Найменне паходзіць ад лац. *Elysium* — у антычнай міфалогіі востраў свету мёртвых, на якім заўсёды вясна, няма смутку і турботаў. *Елисейские поля* — творчы расейскі пераклад *Элізіюму*. Ці правільна назву французскай вуліцы перакладаць з расейскай мовы? Не. І французскія, і іншыя замежныя ўласныя назвы мусяць прыходзіць у беларускую без пасярэдніцтва іншых моваў, бо любое пасярэдніцтва аддаляе выніковую форму ад зыходнай.

## Іншамоўныя найменні ў беларускім тэксце

Уласныя назвы адыгрываюць асаблівую ролю ўва ўсіх сферах жыцця, гэта надзвычай важная дэталь у дачыненнях людзей. З высвятлення імя пачынаецца знаёмства. Звяртаючыся да суразмоўцы, мы называем яго. Апісваючы падзею, лакалізуем яе — згадваем назву мясцовасці. З чатырох галоўных складнікаў паведамлення (хто? што? дзе? калі?) два (хто? дзе?) — уласныя найменні, якія застаюцца нязменныя, на якой бы мове ні гучала навіна.

У адрозненне ад іншых словаў, уласныя найменні, як правіла, не перакладаюцца, а адаптуюцца, або асвойваюцца. Асабовыя імёны, прозвішчы, назвы мясцовасцяў, спартовых клубаў і перыядычных выданняў, тэлеканалаў і радыёстанцыяў — усё гэта гучыць гэтаксама, незалежна ад таго, на якой мове адбываецца камунікацыя. А таму гэтыя фрагменты тэксту патрабуюць пільнай увагі пры рыхтаванні медыйнага матэрыялу.

На жаль, у падручніках беларускай мовы асваенню іншамоўных найменняў увагі практычна не надаецца, а ў слоўнікі гэтыя адзінкі папросту не ўлучаюць — уласных найменняў занадта шмат, каб ахапіць заўважную іх частку ў лексікаграфічных даведніках. І калі для візуальнага тэксту цалкам нармальна пакідаць арыгінальную (часцей лацінічную) назву кампаніі, СМІ, гурта, інстытуцыі, то ў гукавых медыях замежныя найменні даводзіцца агучваць. Праблема ж асваення, графічнай адаптацыі іншамоўных імёнаў і прозвішчаў актуальная для ўсіх СМІ — і візуальных, і гукавых, бо іх трэба ў любым выпадку перадаваць сродкамі кірылічнага пісьма.

У той час, як для іншых моваў існуюць правілы перадачы з дзясяткаў моваў свету, у беларускай уласныя імёны традыцыйна засвойваюць праз расейскую. І вось тут сутыкаемся з праблемаю, якой носьбіты беларускай мовы не хочуць усвядоміць: **калі не ведаць або ігнараваць асаблівасці гучання ўласнага імя ў мове-крыніцы, то перанос яго на іншую моўную глебу можа не палегчыць, а ўскладніць ідэнтыфікацыю асобы / мясцовасці / назвы**. І каб гэтага не здаралася, варта пераадолець стэрэатып, які склаўся ў медыйнай практыцы ў дачыненні іншамоўных найменняў.

Уласныя назвы НЕ ТРЭБА слепа перапісваць з расейскіх СМІ, іх варта адаптоўваць, арыентуючыся на арыгінал. У расейскай і беларускай моваў працуюць розныя фанетычныя законы і адпаведна розныя развязанні для адной і той задачы. Напрыклад, у расейцаў няма гуку *ў*, які амаль ідэальна пасуе для перадачы англійскага *w*: партал *Wikileaks* — «***Ў****ікілікс*», у той час як у расейскамоўным сегменце інтэрнэту бачым «***В****икиликс*» (дарэчы, у балгараў — «*Уикилийкс*», у казахаў — «*Уикиликс*»). Японская газета «*Mainichi Shimbun*» — «*Майні**ц**і Сімбун*». Калі ж журналіст будзе браць назву з расейскай крыніцы, то вялікая імавернасць, што ён пераробіць «*Майни**ти** Симбун*» у «*Майні**ты** Сімбун*», аддаліўшы адаптацыю ад арыгінальнага вымаўлення.

Зразумела, расейскую ведаюць усе, і вялікая спакуса скарыстацца гатовым варыянтам іншамоўнага наймення, замяніўшы *и* на *і*. Пагатоў разбірацца з арыгіналам складана. Але гэта не прычына дапусціць спрашчэнне, якое прывядзе да скажэння інфармацыі. Расейскія медыі не бяруць іншамоўных назваў у кірылічным афармленні з неба. І калі яны могуць адаптаваць для сваёй мовы імя кітайскага палітыка ды назву італьянскага гораду, то чаму мы не здатныя перадаць гэта па-беларуску без расейскай дапамогі?

## Спосабы перадачы іншамоўных уласных імёнаў

Ёсць некалькі падыходаў у працы з іншамоўнымі найменнямі.

**Транскрыпцыя** — як мага бліжэйшая да арыгіналу перадача гукавой формы імя. Гэты прынцып падрабязней разгледзім ніжэй.

Пры **транслітарацыі** зыходнае напісанне дыктуе аблічча назвы па-беларуску: лацінічная літара передаецца адпаведнаю кірылічнаю, не зважаючы на тое, як слова вымаўляецца насамрэч.

У рэальным жыцці часта знаёмства з імем ці назваю з замежнай мовы адбываецца менавіта ў пісьмовым выглядзе. Таму, падавалася б, такі метад мусіць быць самы распаўсюджаны. Але гэта не так. Часам транслітарацыя да непазнавальнасці скажае прозвішча. Гэтак *Ньютан* (*Newton*) ператворыцца ў *Нэўтана* (тут дарэчы будзе прыгадаць Ламаносава, у якога чытаем: «*…И быстрых разумом Невтонов…*»), а *Дыдро* (*Diderot*) — у *Дыдэрота* (у Пушкіна: «*…Садился Дидерот на шаткий свой треножник…*»).

Сёння транслітарацыя ў чыстым выглядзе амаль не ўжываецца: шмат у якіх мовах літары ды іх спалучэнні чытаюцца нестандартна. Нягледзячы на гэта, транслітарацыя традыцыйна выкарыстоўваецца, напрыклад, для ненаціскных галосных англійскамоўных імёнаў: пішам *Каламб**у**с* (*Columb**u**s*), а не *Каламбас*; «*Тэл**е**філм Кэн**а**д**а***» (*Tel**e**film Can**a**d**a***), а не «*Тэлэфілм Кэнэдэ*»; *Рон**а**лд* (*Ron**a**ld*), а не *Ронэлд*. Элементам транслітарацыі лічыцца і адлюстраванне англійскага спалучэння *ing*, якое передае два, а не тры гукі: гурт «*Роўл**інг** Стоўнз» («The Roll**ing** Stones»).*

Часам уласнае найменне ўтрымлівае ў сабе сэнсава істотны элемент: важна ведаць, што значыць слова. Тады выкарыстоўваецца **пераклад**. Напрыклад, імя індзейца *Leather Stocking* літаральна перакладаецца з англійскай (не з пэўнай індзейскай!) як *Скураная Панчоха*. Варыянт *Лэдэр Стокінг* ні пра што чытачу не скажа, застаючыся бессэнсоўным наборам гукаў. Але абшар такіх сэнсавых імёнаў — мастацкая літаратура. Для журналістыкі ж важны іншы аспект.

У медыйных матэрыялах, як правіла, галоўная ўвага надаецца не юрыдычнай дакладнасці, а зручнасці ўспрымання. Таму назву нацыянальнага латышскага аб'яднання «*Visu Latvijai!*» — «*Tēvzemei un Brīvībai*» можна агучваць не толькі як «*Вісу Латвіяй*» — «*Тэўзэмэй ун Брывібай*», а і выкарыстоўваючы пераклад: «*Усё для Латвіі*» — «*Айчыне і свабодзе*». Албанскую тэрарыстычную арганізацыю «*Ushtria Çlirimtare e Kosovës*» даем як «*Армія вызвалення Косава*». Міжнароднае няўрадавае аб'яднанне «*Amnesty International*» у беларускай медыяпрасторы можа фігураваць і як «*Эмнэсці Інтэрнэшнал*», і як «*Міжнародная амністыя*». Разбураны ў выніку тэрарыстычнай атакі комплекс *World Trade Center* — «*Ўорлд Трэйд Сэнтэр*» ці *Сусветны гандлёвы цэнтр*.

**Традыцыйныя напісанні.** Ёсць вялікі пласт даўно запазычаных словаў, якія традыцыйна ўжываюцца ў нас у скажоным варыянце: страва *sushi* — *сушы* (а не *сусі*), кампанія «*Toshiba*» — «*Тошыба*» (а не «*Тосіба*»), «*Boeing*» — «*Боінг*» (а не «*Боўінг*»), іспанская гандлёвая сетка «*Zara*» — «*Зара*» (а не «***С**ара*»), індыйскія дзеячы *Gandhi* — *Гандзі* (а не *Ган**д**гі*).

Але, калі мы ўжываем гэтыя ўласныя найменні ў такім выглядзе, гэта не значыць, што такія формы варта лічыць узорнымі. Мы можам супрацьстаяць пашырэнню недакладных з гледзішча транскрыпцыі асваенняў. Напрыклад, англійскага прыродазнаўца *Charlest Darwin* звыкла называем *Чарлз Дарвін*. Але нішто не замінае напісаць па-беларуску назву аўстралійскага гораду з такім самым графічным абліччам, *Dar**w**in*, як *Дар**ў**ін* (англійскае *w* адпавядае беларускаму *ў*). Стагоддзямі беларусы называюць французскую сталіцу *Paris* — *Парыж*, а не *Пары*, як гучыць у арыгінале. Але недакладнае вымаўленне мы не мусім пераносіць на іншыя французскія ўласныя назвы. Выданню «*Vogue Paris*» вяртаем слушнае вымаўленне і кірылічнае літарнае афармленне: «*Вог Пары*».

## Практычная транскрыпцыя іншамоўных уласных імёнаў

У лінгвістыцы маўленне — першаснае, а пісьмо — другаснае. Таму пры адаптацыі замежных імёнаў і назваў спосаб **транскрыпцыі** — самы галоўны і найбольш распаўсюджаны. Мяне завуць *Настасся*, і пры знаёмстве з носьбітамі любых моваў я называю сябе толькі гэтак. Я не раблюся *Анастэйшай* для брытанцаў і *Анастазьяй* для палякаў. Беларус *Яўген* не ператвараецца ў *Юджына* ў ЗША ці *Эжэна* ў Францыі. Лагічна і на беларускай моўнай глебе даваць іншамоўныя ўласныя імёны максімальна карэктна.

Пры транскрыбаванні словы перадаюцца з прыблізным захаваннем арыгінальнага гукавога аблічча і з улікам правілаў беларускага правапісу. Гэта і ёсць практычная транскрыпцыя. Рэч у тым, што дакладнай фанетычнай адпаведнасці паміж гукамі розных моваў няма. Напрыклад, шмат у якіх мовах ёсць мяккі *р*, беларуская ж яго не мае, таму назву швейцарскага хакейнага клубу з італьянскаю назваю «*Ambrì-Piotta*» перадамо як «*Амб**ры**-П'ёта*», а не «*Амбрі-П'ёта*», як было б бліжэй да арыгінальнага вымаўлення. Французскую фразему «*enfant terrible*» («жахлівае дзіця») кірыліцаю напішам «*анфан тэ**ры**бль*», а не «*анфан тэрібль*». Турэцкае выданне «*Cumhuriyet*» — «*Джумху**ры**ет*», а не «*Джумхурiет*».

Што дае транскрыбаванне іншамоўных найменняў? Сістэмнасць! Правільная адаптацыя асабовага імя дапамагае ідэнтыфікаваць яго носьбіта ў любой сітуацыі ды ў любым моўным калектыве. Варыянтнасць жа збівае з тропу. «Звязда» называе міністра замежных справаў Францыі 1950 года *Роберт Шуман* (*Robert Schuma**n***). Але ж французскае імя *Robert* гучыць як *Рабэр*, французскага палітыка завуць *Рабэр Шума́н*. А *Ро́бэрт Шу́ман* (*Robert Schuma**nn***) — зусім іншая асоба, нямецкі кампазітар XIX стагоддзя. Гэтая ж газета, згадваючы кітайскі горад *Lianyungang*, называе яго то *Ланьюн**ь**ган* (08.05.2015), то *Ланьюнган* (11.05.2015). Хоць дакладней было б перадаць гэтую назву як *Ляньюнган* (кіт. *Lian* = *Лянь*, а вось кіт. *Lan* напісалі б, як у «Звяздзе», *Лань*). Удзельніца «Еўрабачання» ад Польшчы *Monika Kuszyńska* ў тым жа выданні фігуруе як *Моніка К**р**ушыньская*. Цешыць, што парупіліся захаваць важную фанетычную асаблівасць польскай мовы — мяккі *н*, але адкуль у прозвішчы ўзялося *р*, можна толькі здагадвацца. Пра якую ідэнтыфікацыю асобы можна гаварыць у гэтых выпадках?

Ёсць і станоўчыя зрухі. Італьянскага кампазітара *Giuseppe Verdi* «Звязда» называе *Джузэпэ Вердзі*. Тут дарэчы будзе зазначыць, што ў заходнееўрапейскіх мовах, як правіла, няма апазіцыі цвёрдасці-мяккасці: зычныя, за

выключэннем *л*, трэба перадаваць цвёрда. Імя італьянца газета напісала бездакорна, а вось у прозвішчы пакінула мяккі *в*, няісны ў італьянскай мове. Правільней — *Джузэпэ Вэрдзі*.

На жаль, няўважлівае стаўленне да ўласных назваў множыць кур'ёзныя прыклады. Журналістка піша пра падзеі ў тайскім горадзе *Хуанін*. Высвятляецца, што такое кірылічнае аблічча атрымалася ў яе пры адаптацыі зыходніку з «Ройтэрзу»: *Hua Hin*. І вось замест прыморскага гораду *Хуа-Хінь* гатовы быў прагучаць у эфіры няісны *Хуанін*. Гэтак жа праз нядбайнасць у Ізраілі ўзнікае паселішча *Ніар Рагат* (*Near Rahat*, дзе *Near*, вядома ж, не частка ўласнай назвы, а англійскае «каля, побач»). Асабліва недарэчна пры адаптацыі іншамоўных імёнаў карыстацца онлайн-перакладчыкамі. Гэтак, выканаўчы дырэктар «Грынпісу» *Kumi Naidoo* ператвараецца ў *Кумі Знайду*…

## «Добрапіс»

Передаванне іншамоўных назваў — адна з самых складаных задачаў у лінгвістыцы. У буйных сусветных медыях ёсць асобныя службы, у абавязкі якіх уваходзіць выключна адаптацыя імёнаў, прозвішчаў і геаграфічных найменняў. На жаль, далёка не кожны беларускі сродак інфармацыі можа дазволіць сабе мець адмыслоўца, які кваліфікавана дапаможа журналісту з назваю іранскага гораду ці імем шараговага іспанца. Тут на дапамогу аўтарам беларускамоўных тэкстаў прыйдзе онлайн-сэрвіс «Добрапіс» (http://dobrapis.info/).

У меню праграмы правярання арфаграфіі ёсць закладка «Уласныя імёны» (http://dobrapis.info/names.html). База іншамоўных найменняў, запачаткаваная сем гадоў таму моўнаю службаю «Белсату», сёння налічвае больш за 25 тысячаў адзінак (імёны, прозвішчы, тапонімы, назвы краінаў, арганізацыяў, фірмаў, спартовых камандаў і пад.) і штодзень папаўняецца — у працэсе працы над рэальнымі тэкстамі.

Каб атрымаць патрэбную адаптацыю, трэба ўвесці ў поле пошуку арыгінал наймення (у лацінічным выглядзе) і націснуць «enter». Можна шукаць асобныя імёны, а таксама часткі канкрэтнага наймення, літарныя спалучэнні, якія выклікаюць цяжкасці пры адаптацыі.

Даводзілася чуць абурэнне з нагоды некаторых пазіцыяў табліцы. Напрыклад, прэзідэнт ЗША *Barack Obama — Барак Оўбама*. Хоць такое вымаўленне рэкамендуюць у транскрыпцыі, змешчанай у «Вікіпедыі» ды на іншых рэсурсах, нам нязвыкла бачыць ненаціскны *о*. Тут можна прыгадаць беларускую журналістку і літаратарку Кацярыну Оаро, прозвішча якой французскага паходжання ўтрымлівае ажно дзве *о* і ў такім выглядзе фігуруе на вокладцы кнігі «Сарочае радыё». Магчыма, смелы прыклад блізкай калегі дазволіць з разуменнем паставіцца да адаптацыі імя далёкага палітыка.

Часта ў штыхі прымаецца перадача англійскага (і шырэй, з германскіх моваў) *h* праз *г*: напрыклад, ***Г****ілары Клінтан* (***H****illary Clinton*). Гук *h* перадаецца праз *г* у безлічы імёнаў і назваў. Нас не дзівіць *г* у словах ***Г****алівуд* (***H****ollywood*), ***Г****арвард* (*Harvard*), ***Г****амлет* (*Hamlet*), ***г****андбол* (***h****andball*), ***Г****ановэр* (***H****annover*), ***Г****абсбург* (*Habsburg*), ***Г****ітлер* (*Hitler*). Мяркую, *Гілары* раздражняе толькі таму, што расейцы пішуць гэтае імя праз *х*: *Хиллари*. Але апантаным прыхільнікам напісання па-беларуску праз *х* варта ўвесці ў інтэрнэт-пошук варыянт *Гиллари* (па-расейску), каб пабачыць каля 60 000 вынікаў. Гэта толькі падкрэслівае неадназначнасць выбару на карысць *х* у расейскай мове.

Расейцы аддаюць перавагу адаптацыі *h* = *х*, бо ў іх няма фрыкатыўнага [г], іхны *г* — выбухны, [ґ], і гэты гук адпавядае зусім іншаму англійскаму (германскаму) — *g*. У нас жа такой праблемы няма, маем два гукі: фрыкатыўны [г] і выбухны [ґ] і можам адпаведна іх ужываць для *h* і для *g*.

У базе «Добрапісу» няма непрадуманых і выпадковых напісанняў, гэта кваліфікавана, сістэмна створаная база, якая дапаможа ў справе адаптацыі найменняў з самых розных сфераў жыцця. Беларускія асваенні, уключаныя ў яе, заснаваныя на правілах практычнай транскрыпцыі з дзясяткаў моваў. І правілы гэтыя распрацаваныя адмыслова для беларускай.

Што ж рабіць, калі ў «Добрапісе» вы не знайшлі шуканай назвы? У інтэрнэце ёсць рэсурсы, якія дапамогуць з прачытаннем іншамоўнага наймення: http://forvo.com/; http://www.multitran.ru/; http://www.duden.de/; http://www.pronouncehow.com/; http://dictionary.reference.com/.

**Міжмоўныя кантакты завязаліся не ўчора. Уласныя назоўнікі здаўна запазычваюцца з адной мовы ў іншую, зазнаючы ў гэтым працэсе разнастайныя скажэнні, мяняючы аблічча і трансфармуючыся да непазнавальнасці. Deutschland па-нашаму Нямеччына; Zhōngguó (дзеля зручнасці параўнання кітайскае слова падаем у лацінічнай форме, а не іерогліфамі) — бел. Кітай — анг. China. Нават у межах адной краіны могуць існаваць розныя варыянты адных і тых жа назваў, асабліва ў арабскамоўных, дзе безліч дыялектаў (у арабскіх прыкладах таксама дзеля зручнасці выкарыстаем лацінку). Лівійскі горад Аджабія — Ajdabiya / Agedábia / Iğdābiyā. Іракскі горад Кіркук — Kirkūk / Karkūk / Kerkük / Kerkûk. Горад у Марока Гулімін — Goulimine / Guelmim / Guelmin. Сірыйская правінцыя Ідліб — Idlib / Edlib / Idleb.**

**Моўная практыка гэтых краінаў ад наяўнасці варыянтаў, як правіла, не цярпіць. Але можна ўявіць, з якімі цяжкасцямі сустракаюцца пры асвятленні падзеяў у гэтых месцах журналісты і моўныя службы медыяў…**

**У справе адаптацыі іншамоўных найменняў у беларускай мове пакуль усё даволі хістка і неўпарадкавана. Адначасова дзеюць некалькі падыходаў. І важны крок да навядзення парадку ў гэтым пакоі нашай хаты — усведамленне праблемы і паступовы рух у кірунку практычнай транскрыпцыі. Галасуем за Шанз-Элізэ!**

# ОСНОВЫ «НЕНОРМАТИВНОЙ» ЖУРНАЛИСТИКИ



**В этом новогоднем выпуске «А» Павлюк Коновальчик и Александр Ярошевич представляют пять шагов, как сказать людям правду, сознательно вводя их в заблуждение.**

В последнее время мы особо остро ощущаем, что фактически исчезла грань между журналистикой в ее традиционном понимании и неприкрытой пропагандой. К сожалению, многие «акулы пера» тоже не гнушаются использовать пропагандистские инструменты и методы. Народ, будь-то читатель, слушатель либо зритель, в свою очередь довольно легко поддается на уловки СМИ. И вроде бы все понятно: кто платит, тот и заказывает музыку. Однако люди об этом почему-то не думают. Как же помочь читателю разобраться в сути происходящего, подтолкнуть его к тому, чтобы он критически посмотрел на окружающую действительность? Как помочь отделить зерна от плевел?

Рискнем предложить журналистам несколько нехитрых приемов сказать людям правду, сознательно вводя их в заблуждение, и проиллюстрируем это на конкретных жизненных примерах.

## 1 ШАГ

**Не вступайте в прямую конфронтацию с оппонентами, пытаясь вывести их на чистую воду**

Проще говоря, не используйте общеизвестных лобовых контраргументов. Это по меньшей мере может показаться банальным. Ведь ничего нового, казалось бы, здесь уже никто не сможет сказать. Даже если это касается сенсационных заявлений.




## 2 ШАГ

**Не слушайте прямых заявлений, а обратите внимание на то, что сказано как бы между прочим**



Прямые заявления – это часто всего лишь мантра, чтобы загипнотизировать электорат. Как любил говорить покойный Ф. Скорина в свой питерский период, дьявол в деталях.

## 3 ШАГ

**Представьте частный тезис в качестве основного суждения**



Обратите внимание на нестыковки прямых и косвенных заявлений, постарайтесь объяснить, что на самом деле имелось в виду, выбрав в качестве ключа именно то, что прочитали между строк. Попросту говоря, поставьте сеялку впереди трактора.

## 4 ШАГ

**Дайте волю фантазии, не сдерживайте своих творческих порывов**


Наша Ніва
Падпішыся сам, падпішы дзядоў!
Аляксандр Лукашэнка застанецца кіраўніком Беларусі. Дакладныя лічбы вам паведамяць 12 кастрычніка
ПАСЯЎНАЯ КАМПАНІЯ НА МАРСЕ
НА МЯЖЫ ЗРЫВУ?
Марсіянскім бульбаводам катастрафічна не хапае запасных сонечных батарэй.
Спецыяльны рэпартаж на стар. 3

Опишите в красках, как будет выглядеть основное утверждение объекта журналистского исследования, будь оно реализовано здесь и сейчас. Чаще ссылайтесь на авторитетов. Пусть они даже хорошо известны в узких кругах. В общем, как говаривала Клара Цеткин, создайте из ничего нечто. Кто был ничем, тот должен стать всем!

## 5 ШАГ

**Визуализируйте гениальную догадку в доходчивой форме**




Делая из слонов мух и отделяя их от котлет, обильно используйте различную инфографику, коллажи, фотожабы и прочие коубы, балансируя при этом на грани административного и уголовного кодексов.

***

Да простят нас гуру традиционной журналистики, но мы считаем, что только таким способом можно деконструировать пропагандистские месседжи и подтолкнуть читателя думать и критически воспринимать любые политические клише.

# Кекс
## з рэдактарам





*Любоў КАСПЯРОВІЧ*

**У беларускай журналістыкі жаночы твар. Але праблемы нярэдка звязаныя з іншымі часткамі цела.**

«Прыгажосць, абаяльнасць і лёгкасць маладых дзяўчат замінаюць жыць некаторым рэдактарам», — сцвярджаюць гісторыі нашых гераінь. Яшчэ ў журфакаўскім студэнцтве яны сутыкнуліся з увагай рэдактараў, якая выходзіла за межы прафесійнай сістэмы каардынатаў. Што рабіць, калі шэф патрабуе не якасных рэпартажаў, а запрашэння на каву з працягам?

Пра гэта — кароткія маналогі дзяўчат, якія папрасілі забыць на іх імёны і прозвішчы.

## Гісторыя першая

Галава Алены не толькі носіць хвалістыя (а для каго хвалюючыя) валасы, але і выдае захапляльныя рэпартажы. Да таго, што ледзь не пасля кожнай публікацыі яе герой лічыць абавязкам запрасіць на спатканне, яна звыклася. З тым, што рэдактары намякаюць на неслужбовыя адносіны, не змірылася дагэтуль.

— Спачатку я працавала на тэлебачанні. На ім усё пачалося. У той час вучылася на трэцім курсе. Мой непасрэдны кіраўнік заўжды чапляўся, што я ўсё раблю не так. Пасля стаў рабіць прапановы схадзіць з ім на каву. Калі я адмаўлялася, адносіны да мяне пагаршаліся. Здаралася, пасля пары чарак «белай» ён тэлефанаваў мне, казаў, якая я здольная, таленавітая, але непадатлівая. Раніцай ён на ўсё забываўся і паводзіў сябе абсалютна спакойна. Толькі я не ведала, што мне рабіць далей.

Іншы рэдактар, які загадваў аддзелам мантажу, нават мяняўся зменамі, абы трапіць разам са мной на мантаж. Памятаю, неяк на маю касету запісалі новы сюжэт. Уся праца згарэла. Ён прапанаваў дапамогу. Да дзвюх гадзін ночы мы сядзелі ў рэдакцыі і намагаліся аднавіць мой запіс. Пасля настойваў на тым, каб я паехала разам з ім дадому.

Кіраўніца маёй практыкі, калі даведалася, што я працую на ТБ, адразу ж азначыла мяне дзяўчынай «праз ложак». Пасля я два гады намагалася пераканаць, што гэта не так.

Зараз па размеркаванні я працую ў адной з рэспубліканскіх газет. Не хачу агучваць імён і назваў: там мне працаваць яшчэ год і восем месяцаў. І няпроста лавіраваць паміж намёкамі аднаго з рэдактараў. Бо калі я яго раззлую, будзе ўвогуле несалодка. Неяк адзін з журналістаў сказаў нешта крыўднае (але праўдзівае) дзяўчыне, рэдактаравай фаварытцы. Дык пасля гэтага журналіста тыдзень не публікавалі.

Не, пакуль сапраўды ўсё бяскрыўдна. Адзінае — непрыемна. Непрыемна, калі гэты чалавек незнарок абдымае, чапае за валасы. І рэзка адштурхнуць яго не магу, бо яшчэ працаваць пад кіраўніцтвам гэтага чалавека, і трываць моцы не застаецца. Тым больш у рэдакцыі ўжо ёсць яго фаварытка. Атрымоўваецца, я супраць свайго жадання станаўлюся яе суперніцай. Навошта мне гэтыя незразумелыя складанасці і пустыя чуткі?

## Гісторыя другая: «Сама вінавата»

Ліна — прыгажуня з вострымі скуламі і быццам лялечнымі вачыма. Вясной яна пабралася шлюбам, што нарэшце пазбавіла яе ад увагі рэдактара, які не

пакідаў у спакоі два гады. Летам 2013-га яна пачала фрылансіць для аднаго з «лепшых інтэрнэт-парталаў» краіны. І сутыкнулася з тым, што адчула сябе «мясам», а не журналістам.

— Па шчырасці, у гэтай сітуацыі вінавата я сама. Па-першае, незнарок я з'явілася ў жыцці чалавека, які шукаў, прагнуў новых адносін, нягледзячы на заручальны пярсцёнак на руцэ. А па-другое, не ведала, як паводзіць сябе ў гэтай сітуацыі, таму ледзь не давяла яе да мяжы, якую нельга пераходзіць.

Лета 2013 года стала для мяне неверагодна натхняльным і ў пэўным сэнсе вырашальным. Прыйшло разуменне, што хопіць сядзець ва ўтульнай зоне камфорту, дзе ўсё вядома і зразумела. Трэба ісці, так бы мовіць, у рост. Таму вырашыла пачаць супрацу з вядомым беларускім выданнем, выпрабаваць свае ўменні, смеласць, настойлівасць. Хутка знайшла патрэбныя кантакты рэдактара. Таго самага, з кім звязана гэтая гісторыя. Як зараз памятаю наша знаёмства. Паціснулі адзін аднаму рукі, абмеркавалі тэмы і ўсё — сышла, задаволеная і крыху ўражаная, нацягнуўшы капюшон на галаву.

Як я магла яму спадабацца, не разумею. Мой знешні выгляд казаў: максімум зручнасці, мінімум жаноцкасці. Але тым не менш прыйшла дадому, села за кампутар, знайшла ад яго прапанову сябраваць у Facebook. Пачалі «сябраваць». Увогуле, неяк дзіўна распавядаць пра тое, што адбывалася ў віртуальнай прасторы. Праўда, уздзеянне ад гэтага я адчувала цалкам рэальнае.

Напачатку нашы размовы былі проста бяскрыўднай балбатнёй. Нешта спытаць, папрасіць парады, пасмяяцца, папрактыкаваць арыгінальныя фармулёўкі думак. Карацей, пустое. Праўда, мушу прызнацца, што сапраўды было цікава мець зносіны з разумным чалавекам, які раней падаваўся недасягальным. А тут можна ледзь не дакрануцца да яго. Пасля пасыпаліся намёкі і падтэксты. А я, праўда, не ўмела іх разумець і тлумачыць! «Ты, мабыць, смачна пячэш пірагі, запрасі мяне ў госці на каву», «Я цябе сніў. Ты мяне вельмі ўсхвалявала» і г. д. Быццам бы нічога страшнага, апроч аднаго моманту, калі адчула сябе віртуальна згвалтаванай. Але як пасля паводзіць сябе з ім у рэдакцыі? Я не ведала і не разумела. Хавала вочы, пазбягала лішняга кантакту, абы не стаць у яго вачах ізноў «мясам».

«Калі пагодзішся на сустрэчу, тэксты апублікую. Калі працягнеш уключаць дурніцу — атрымай наўзамен ігнор» — вось прынцып нашых прафесійных зносін. І як бы я ні старалася, у адказ атрымоўвала адно: «Ты недапрацавала». Пасля ўжо мне патлумачылі, дзе і якім чынам я «недапрацоўвала».

На шчасце, тое, што тэрарызавала больш за год, скончылася. Я сустрэла любімага чалавека, выйшла за яго замуж, пакінуўшы ў мінулым і рэдактара, і прафесію.

Ці сутыкаліся з падобным вы? І можа ведаеце, што рабіць?

Прапануем падоўжыць тэму.

# «Нават калі я адпачываю, першы тыдзень праходзіць нармальна, а потым у галаве пачынаюць круціцца сюжэты...»

«Абажур» распытаў калег, як яны рэлаксуюць, каб не наступіла прафесійнае выгаранне. Апытанне адбывалася праз тэлефон з рэдакцыйнага шэзлонга :)



**Алесь Пілецкі, «Еўрарадыё»**

Першапачаткова сёлета я планаваў адпачынак акурат на першую палову кастрычніка, але выбарчы працэс прымусіў мяне ў гэты час, наадварот, глыбока акунуцца ў працу. Але пасля выбараў разам са сваёй любімай футбольнай камандай я накіраваўся ў Іспанію на матч «Барселона» — БАТЭ.

Што тычыцца штодзённага адпачынку, то пасля працы я звычайна нешта гатую дома. Апроч гэтага ў добрае надвор'е мне падабаецца некалькі гадзінак пакатацца на ровары: 50 кіламетраў за раз — і ўжо не думаецца ні пра выбары, ні пра апазіцыю, ні пра акцыі (смяецца). У зімовы час гэта менш актуальна, але снег жа ў нас не так шмат часу ляжыць на вуліцах.

**Аляксандр Баразенка, рэпарцёр**



Кожны дзень я прыходжу пасля працы даволі позна, таму мой адпачынак — гэта добры фільм. А па выходных я хаджу глядзець футбол. Я заўзятар Manchester United, і з суполкай беларускіх заўзятараў мы разам збіраемся на прагляды. З актыўнага адпачынку магу прыгадаць наш нядаўні сплаў на байдарках па невялічкіх рэчках у Гарадзенскай вобласці. Калі няма сілаў зусім, стараюся выехаць на прыроду куды-небудзь.



**Зміцер Лукашук, «Еўрарадыё»**

Самы лепшы адпачынак для мяне — гэта паехаць на вёску, працапіць лазню ды добра папарыцца. Прафесійнае выгаранне ў мяне не наступае, бо гэта шмат у чым залежыць ад таго, ці знаходзіцца чалавек на сваім месцы. Калі ты журналіст,

калі табе падабаецца твая праца, то цябе яшчэ больш зацягвае. Нават калі я ў адпачынку, першы тыдзень, здаецца, праходзіць нармальна, а потым у галаве пачынаюць круціцца сюжэты нейкія, тэмы.



**Алесь Залеўскі, «Белсат»**

Кожны чацвер я гуляю у футбол. Летам па выходных мы сям'ёй стараемся выязджаць на прыроду, праўда, зараз халодна стала. А так мы выязджаем, напрыклад, у Лохаўшчыну да Верасня і Жэні Манцэвіч, у Шаблі... Наогул, мы захапляемся агратурызмам у любы час года.

**Віталь Зыблюк, «Еўрарадыё»**



Больш за усё я люблю адпачываць за стырном аўтамабіля. Лепш за усё, калі ты канцэнтруешся на дарозе, кудысьці едзеш. Можна так астудзіць галаву, а з іншага боку — падумаць зноў над працай. Таму больш за ўсё я люблю зладзіць нейкая далёкае падарожжа для адпачынку. Шыны на зіму даўно памяняў. :)



**Зміцер Панкавец, «Наша Ніва»**

Я футбольчык гляджу і гуляю ў яго. Летам мы рэдакцыяй гуляем супраць іншых выданняў таварыскія матчы, а зімой толькі гляджу. Таксама мне падабаецца падарожнічаць — і за мяжой, і па Беларусі. Серыялы гляджу таксама, камедыі нейкія. Сур'ёзнае кіно глядзець не люблю — для сур'ёзнага ёсць кніжкі. Наогул, я ўвесь час чытаю.

**Воля Ярохіна, «КП»**



Мой улюбёны адпачынак — гэта кіно, паездкі і сустрэчы з сябрамі. Летам я ездзіла ў Амерыку, але гэта была такая праграма для журналістаў. Летась быў Берлін, але гэта таксама быў не адпачынак. Звычайна выязджаю на выходныя ў Вільню ці Кіеў да сяброў. Некалькі год таму ездзіла ў Турцыю загараць на дзесяць дзён, у Барселону ездзіла таксама. А так усю восень я ездзіла ў лес па грыбы — я разбіраюся не толькі ў цікавых інфармацыйных нагодах...

*Гутарыў Барыс Гарэцкі.*
*Фота належаць самім героям*

**Алесь Любянчук — тэлеаператар і «універсальны рэпарцёр», як ён сам сябе называе. Ужо сем гадоў ён паўсюдна з камерай. Не «замыліць» вока яму дапамагае своеасаблівы лад жыцця.**

# Як байдаркі ўратоўваюць

Штодня прапускаючы праз сэрца велізарны стос інфармацыі, многія журналісты адчуваюць сябе патухлай запалкай. Лекі ад гэтай прафесійнай хваробы ў кожнага свае. Алеся Любенчука ад выгарання заўжды ўратоўвала прырода і актыўны адпачынак. Нядаўна ён набыў сабе лецішча і штопятніцу з'язджае падалей ад загазаванага гораду, даючы сабе эмацыйную і фізічную разрадку.

Алесь заўжды займаўся спортам, але з зайздрасцю глядзеў на тых, хто ходзіць у байдарачныя паходы.

«Раней я ўдзельнічаў у кароткіх сплавах, — узгадвае Алесь. — Памятаю сплаў на БАЖынках, на хутары Алеся Лася. Там быў зусім невялічкі адрэзак. Тады Глеб Лабадзенка з Сяргеем Балаем нават перавярнуліся, таму эмоцый хапіла ўсім».

Але маладому рэпарцёру заўжды хацелася паспрабаваць сапраўдны байдарачны сплаў. Аднойчы Вольга Чайчыц з мужам арганізоўвалі менавіта такі і запрасілі Алеся. Пазнаўшы смак паходаў, Алесь Любянчук стаў самым верным іх прыхільнікам.

## Галоўнае — кінуць усё і пачаць!

Аказваецца, каб пайсці нават у трохдзённы байдарачны паход, варта правярнуць цэлую падрыхтоўчую аперацыю! Па-першае, трэба знайсці месца, дзе можна ўзяць добрыя байдаркі. Па-другое, варта падумаць, каго можна ўзяць з сабой у паход. Важна, каб людзі крыху хварэлі на гэта. «Са свайго досведу ўжо пераканаўся, што калі ты збіраеш каманду з людзей, для якіх паход проста забава, то падрыхтуйся да таго, што ты ўсё будзеш рабіць сам: і распальваць вогнішча, і гатаваць есці, і ставіць намёты, і рыхтаваць дровы. Таму проста нерэальна ўкласціся ў графік», — распавядае Алесь. І заўважае: «Асабліва важна, каб у людзей было добрае пачуццё гумару, бо ў паходах гэта неабходна. Менавіта тады, калі цябе сустракаюць выпрабаванні, можна пабачыць сапраўднае аблічча чалавека».

Алесь не любіць паход дзеля паходу. Калі сплаў арганізоўвае ён, то плануе маршрут такім чынам, каб паглядзець яшчэ і старыя будынкі ці помнікі архітэктуры, больш даведацца пра навакольныя мясціны, іх гісторыю і жыццё.

Між іншым, нават тады, калі маршрут спланаваны амаль бездакорна, без неспадзяванак не абыходзіцца. Адна з іх — адсутнасць сувязі ў пэўных мясцінах, што, натуральна, запінае руху. Нельга дакладна прадугледзець і стаянкі. Напрыклад,





# ад інфармацыйнага «перадозу»

калі у мінулым годзе ставілі байдарку ў адным месцы, то не факт, што сёлета можна прыпыніцца там жа, бо рака можа абмялець. А аднойчы ўвогуле праз невялікае спазненне прыплылі да жаданага берагу тады, калі на запланаванай стаянцы ў намётах ужо грэліся людзі.

І, канечне, не заўсёды можна правільна разлічыць запасы. «Аднойчы было такое, што мы ўзялі з сабой мала вады. Але Бярэзіна настолькі чыстая, што на вадзе з яе мы гатавалі есці. Магу вас запэўніць, што ніхто не атруціўся», — узгадвае Алесь.

## Журналіст… ён і на байдарках журналіст

Нават у рызыкоўныя паходы Алесь заўжды бярэ з сабой дарагую тэхніку. Ведае, як нават пры самых рэзкіх пераваротах можна захаваць апаратуру «у жывых». «Спачатку я запакоўваю ўсю тэхніку паасобку ў цэлафан. Пасля ўсё ў спецыяльныя гермабоксы. Нават калі ты перавернешся, тэхніка не прамакае.

Натуральна, што рызыка ёсць заўжды, але я прызвычаіўся ўжо, што куды б ні ехаў, куды б ні ішоў, без апаратуры — нікуды», — кажа Алесь.

Сакрэт якасных здымкаў падчас байдарачных паходаў — у прыладзе пад назвай GoPro. Яна не займае шмат месца, але робіць здымкі добрай якасці. Ёй нават можна здымаць пад вадой, калі запакаваць у спецыяльны воданепранікальны бокс. Прырода, праўда, можа ўнесці і ўносіць свае карэктывы: «Мы заўсёды плавалі па рэках, дзе хуткі цёк. Праз гэта складана трымацца, каб паспець зрабіць нармальны кадр. Ты плывеш, плывеш… І быццам бы знайшоў ужо кропку, а цябе нясе далей».

Слухаючы, колькі Алесь бярэ з сабой апаратуры ў паход, я па-добраму назвала яго Плюшкіным. Ды толькі Алесь прызнаецца, што асабліва не карыстаецца гэтай тэхнікай. Бо назіраць за прыгажосцю заходу сонца над Беразінай у рэальнасці, а не праз аб'ектыў, задавальненне значна большае, чым фатаграфаванне.

## А можа, ну яе, гэтую журналістыку?

Падчас паходаў у Алеся ўзнікалі думкі, каб з журналіста плаўна перакваліфікавацца ў турыстычнага бізнесоўцу, які б мог спакойна ладзіць байдарачныя паходы. Але, сплавіўшыся тры-чатыры разы за сезон, бізнесдумку згубіў. «Апошні паход, які мы рабілі, цягнуўся тры дні. Я прыхільнік асабліва не напружвацца і не рвацца толькі дзеля кіламетраў у паходныя дні. Ды заўсёды знаходзяцца людзі ў камандзе, якія кажуць, што варта прытрымлівацца плану. Але калі заўжды так рабіць, то можна шукаць начлег ужо ў прыцемках, што досыць небяспечна», — распавядае Алесь.

Аказваецца, калі не маеш пастаяннай трэніроўкі і добрай фізічнай падрыхтоўкі, то пасля паходаў часта баляць рукі. Таму, калі разлічваеш, на колькі дзён узяць вызваленне ад працы, варта памятаць, што некалькі дзён трэба вылучыць яшчэ на адпачынак і рэфлексію.

Самы прыгожы краявід, які давялося назіраць Алесю, — Налібоцкая пушча, дзе праходзіць Заходняя Бярэзіна: «Гэтае месца незвычайнае. Мяне заўжды чамусьці вабілі дубы. А там якраз плывеш уздоўж гэтых шматвекавых дрэў і ўспрымаеш іх як нейкіх своеасаблівых істот».

«Дык чаму той прыгажосці яшчэ няма на відэа?» — здзіўляюся я. «Трэба здымаць, — пагаджаецца Алесь. — Але, каб зняць фільм, патрэбна шмат высілкаў і працы. І, канечне, я павінен быць упэўнены ў стабільным матэрыяльным выніку таксама. Калі нейкая кампанія замовіла б такі фільм, то я б адразу схапіўся яго рабіць!

Праз паузу ён кажа, што ў жыцці, на жаль, не заўжды можаш займацца толькі тым, чым хочацца. «Трэба зарабляць, каб хадзіць у паходы. Пэўны час мяне цікавіла пейзажнае фота. І я рабіў такія здымкі. Але не магу іх прадаваць. Відаць, яшчэ не саспеў да гэтага. Што ж, заўжды добра, калі ёсць куды расці».

А пакуль байдарачны сезон не распачаўся, Алесь штовыходныя топіць на лецішчы печку і старанна разграбае сцяжынкі навокал, прадумваючы новы маршрут для чарговага сплаву.

# Журналісцкі гараскоп

Нягледзячы на тое, што незалежныя беларускія журналісты ды фрылансеры часцей сустракаюца з зоркамі на пагонах міліцэйскіх начальнікаў ды пракурораў, навагодні «Абажур» вырашыў даць нырца ў сапраўдную зорную стыхію. Што ж яна рыхтуе для пішучай брацыі пасля стрэлаў шампанскага?

З гэтай нагоды сваімі думкамі дзеліцца вядомы астролаг Павел Антыглобал :)

Сцвярджаюць, што наступны год паводле кітайскага календара абвешчаны годам Малпы (жывёла гарэзлівая, непрадказальная). На што ў першую чаргу варта звярнуць увагу ўсім супрацоўнікам онлайн-выданняў? Як прадказваюць зоркі, ужо з 1 студзеня іх могуць падпільноўваць непрыемнасці, бо з пачаткам новай дэкады не выключаецца надзвычай моцная актыўнасць такіх планет, як Мінісувязь і Мініінфармацыя.

Тым жа адмыслоўцам, якія трывала звязалі сваё жыццё са знакам Журналістыкі, Космас можа падкідваць неспадзяванкі штомесяц.




### Сакавік

Тут астролагі раяць журналістам звярнуць асаблівую увагу на жанчын у рэдакцыі, бо ў першай дэкадзе месяца не выключаны пачатак іх раптоўнага квітнення, працэс можа зацягнуцца на ўвесь год. Аматары ведаюць, калі правільна даглядаць за ружамі, іх шыпы становяцца мягкімі. Аднак не забывайцеся, што праз 9 месяцаў вы можаце нечакана сутыкнуцца з пажынаннем пладоў.

На 25 сакавіка, хутчэй за ўсё, прыпадзе духоўнае супрацьстаянне Дабра і Зла, таму ў гэты дзень у незалежных журналістаў ёсць вялікія шанцы правесці вечар у кампаніі моцных дзецюкоў, што звычайна жывуць у мікрааўтобусах з чорным шклом і без нумароў.





### Студзень

Нябесныя свяцілы папярэджваюць, што ў першую палову месяца, звычайна зранку, многія журналісты мусяць скардзіцца на кепскае самаадчуванне і лёгкі галаўны боль. Але ўжо ў другой палове студзеня тыя, хто пастаянна ўжывае болесуцяшальны сродак — глечык расолу, — адчуюць істотнае паляпшэнне. У некаторых асобаў нават з'явіцца жаданне пачаць новае жыццё.

### Красавік

З 1 красавіка часопіс «Абажур» стане даступным у шапіках «Белсаюздруку» і падпісным каталогу «Белпошты», таму не забудзьцеся выпісаць ці набыць наша карпаратыўнае выданне. У гэты ж дзень вельмі ўважліва правярайце ўсе інфармацыйныя паведамленні. 26 красавіка зоркі не раяць журналістам пасыпаць галовы радыеактыўным попелам. Лепш наведайце ўчастковага дазіметрыста і праверце яйкі і малако на радыяцыю ды тэстастэрон.



### Люты

У лютым зоркі раяць карэспандэнтам, асабліва аматарам вулічных апытанняў, працаваць вельмі абачліва, бо не выключаецца верагоднасць адмаражэння. Памятайце, здаровыя ды цвярозыя мазгі нам яшчэ спатрэбяцца!

У гэтым жа месяцы фінансавы стан журналістаў істотна палепшыцца, бо працаваць яны будуць на цэлы дзень болей, чым звычайна. Дарэчы, 29 лютага —панядзелак. 14 лютага зоркі раяць супрацоўнікам СМІ не шкадаваць цёплых словаў для сваіх кіраўнікоў, бо ў 2016-м гэта можа прынесці дадатковыя бонусы. Ва ўсіх іншых выпадках — пад час шчыльнага інтэрв'ю ці занатоўваючы новы нумар тэлефона ў графу Contacts — зоркі раяць у далейшым не забывацца на прадукцыю фірмы Contex.



### Май

У першыя дні мая астролагі не выключаюць масавага ажыўлення ўсяго чырвонага ды камуністычнага. Калі 5 траўня вы не збіраецеся адзначаць дзень нараджэння Карла Маркса, а толькі савецкі Дзень друку, раім зверыць уласныя планы з календаром пасадкі бульбы і — ў вёску. 9 Мая — святы дзень і зоркі кажуць, што ўсе мы можам прапахнуць порахам. Аднак незалежным журналістам не прывыкаць, мы і так, як тая штрафная рота, штодня на перадавой. А яшчэ 9 мая сёлета выпадае на панядзелак, таму нас чакаюць тры выходныя дні запар.



# на 2016 год





## Чэрвень

У чэрвені нябесныя свяцілы прагназуюць пачатак лета. У сувязі з чым журналісткі нарэшце змогуць скінуць з сябе лішнюю вопратку, а журналісты — абавязкі. Гэтымі ж днямі пачынаецца летні расслабон і, верагодна, парламенцкая выбарчая кампанія. Не выключана, што ў чэрвені надзвычайную папулярнасць сярод журналістаў набудуць не рэпартажы, а сэлфі з месцаў адпачынку — не забудзьцеся перазарадзіць свой гаджэт і запасціся плаўкамі ды купальнікам. Клапаціцца пра фігуру ў гэтым месяцы ўжо позна.




## Ліпень

У ліпені зоркі раяць журналістам не заходзіць у лясны гушчар за папараць-кветкай, не заплываць за буйкі і не пераходзіць межы Кодэкса журналісцкай этыкі. У гэтым месяцы пад звон новых манет журналісты распачнуць другую палову года. Зоркі ж тым часам раяць засцерагацца падробак і прагназуюць сумнае развітанне беларускага грамадства са статусам мільянераў.




## Жнівень

У жніўні зоркі па традыцыі перасцерагаюць журналістаў ад паглыблення ў тэму фантана ў Дзень дэсантніка. А праз тыдзень-другі пад звон спелых жытнёвых каласоў прадстаўнікі дэмакратычнай журналісцкай супольнасці змогуць глынуць крыху «нулёвачкі» на БАЖынках. Важна таксама не забыцца павіншаваць з днём нараджэння Жанну Літвіну (экс-прэзідэнта БАЖ) і Аляксандра Лукашэнку. Галоўнае — не перабытаць!



## Верасень

У верасні беларускіх журналістаў ізноў чакаюць бяссонныя ночы ў штабах апазіцыйных кандыдатаў. Аднак астролагі адназначна сцвярджаюць: выбары ізноў «скончацца а 20 гадзіне». Магчыма, гэта будзе апошняя выбарчая кампанія для Лідзіі Ярмошынай на пасадзе кіраўніка Цэнтральнай выбарчай камісіі. Гэты факт можа справакаваць імклівае завяршэнне эпохі элегантных перамог, аднак яшчэ не ў 2016 годзе. Таму зоркі раяць журналістам загадзя падрыхтаваць свае пытаннечкі.

## Кастрычнік

У кастрычніку тыя, хто не зрабіў гэта ў верасні, змогуць ізноў падзяліцца ў сацыяльных сетках фотаздымкамі пра свой летні адпачынак. Астралагічны фон спрыяльны для збору і сушкі грыбоў. У кастрычніку таксама варта не забыць павіншаваць сваіх матуль і настаўнікаў з адпаведнымі святамі.



## Лістапад

У лістападзе прадстаўнікі ўсіх грамадска-палітычных выданняў змогуць прыняць удзел у Дзядах, заяўка на якія у 2016-м будзе пададзена ўжо на 10 тыс. чалавек. У астатніх журналістаў прагназуецца наведванне кінафестывалю «Лістапад». Дарэчы, сёлета 7 лістапада (дзень камуністычнага перавароту ў 1917-м) таксама выпадае на панядзелак.



## Снежань

У снежні беларускім журналістам прыйдзецца традыцыйна запасціся цёплай вопраткай, бо 10-га мусім адстаяць за правы чалавека. Затым трэба будзе прыдбаць калядную елку і стаць у чаргу за гарошкам ды кілбасой. І самае галоўнае ў снежні — не забыцца набыць журналісцкі гараскоп на 2017 год.

**Дай нам, Божа, сілы выстаяць у 2016-м і пражыць яго годна, не губляючы надзей і сяброў, з радасцю і любоўю!**



Бацькамі сёлета сталі сябры БАЖ Таццяна Гусева, Марына Маўчанава, Таццяна Шапуцька і Глеб Лабадзенка, Таццяна Бублікава, Вольга Кузьміч і Юра Сідун, Алена Насковіч, Вольга Шыракаступ, Ілля Маліноўскі, Вікторыя Мікуліч, а зусім нядаўна яшчэ Марыйка Мартысевіч і Павел Касцюкевіч.

Магчыма, мы не даведаліся яшчэ пра кагосьці, але вельмі жадаем дзеткам шчаслівага ўзрастання, а маладым бацькам — мудрасці і радасці!